









**«МАЛЕНЬКІЯ КАРЦІНКІ ДЛЯ ВЫСВЯТЛЕННЯ ВЯЛІКІХ ПЫТАННЯЎ...»**

Сацыяльныя назіранні, зробленыя 12 чэрвеня 1988 г. на Камароўскім рынку.

Фота Уладзіміра КАЦАПАВА.

Размову пра кааператывы працягваем на стар. 8.

Вокладка Сяргея ФІЛІПАВА.








ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# крыніца

№8
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**Рэдакцыйная калегія:**

Генадзь БУРАЎКІН
Аляксей ДУДАРАЎ
Леанід ЕКЕЛЬ (намеснік галоўнага рэдактара)
Міхась КАЦЮШЭНКА (першы намеснік галоўнага рэдактара)
Уладзімір ЛАБУНОЎ
Міхась ПАДГАЙНЫ
Аляксей СКАКУН
Мікалай ЧАРГІНЕЦ
Павел ЯКУБОВІЧ

Мастацкі рэдактар
Сяргей ФІЛІПАЎ

Тэхнічны рэдактар
Марына МАЛЕЦ

Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ем якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і па пошце аўтарам не вяртае.

**ПІШЫЦЕ:**
**220807**
**г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва, 11**

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.

Здадзена ў набор 16.06.88.
Падпісана да друку 15.07.88.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,9.
Зак. 1030.
Тыраж 31 510 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

© «Крыніца», 1988



# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## МНЕ СУМНА...

Сёння прачытала часопіс і вырашыла напісаць. Я жыву ў Мінску (у цэнтры). Спачатку пра сябе, дый яно ўвогуле ўсё будзе пра мяне. Узрост — 16,5, знешнасць — сярэдняя.

У свае 16,5 паспела ўсё ці амаль усё. Займалася спортам да 13, потым вуліца: п'янкі, курэнне да адурэння, бойкі да 14, дыскатэкі і бары — 15. З 15 да 16 самы бурлівы час. Я рабіла ўсё: вучылася, працавала, танцавала, гуляла, няньчыла дзяцей, спала з хлопчыкамі і г. д.

Але вось мне споўнілася 16. Спынілася і падумала пра тое, што будзе далей. Вырашыла, што хопіць, самы час спыніцца. Як вырашыла, так і зрабіла. Усе сталі мною задаволеныя. Усе, акрамя мяне. Мне стала сумна. Ад няма чаго рабіць бадзяюся па кватэры і таўсцею ад нуды. У люстэрка і не гляджу. Апусцілася і вонкава і ўнутрана. Раней я не даравала подласці, здрады і цынізму. А цяпер я сама стала такая. Нават калі я курыла траўку, не была такая абыякавая. Я хачу спытацца ў вас і вашых чытачоў: куды сябе дзець? Што мне рабіць з сабою? Як жыць далей?

А тым, хто хоча кінуць усё (шмоткі і г. д.) кажу: «Кідайце! Але перш падумайце, як жыць далей».

Выбачайце за памылкі (гэта не матэматыка).

**ДАША**

P. S. Вы не падумайце, што я дурніца канчатая. Я і кніжкі начамі да самай раніцы чытаю, і філасофію люблю, але гэтага мала.

## А ШКОЛЬНІКІ ІДУЦЬ МІМА

Звяртаецца да вас вадзіцель аўтобуснага парка № 3 г. Пінска. Спадзяюся, і мой ліст змесціцца ў люстраной зале. Мне як вадзіцелю вельмі часта прыходзіцца бываць у в. Онава. Справа ў тым, што там няспынна гандлююць віном у магазіне.

Уранку, прыкладна гадзін у восем, з'яўляецца група жадаючых апахмяліцца. Потым знікае (напэўна, дачакаўшыся «прадаўца»). Да 11 гадзін збіраецца чарга, а ў час адкрыцця магазіна, у 14, тут столькі народу, што ствараецца ўражанне, нібыта сюды ўвесь раён з'ехаўся.

Каго тут толькі не ўбачыш: рабочых у спецадзенні, зусім маладзенькіх хлопцаў... Яны чакаюць некага... Ім купляюць віно і выносяць.

Выносяць сумкамі, і пачынаецца размеркаванне... Віно хаваюць за пояс, пад куртку, сунуць у рукавы, кішэні...

Разыходзяцца задаволеныя. Тут і мамы з дзіцячымі каляскамі. Атрымаўшы сваю долю, хаваюць у каляску...

Усялякія тут сустракаюцца людзі. Толькі няма тых, хто павінен змагацца са злом. Іншы раз, праўда, дзяжурыць участковы, назірае за чаргой.

Вакол магазіна пастаянна стаіць транспарт: самазвалы, «газікі», «рафікі», нават санітарныя машыны...

Побач знаходзіцца школа. Вучні кожны дзень ходзяць міма, глядзяць на ўсё гэта, і нікога гэта не хвалюе.

**С. МАРОЗАЎ**

г. Пінск

## ДАРУЙ, МАМА!

Прачытала ліст «Ненавіджу» і ў мяне ў вачах пацямнела. Успомніла, якая я была ў 15—16 гадоў. Словы Анжэлы балюча ўкалолі маю памяць. «Калі не можаш, не трэба было раджаць! Ненавіджу!» — гэта сказана маці, якая ўскарміла сваімі грудзямі, песціла, берагла ад хвароб, ад усялякай бяды сваю дачку. І ў выніку сама трапіла ў такую бяду! Ведаеш, Анжэла, гэта жорстка, эгаістычна. Я ў маладосці таксама сказала такія ж ці амаль такія ж словы сваёй маме, а цяпер, калі ў мяне растуць дзеці, зразумела ўсю жорсткасць гэтых слоў, і ўсё жыццё у мяне баліць сэрца, баліць мая памяць пра тыя дні, я лічу сябе і буду лічыць да апошняга дня вінаватаю. Як адкупіць маю віну? Ох, як я разумею тваю маму, Анжэла. Ды ёй, напэўна, было б лягчэй памерці, чым пачуць гэтыя словы, чым бачыць такія прыкрыя паводзіны «доні сваёй».



Не, я не буду гаварыць, як складана і цяжка выгадаваць дзіця. Але тысячу разоў магу паўтарыць словы: «А замест падзякі пачуць крыўдныя ды проста зняважальныя словы ад свайго дзіцяці». Ты сама будзеш маці і абавязкова зведаеш усе складанасці жыцця і выхавання дзяцей. І паспрабуй хоць на імгненне ўявіць сябе на месцы сваёй маці, а такое ж можа здарыцца. Анжэла, ведай, што словам можна жорстка параніць, і ніякім словам, а іншы раз і нават жыццём тую рану вылечыць немагчыма. А на дыскатэцы, разумею, хочацца выглядаць не горш за іншых. Мая парада: паспрабуй сама зарабіць гэтыя сто пяцьдзесят рублёў сумленнаю працаю, можа, тады хоць крышачку зразумееш сваю маці. Ты ж нанесла ёй сардэчную рану, якая ніколі да канца не загоіцца.

І хлопцы ад цябе не пойдуць, не спяшайся. Будзь разумнейшая за сваіх звышмодных равесніц. Павер майму вопыту, адзенне не галоўнае, галоўнае, які чалавек, што ў яго на душы. А добрыя хлопцы перш за ўсё, нават калі глядзяць на модную, для жыцця выбіраюць душэўную, чулую, уважлівую, добрую дзяўчыну. Павер, добры чалавек зможа знайсці сабе менавіта добрага чалавека.

**Людміла БРУТ**

г. Мінск

## ЯК МНЕ БЫЦЬ!

Я нават не ведаю, да каго я звяртаюся, але мне неабходна ўсё некаму расказаць.

Мне 16 гадоў. Вучуся я ў Салігорскім ПТВ. Не падумайце, што я прыехала з вёскі. Зусім не. Я нарадзілася і вырасла ў Салігорску. Вучылася сярэдне (3—4) і калі скончыла 8 класаў, паступіла вучыцца туды, куды ішлі ўсе (большае мне і не свяціла).

Мае бацькі ўкалвалі з ранку да ночы, імкнуліся мне ўсё дастаць. Я атрымлівала ўсё, што хацела мець, сяброўкі лічылі мяне сучаснай, «крутой» дзяўчынкаю.

Але вось паўгода назад я пазнаёмілася з Генам. Ён на пяць гадоў старэйшы за мяне, вярнуўся з арміі. Ён звярнуў на мяне ўвагу на дыскатэцы (на яго ўвагу звярнулі ЎСЕ!). Праз два тыдні я лягла з ім у ложак. Але не ў гэтым справа. Такое здаралася і раней. Справа ў тым, што я ПАКАХАЛА яго па-сапраўднаму. Ён аказваў на мяне моцны ўплыў. Да сустрэчы з ім я курыла і піла, ён прымусіў мяне забыцца пра гэта раз і назаўжды.

Два месяцы назад я зразумела, што ў мяне будзе дзіця. Дзве ночы я амаль не спала. Калі Гена даведаўся пра гэта, ён і не падумаў кінуць мяне, прапанаваў распісацца.

Але калі я сказала пра гэта бацькам, я не пазнала іх. Мая ціхая, забітая маці стала цвёрдая і заявіла, што ніколі не дазволіць мне выйсці замуж за гэтага «злачынца». (Гена яшчэ да арміі быў асуджаны за крадзеж, але гэта ж было так даўно, а цяпер ён працуе і нават не п'е, не кажучы ўжо пра горшае.) Яна і слухаць не хацела, а бацька стаў на яе бок. Яны схавалі мой пашпарт, сталі хаваць куртку, каб не пайшла, калі іх няма дома. Сказалі, што ўнука будуць гадаваць самі. Гена тэлефануе мне, прыходзіць, калі іх няма (як гэта рэдка бывае, продкі ж не пакідаюць мяне ні на секунду). ПТВ я кінула, бо цяжарнасць сваю я ўжо ўтаіць не магу, дый бацькі не хочуць, каб я там вучылася.

Я не ведаю, што мне рабіць. Няўжо чалавек не мае ніякіх правоў? Адкажыце на маё пытанне ў часопісе. Бо ж, напэўна, мой лёс не адзіны, і іншыя хлопцы і дзяўчаты пакутуюць праз сваіх бацькоў.

Да пабачэння.

**МАРЫНА К.**

г. Салігорск

## СПРАВА НЕ Ў ТРАЯЧЦЫ!

Чалавек, які 7—8 месяцаў у годзе праводзіць у камандзіроўках, мае пэўныя складанасці, простыя побытавыя драбніцы робяцца для яго іншы раз невырашальнымі праблемамі. Для мяне такой праблемаю сталі зубы, дакладней, неабходнасць іх лячыць. Адмыслова сустрэлі мяне ў рэгістратуры стаматалагічнай паліклінікі ў Магілёве.

— Мінская прапіска? Тады вам трэба звярнуцца ў кааператыў ці ехаць у гасразліковую паліклініку, мы вас абслугоўваць не будзем.

— А ў чым розніца паміж гасразліковай паліклінікай і кааператывам?

— У кааператыве даражэй.

Паколькі кааператыў, як высветлілася, знаходзіўся пад адным дахам з паліклінікай, то, вядома, выбар быў зроблены на яго карысць. Сустрэлі ветліва, завялі, можна сказаць, за руку да свабоднага доктара. Пяць хвілін з таго моманту, як я звярнуўся ў рэгістратуру, прайшлі, а пломба ўжо стаіць, можна ісці. Доктар цікавіцца, ці не палячыць адразу ж і суседнія зубы. (У дзяржаўнай паліклініцы пра гэта і марыць не прыходзіцца. Норма: талон — зуб. Колькі зубоў сабраўся лячыць, столькі дзён і хадзі). На развітанне атрымаў талон-гарантыю на паўгода (усё ж такі і ў кааператывы пранікае бюракратычны стыль — ёсць жа ўжо запіс аб прыёме, ён якраз можа быць падставаю для паўторнага візіту).

А яшчэ вынес я адтуль пытанні да Міністэрства аховы здароўя, адказу на якія не знаходжу.

Атрымліваецца, што частка нашай аховы здароўя стала платнаю (нават у дзвюх формах: гасразліковай і кааператыўнай). Аднак доля сродкаў, якія пералічваліся з заробку кожнага працоўнага ў дзяржбюджэт, каб потым пайсці на патрэбы аховы здароўя, не змянілася. Колькасць дзірак у зубах на тысячу насельніцтва за апошнія два-тры гады таксама не павялічылася. Ці не хоча Міністэрства аховы здароўя ў якойсьці форме вярнуць нам частку грошай, атрыманых з бюджэту, менавіта тую частку, якую мы сталі даставаць са сваёй кішэні наяўнымі грашыма. Мы ўжо «чохам» аплацілі «бясплатную» медыцынскую дапамогу, чаму тады прыходзіцца плаціць другі раз за тую ж медыцынскую дапамогу?

Мне зусім не шкада трох рублёў, я аддаў бы і болей, толькі б не стаяць у чарзе і прыходзіць у зручны для сябе час на прыём да доктара, я ўдзячны доктару з кааператыву, які лячыў мяне. Пытанне ў іншым: з маёй траячкі, аддадзенай кааператыву, у міністэрстве складваюцца мільёны (яно ж перастала траціць на мяне сродкі!). Думаю, што пытанне трэба вырашаць прынцыпова. Не хочаце ці не ўмееце забяспечыць якасную медыцынскую дапамогу, дык вярніце нашы грошы, вярніце, у імя, так сказаць, палітэканамічнай справядлівасці.

**І. СІНЧУК**

г. Мінск

СПАДЧЫНА

ІСКРА

## СТАРЫ КРЫЖ

На шляху, дзе камні, жвіровы пясочак,
Дзе вёска там побач і дробны лясочак,
Ля крушні стары крыж стаіць.
Ен мохам аброс і набок пахіліўся,
Пад сподам падгніў і наскрозь рашчапіўся,
На ім толькі стружка блішчыць.

Праходзіць араты, ён шапку здымаець,
Жагнаецца, далей кабылку ганяець
Да вузенькай гоні сваей;
То старац праходзіць, то бойкі хлапчына,
То Наста-бабулька, то красна дзяўчына —
І льюцца мадлітвы з грудзей...

А часам нікога няма ўжо, здаецца,
І белая хмарка з-пад пушчы нясецца,
Прыстане, чакае, глядзіць...
Вось цэлая хеўра вясёлых пяюшак,
Малых, гутарлівых і жвавенькіх птушак
Лятаюць сюды адпачыць...

Іх песні да самага неба лунаюць,
Здаецца, не птушкі — анёлы спяваюць,—
Ім неба як хорам святы...
Кругом толькі белыя мніхі-бярозы,
На кволых лісточках раса, нібы слёзы,
Ля пня мухамор залаты...

Часамі далёка ад мілай краіны,
Бы сорвану з роднага дрэва галіну,
Бяздольніка мукі гнятуць...
Шчыміць у грудзях, і туманіцца вока,
Удаль пазірае далёка, далёка...
І думы да вёскі лятуць...

Гатоў ён да крыжа туліцца грудзямі,
Абмыць мох старэнькі сваімі слязамі,
Калені да крушні прыгнуць...
І выказаць споведзь пад небам на волі,
Дзе хлопчыкам пасвіў кароўкі на полі,
Пасля хоць навекі заснуць.

## ОЙ, БОЖАНЬКА...

Ой, божанька, дакуль на свеце гэтак будзе,
Што смерць, і боль, і гора самі сабе людзі
Шукаць, як шчасця, будуць цёнгле адусюль!
Ой, божанька, дакуль!..

Ой, божанька, дакуль так сэрца будзе дзіка!
Агонь, і кроў, і слёзы хваляю вялікай
Зямлю ўсю залілі... і ўсё кіпіць... шуміць...
Ой, так не можна жыць!..

Ой, божанька, дакуль араты спрацаваны
У роднай хаце будзе раптам забіваны!
І маці апаганена, дзіця і дзед
Замучаны ўслед!..

Ой, божанька, ўвесь свет у гібелі ў магіле...
Чаму пацехай служыць ўсё нячыстай сіле!..
Жадаеш нашых енкуў!.. Хочаш нашых мук!..
Мы ж творы тваіх рук!..

Ой, божанька, паслухай шчырыя мадлітвы:
Ты воляю сваёй зруйнуй благія бітвы...
Пад слонцам хай ўсе людзі, як адзін народ,
Жывуць у царстве згод!

Ой, божанька, хай прыйдзе сон святых прарокаў
Аб шчасці на зямлі, што вырасцець высока,
Аб тым, што вострых штых у плуг перакуём,
А меч будзе сярпом...

## ЗАГАДКАВЫ ПСЕЎДАНІМ

У 1914 г. у газеце «Беларус» было апублікавана некалькі вершаў пад псеўданімам Іскра (Йскра). Акадэмік Карскі і нашы сучасныя даследчыкі лічаць, што гэта быў Бядуля. Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» такога псеўданіма ў С. Плаўніка (Бядулі-Ясакара) не называе. Ды і сам паэт вершаў «Іскры» ў свае прыжыццёвыя выданні, здаецца, не ўключаў.

Адзін з тых вершаў — «Ой, божанька...» — напісаны на такім высокім ідэйна-мастацкім узроўні, што мог бы зрабіць гонар найвыдатнейшаму паэту. Ён, як лепш не трэба, засведчыў ідэйную сталасць нашай паэзіі, якая з такой сілай мастацкай пераканаўчасці раскрывала злачынны характар імперыялістычнай вайны адразу ж, як толькі яна пачалася.

Дык хто ж такі быў Іскра! Можа, радкі з верша «Стары крыж» пральюць нейкае святло на гэтае пытанне:

Часамі далёка ад мілай краіны,
Бы сорвану з роднага дрэва галіну,
Бяздольніка мукі гнятуць...

Гэты матыў асабліва характэрны для паэзіі Алеся Гаруна, «бяздольніка», закінутага лёсам «далёка ад мілай краіны». Менавіта ў яго найбольш натуральна і апраўдана гучалі б радкі пра пакуты чалавека, адарванага ад роднай краіны.

У перажываннях героя, трэба думаць, увасобіліся пачуцці самога аўтара. І цяжка дапусціць, што ў Бядулі з'явілася гарачае жаданне прытуліцца да крыжа, абмыць яго слязьмі і выплакаць там сваё гора разлукі.

Праўда, мы ведаем, што і Гарун не быў рэлігійны. Крыж тут успрымаецца як такі знаёмы і пашыраны сімвал родных мясцін, як напамін аб тых дарогах і сцежках, па якіх калісьці і яго самога насілі ногі. Сам герой не звяртаецца да бога ці Хрыста з малітвай або выразамі пакорлівасці. Для яго крыж існуе толькі як напамін аб далёкіх родных пейзажах. Такую ж ролю адыгрывае і крушня, і неба над галавой.

Дык ці не Алесь Гарун хаваецца пад псеўданімам Іскра (Йскра)!

Уладзімір КАЗБЯРУК





# БУЛЬБА

Іван СІНІЦКІ,

звеннявы саўгаса «Загальскі», дэпутат Вярхоўнага Савета СССР

— Што будзем гатаваць на снядананак? — пытаецца зранку жонка.

— Дранікі! — просяць дзеці.

— А на абед?

— Бульбяны суп і бульбяныя клёцкі. І за вячэраю не бываем без бульбы. З яе, кажуць беларусы, можна прыгатаваць больш як 500 страў. Таму нас і называюць жартаўліва «бульбашамі».

Куды ні зірні, хоць у вясковую хату, хоць у гарадскую кватэру, у праўленне калгаса ці ў райком камсамола, усюды пачуеш размову пра наш другі хлеб, пра бульбу. Стукаюць касцяшкамі бухгалтарскія лічыльнікі, пішучыя машынкі, выдаюць інфармацыю падліковыя прыборы. Уборка бульбы закончылася. Падбіваюцца, як кажуць, бабкі.

Шмат гадоў я вырошчваю бульбу. Звеннявы ў сваім саўгасе «Загальскі». Лічбы ў зводках нібыта не даюць поваду для трывогі: у нашым звяне выйшла больш чым па 400 цэнтнераў клубняў з гектара. І ва ўсёй гаспадарцы вынікі добрыя. І ўсё ж я не магу сёння падзяліць радасці землякоў. Як, за кошт чаго збіраем такія вялікія ўраджаі?

Часта і шмат гаворым мы пра гэта паміж сабою, у звяне, у полі і на агульных сходах у саўгасе і ў раёне на пасяджэннях бюро райкома партыі. Зямля-карміцелька, маўляў, павінна выкарыстоўвацца па-гаспадарску. Хто будзе аспрэчваць бясспрэчнае? А кожны дзень, непасрэдна на полі? Не вяртаем зямлі нават таго, што яна дае. Калі шчыра, то рабуем зямлю. Што ні год — усё бяднейшая робіцца яна. Іду на працу, і душа не на месцы: ледзь толькі падзьме трохі мацнейшы вецер — стаіш чорны, бы тая зямля... Нясе і нясе смерч урадлівы слой куды хоча.

Тарфянікі ў нас. Урочышча Зыслаў, на якім сёлета я зноў вырошчваў бульбу, было калісь багністым непраходным балотам. Асушаны балоты і тут, і ва ўсёй акрузе дзякуючы неверагодным намаганням чалавечых рук. Тыя, хто меліяраваў гэтыя плошчы, напэўна, не сумняваліся, што робяць добрую справу: паляпшаюць зямлю. Толькі беражы ўмела, паважай зробленую працу, нашчадак-зямляк.

Неяк, згадваю, казаў мне пра гэта бацька, які партызаніў акурат у гэтых мясцінах, дзе я цяпер ару поле. Пасля вайны ён аслеп на абодва вокі, але да апошніх дзён сваіх не страціў пільнага сялянскага чуцця, удзячнага стаўлення да прыроды, да ўсяго жывога. Чорныя смерчы, белы пясок, што прасыпаўся «на далонь», не давалі яму спакою. Часам я таксама сек, як кажуць, з пляча, не згаджаючыся з ім. Чаго, маўляў, ты так перажываеш, бацька? Наша партызанская зямля яшчэ ніколі не падводзіла. І бульба ў твайго сына вунь якая — адна пад адну, па кулаку, а то і па два. Задарма, ці што, кожны год прэміі, а то і ордэны? Але бацька слухаў мяне моўчкі. Хмурыўся толькі. Ніякія ўзнагароды не маглі пераканаць яго. У непарадку зямля, лічыў ён, і няма такому гаспадару ні апраўдання, ні даравання.

Сёння і я разумею: нельга жыць адным днём. Заглядваць трэба наперад. Не на год і не на два — прыйшоў час на дзесяцігоддзі планаваць ураджаі, рыхтаваць да іх зямлю. Рыхтавацца самім. Напэўна, аднаго механізатарскага майстэрства недастаткова, каб зрабіць зямлю больш урадлівай. Гэта боль за справу рук сваіх прымусіў мяне ў 30 з лішкам гадоў сесці за студэнцкую парту, паступіць у сельскагаспадарчы тэхнікум на агранамічны факультэт. Шчыра прызнаюся: перад першым жа экзаменам прыйшлося мне чырванець. Не ад таго, што не ведаў прадмета. Адказы былі мне вядомыя, але не дазволіла адказваць сумленне. Здзіўленыя аднакурснікі абступілі, жадаючы павучыцца ў знакамітага практыка: як змагаецеся з ветравой эрозіяй, як захоўваеце свае тарфянікі пад добрыя ўраджаі бульбы?..

А мне і сказаць няма чаго. Ім жа не кніжная патрэбна парада, а практычная. Але ў нас няма дагэтуль ні ахоўных лесапалос, ні сістэмы папараў. Угнаенняў зямля атрымлівае толькі трэцюю частку ад належнага. Не наладжана вытворчасць арганічных угнаенняў. У ліхаманцы сельскагаспадарчых кампаній часта б'ём на тэрміны, на планы, на паказчыкі, абсалютна забываючыся пра зямлю. Нібыта з неба падае бульба.

Дорага дастаецца ўраджай. Недаравальна дорага. Калі задумацца ды паглядзець далей, вінаватыя не толькі перад раллёю. Услед за зямлёю, што ператвараецца ў баласт, бяднее і душа чалавека. А абыякавасць руйнуе пачуццё гаспадара. Адказваць перад бацькаўшчынай за ўсё гэта нам. І практыкам, і кіраўнікам, і вучоным.

Як мала мы сёння клапоцімся пра тое, якую зямлю пакінем у спадчыну дзецям — поўную ці пустую. Якія неабачлівыя мы. А ў мяне васьмёра дзяцей. У восем разоў і адказнасць большая. Хацелася б, каб сталі яны не толькі спажыўцамі — стваральнікамі. Але адчуваю пакуль на сабе толькі дакорлівы позірк старэйшага сына, студэнта таго ж тэхнікума, у якім вучыўся і я: што ж вы робіце з зямлёю, тата?

Летась выйшла ў мяне рэдкая ўдача. З васьмігектарнага ўчастка сабраў па 630 цэнтнераў клубняў з гектара. Такую ўраджайнасць даў сорт «Ружа». Дома было свята. Адчуваўся пад'ём у гаспадарцы. Прыязджалі паглядзець на гэты цуд суседзі, былі і сталічныя госці, вучоныя. Віншавалі мяне. Адзначылі: вопыт. Але ў будучыні, прадбачу, ураджай упадзе і на гэтым лапіку зямлі. Не вытрымае напругі зямля.

З другога боку, менавіта такія ўраджаі ці блізкія да іх час атрымліваць нам усюды. Для гэтага, праўда, патрэбны вялікі комплексны клопат і разумны падыход да справы. Тыя ж лесапалосы можна саджаць хоць бы на суботніках. Замест таго, каб толькі выгляд рабіць, што прыбіраем тэрыторыю. Лесапалосы ж для нас больш важныя! Інакш бы ставіліся людзі і да суботнікаў. Ёсць жа розніца: з карысцю ці без карысці праходзяць яны. Альбо тая ж сістэма папараў. Забылася пра яе агранамічная служба гаспадаркі. А аграномы, бывае, замінаюць нам, механізатарам. Марнуем час і нервы на спрэчкі: які сорт дзе пасадзіць? Не хачу крыўдзіць спецыялістаў, але нам, механізатарам, тут лепш відаць: да маршчынкі ведаем кожнае поле, гадамі назіраем за сартамі. Вобразна кажучы, у справе праводзім іх выпрабаванні. Больш трэба давяраць непасрэднаму выка-

Працяг на стар. 11

## Алесь АРКУШ

Алесь Аркуш скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Жыве і працуе ў Наваполацку. З'яўляецца членам наваполацкага літаратурнага аб'яднання «Крыніца».

### НА ВЕЧАРЫ ПАЭЗІІ

О, колькі нас смелых
Мянціць языкамі
І то калі ў гэтым
Няма небяспекі.

— Ты сам паспрабуй.
...І стаю перад вамі,
І вусны дранцвеюць,
І шэпты — як здзекі.

З чаго распачаць
Мне размову, каб словы
Прытулак знаходзілі —
Ў душах сагрэцца!

Якія узрушыць
Жыццёвыя сховы,
Каб грукала слова
Ад сэрца да сэрца!

Хвіліны маўчання
Даўжэй за гадзіны.
З чаго распачаць!..
Пачынаю з Радзімы.

### УЦЁКІ

Уначы Вурдалак галасіў,
У Мёртвым возеры білі званы.
Я з апошніх падманлівых сіл
Пілаваў на сабе кайданы.

Гэта ноч для уцёкаў — як ёсць.
Я не ведаю лепшых замоў.
Абароніць мяне прыгажосць,
Захавае ад скону любоў.

Што мне жахі твае, Вурдалак!
Ты ў памыйныя здрады не ўлез.
Вечарніца, як змоўніцкі знак,
Мне сцяжыну пазначыла ў лес.

У Мёртвым возеры білі званы...

● ● ●

Свет наш не ведае райскіх мясцін.
Мусіць, яны толькі ў кнігах ды песнях
Клічуць вандроўнікаў мройным узлессем.
Свет наш не ведае райскіх мясцін.

Прывіднай [illegible]ічкай думка ўваскрэсне:
Досыць ра[illegible]ць пісягі каляін,
Све[illegible] наш не ведае райскіх мясцін,
[illegible] яны [illegible]олькі ў кнігах ды песнях.

...знічк[illegible] хвілі[illegible] тры[illegible]

## Валянціна АКСАК

Валянціна Аксак нарадзілася першага мая. Яе радзіма — вёска Смалічы — калісь была маёнткам вальнадумца Аляксандра Незабытоўскага. Атрымаўшы дыплом гісторыка з пячаткай Белдзяржуніверсітэта, стала журналісткай. Працуе у Полацку, жыве ў Наваполацку.

### ЧОРНА-БЕЛЫ СОН

1

Сукню купіла класічнага строю,
Стала прад сынам з абновай такою.
— Цябе не люблю я ў чорнай
сукенцы! —
Жорсткі прысуд прагучаў на прымерцы.

— Можа, мне белую, сынку, купіць!
— І ў белай таксама не буду любіць!
— Чаму ж, мой міленькі! — ледзь слёзы
адолела.
— Таму, што ў вясёлкі няма гэтых
колераў!

Каб сына суцешыць, сукенку збыла,
Ды чорная хмара ізноў наплыла,
Зыначыла смуткам вясёлыя вочы
І ночы абліла адценнем сірочым.

Што мне рабіць! Як мне з гэтым мірыцца!
Лягу у белым, а чорнае сніцца.
Белае ў чорным і чорнае з белым —
Так і жыву ў гэтым сне чорна-белым.

2

...Схованка! Раптам... у кнізе пажоўклай
Між пасівелых на зрэзе старонкаў
Белы, з рудой па краёх аблямоўкай,
Нечы — табе прастакутнік паштоўкі
Зрок апякае. Бы з фальшам скарбонка.

Даўняе, здэцца, усё адбалела,
Але збоч чорнага зноў пабялела.
Шахматнай дошкай мой дзень зашарэлы
Лёг, як дыван. Я па ім — каралевай.

Зноўку гульня — прыніжэння пачатак.
Зноўку на вуснах шкадобы пячатка.
Роўнасць фігур — на нічыйны канчатак.

Я — выбываю. Ды я — не здаюся.
Роўнасці рабства свайго — адкаснуся.
Чорнае з белым,— табе не скаруся.
Ў пройгрышы гэтым — сабой ганаруся.
«Да запатрэбы» — больш не патрэбна.
Схованка пашчу закрые ганебна.

# БУЛЬБА

Працяг. Пачатак на стар. 7

наўцу, даваць магчымасць стаць не толькі выканаўцам, але і творцам.

Цяпер кожнаму механізатару, нават пачаткоўцу, зразумела: не перайшлі мы яшчэ на інтэнсіўную тэхналогію ў бульбаводстве. Упускаем дарагі час. Памылкі выпраўляць цяжэй, чым рабіць іх. Пачынаць гаспадарыць па-новаму, наводзіць парадак усюды і ва ўсім няпроста, але трэба.

Дагэтуль у нас няма ніводнага сховішча, губляем у буртах шмат бульбы. І тэхніка, мякка кажучы, не самая лепшая, і сарты таксама. Я заўсёды быў супраць ідэальных умоў для лідэраў, які б я тады быў лідэр? Але і непарадку не цярплю. Мы працуем на падрадзе, палі маем «свае». Але ў звяне няма нават «свайго» плуга. Два трактары зусім дабітыя — старызна, лом. А мучаюцца ж на іх маладыя хлопцы пасля арміі, з ведамі, спецыялісты, якія валодаюць сучаснай тэхнікай. Раздражняе іх такое стаўленне да моладзі. Не здзіўлюся, калі махнуць рукою, пойдуць шукаць свайго шчасця ў другой гаспадарцы. Былі ўжо такія выпадкі.

Есць у саўгасе дзве нямецкія капалкі. На адной з іх працую я. Машыны што трэба. Нават мясцовыя бабулі, якія ўсё жыццё прывыклі капаць бульбу са сваіх прысядзібных участкаў «пад каня», а то і зусім «пад рыдлёўку», становяцца ў чаргу па капалку. 20 хвілін — і гатова ўсё! Рукамі тыдзень будзеш рыць, калі няма каму дапамагчы. Але, заўважу, і бабулі сталі больш адукаваныя — стараюцца атрымаць імпартную капалку. Свае бульбаўборачныя камбайны не папулярныя. Дужа раняць клубні, а каму гэта спадабаецца, да таго ж, ламаюцца часта. Гэтай восенню ў раёне, ведаю, прастойвалі дзесяткі нашых камбайнаў. Імпартнай тэхнікі на ўсіх не хопіць. А нашая інжынерная думка адстае ад часу.

Паглядзіш на выстаўках — і ў нас ужо існуе тэхніка будучага. Напрыклад, трактары, якімі кіруюць робаты без чалавека. А на зямлі не хапае надзейнай, лёгкай у кіраванні тэхнікі — для чалавека. Не буду спрачацца, трэба шукаць, зазіраць у заўтрашні дзень, але не пераступаючы ж цераз сённяшні дзень...

Раздумваючы пра гэта, зноў і зноў вяртаюся на ўжо ўбраныя палі Зыслава. Нібыта і чыста падабралі бульбу. Але ў сэрцы няма таго спакою, які дае пачуццё цалкам выкананага абавязку і перад гэтай шчодрай зямлёю, і перад будучым. Вось і яшчэ адзін сезон прайшоў. І зноў нічога істотнага не зроблена для рэальнай падтрымкі ўрадлівасці зямлі. Зноў і зноў на самым даляглядзе збіраецца пусціцца ў свае скокі смерч...

в. Загалле
Любанскага раёна
Мінскай вобласці

Сяргей ТАРАСАЎ

# ГЕРОЙ ПАЭМЫ І БЫЛІН

## Усяслаў Чарадзей

«В лето 6609 преставился Всеслав, полоцкий князь, месяца априля въ 14 день, въ 9 часъ, въ среду». Так паведамляе летапіс аб смерці полацкага князя Усяслава Брачыславіча ў 1101 годзе. Паспрабуйце знайсці што-небудзь падобнае хоць пра аднаго іншага князя. «...въ 9 час дня, въ среду...»— дакладна, да драбніц. Летапісы не адзначылі гадзіну смерці нават такога знакамітага валадара, як Уладзімір-хрысціцель, Усяславаў прадзед. А Усяслава, не хрысціцеля і далёка не святога, адзначылі. Чаму?

Дата яго нараджэння дакладна невядомая.

Ані ў Ноўгарадзе, ані ў Кіеве мніхі-летапісцы не заўважылі, што ва ўнука Рагнеды і Уладзіміра Кіеўскага князя Брачыслава Ізяславіча нарадзіўся сын. Полацкі ж летапіс да нас не дайшоў. Захавалася адзінае паданне, якое хвалі народнай быліны вынеслі на старонкі пажоўклых пергаментаў: «Его же роди мати от волхования... бысть ему язвено на главе его, рекоша бо волхвы матери его: «Се язвено навяжи на нь, да носит е до живота своего. Еже носить Всеславъ и до сего дне на собе; сего ради немилостивь есть на кровопролитие».

Калі верыць быліне пра Волха Усяславіча (героем якой, на думку акадэмікаў Д. Ліхачова і Б. Рыбакова, быў Усяслаў Полацкі), дык нарадзіўся ён недзе каля 1029 года.

**Стал себе Волх он дружину**
**прибирать,**
**Дружину прибирал в три года.**
**Он набрал дружину себе**
**сем тысячей:**
**Сам он, Волх, в пятнадцать лет...**

15-гадовы ўзрост, у якім Усяслаў стаў валадаром Полацка і Полацкай зямлі, не павінен здзіўляць. Дастаткова ўспомніць, што і ў больш познія часы князі пачыналі кіраваць падданымі з маленства.

Доўгі час, ажно па 1060 год, у летапісах не прыгадваюцца ні Полацк, ні Усяслаў. Магчыма, таму, што малады князь быў заняты ўмацаваннем «отчины своя», бо менавіта за гэтыя гады ў Полацку адбываюцца істотныя змены. Дзядзінец Полацка пераносіцца з маленькага гарадзішча на ўзбярэжжа Дзвіны і павялічваецца амаль у дзесяць разоў.

Пры Усяславе Брачыславічы горад і зямля набываюць яшчэ большую сілу і аўтарытэт. З ім вымушаны былі лічыцца ўсе: і Кіеў, і Ноўгарад, і Чарнігаў. А каб паказаць, што Полацк анітрохі не горшы за гэтыя гарады, князь узводзіць у 50-я гады XI стагоддзя трэці на Русі храм Сафіі.

Вырашыўшы ўнутраныя пытанні сваёй дзяржавы, у 1060 годзе Усяслаў Полацкі выходзіць на знешнепалітычную арэну. Разам са сваімі дзядзькамі Яраславічамі (сынамі князя Яраслава Мудрага Ізяславам, Святаславам і Усеваладам) Усяслаў прымае ўдзел у паходзе на качэўнікаў-торкаў: «поидоша на конихъ и въ лодьяхъ бесчислено множество». Гэта быў ягоны першы «выхад у свет». Усяслаў паспрабаваў моц сваіх дружын, ацаніў войска Яраславічаў. Перачакаўшы пяць год, Усяслаў актыўна выступае супроць сваіх былых саюзнікаў.

1065 год. Полацкі князь напаў на Пскоў.

1066—1067 гады. Бярэ Ноўгарад, здымае званы з Ноўгарадскай Сафіі і перавозіць іх у Полацк.

3 сакавіка 1067 года — бітва на Нямізе непадалёк ад Менска з войскамі Яраславічаў, пра якую гаворыцца ў «Слове пра паход Ігаравы»:

**На Нямізе галовы сцелюць**
**снапамі,**
**харалужнымі малоцяць цапамі,**
**жыццё кладуць на таку злюцела,**
**веюць душу ад цела.**
**Нямігі крывавыя берагі**
**не збожжам былі засеяны**
**зноў —**
**засеяны касцямі рускіх сыноў.**

(Пераклад Р. Барадуліна)

У той жа год разам з двума сынамі ён па-здрадніцку быў схоплены пад Смаленскам і пасаджаны ў поруб-турму ў Кіеве. 15 верасня 1068 года ў выніку першага ў гісторыі Кіеўскай Русі паўстання гарадскіх нізоў Усяслаў быў вызвалены з поруба і стаў вялікім князем кіеўскім. У 1069 годзе на чале кіеўскага войска выступае супроць былога вялікага князя, а зараз князя-выгнанніка Ізяслава, які вёў на Кіеў польскія дружыны разам са сваім дзядзькам — каралём Баляславам Харобрым. Але ў самы адказны момант Усяслаў пакідае войска і вяртаецца ў родны Полацк. У хуткім часе Ізяслаў выганяе яго з Полацка. У адказ 23 кастрычніка 1069 года Усяслаў Полацкі няўдала нападае на Ноўгарад. Наўгародцы, разбіўшы войска, «князя отпустиша Бога деле».

1071 год. Усяслаў збірае войска сярод балцкіх народаў і зноў вяртаецца ў Полацк. Праз шэсць гадоў пад Полацк з'явіўся Уладзімір Манамах з Усяславам Чарнігаўскім. У 1078 годзе кіеўскія князі, каторы раз спрабуючы ўтаймаваць Усяслава, папалілі прадмесці Полацка. У гэтым жа годзе палачане напалі на Смаленск. І, нарэшце, апошні паход супроць Усяслава адбыўся ў 1083 годзе.

Амаль два дзесяцігоддзі жыцця Усяслава прыпадаюць на супроцьстаянне Полацка Кіеву і Ноўгараду. Што гэта: заганная праява мясцовага сепаратызму, імкненне разарваць на часткі адзіную і непадзельную Рускую дзяржаву ці вынік больш глыбокіх зрухаў у нетрах тагачаснага грамадства?

**Усяслаў-князь людзям чыніў**
**суды,**
**радзіў князям гарады,**
**а сам уночы ваўком рыскаў,**
**з Кіева паспяваў да пеўняў**
**да Тмутаракання,**
**Хорсу вялікаму шлях перацінаў.**

(Пераклад Р. Барадуліна)

Так па-мастацку, паэтычна апісвае Усяслава Полацкага аўтар «Слова...». Цікава нагадаць, што, на думку шматлікіх даследчыкаў «Слова...», у тым ліку і акадэміка Д. Ліхачова, вобраз гэтага князя ў старажытным паэтычным помніку з'яўляецца цалкам станоўчым. Аўтар спачувае князю: «...хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе, ды часта ад бедаў цярпеў ён». Аўтар «Слова...» — паэт канца XII стагоддзя і як бліжэйшы нашчадак Усяслававых часоў, ён ацэньвае дзейнасць і фігуру князя. З пункту гледжання тых часоў павінны ацэньваць яе і мы.

XII стагоддзе — перыяд феадальнай раздробленасці. Гэта быў час, калі ўдзельныя княствы набылі незалежнасць не толькі ад кіеўскай метраполіі, але і ад сваіх былых цэнтраў (як, напрыклад, Менскае, Барысаўскае, Друцкае і іншыя — ад Полацка). Але, як і любая гістарычная падзея, гэты факт павінен быў мець свае перадумовы і прычыны.

К. Маркс і Ф. Энгельс у сваіх працах называлі Кіеўскую Русь — «Імперыю Рурыкавічаў» — «шматковай» і нетрывалай. Сабраная пры дапамозе мяча ў адзіную дзяржаву, яна пратрымалася ў такім выглядзе трохі больш чым сто гадоў — да канца XI стагоддзя, да 1097 года, калі на Любецкім з'ездзе князі дамовіліся кожны трымаць «вотчыну сваю». І то на працягу гэтага часу яна сама рвалася з-пад улады стольнага Кіева. З Кіевам змагаўся не толькі Полацк, але і Смаленск, і Чарнігаў, і далёкая Тмутаракань. Заганным было б шукаць прычыны нетрываласці адзінай дзяржавы толькі ў варожасці князёў. Палітычная гісторыя заўсёды была і будзе знешняй, хай і яскравай, праявай унутраных законаў развіцця грамадства.

Полацкае княства ўзнікла як самастойная адзінка на ўсходнеславянскіх землях. Яно мела сваю тэрыторыю, гарады, насельнікаў. Апошнія, якія гуртаваліся вакол крывічоў, толькі напалову былі славянамі. Напалову яны ўспрынялі рысы сваіх папярэднікаў на гэтай тэрыторыі — балтаў. Сувязі з балцкімі народамі, сярод якіх Усяслаў Полацкі ў цяжкія гады збіраў сабе войска, былі, відаць, значна мацнейшымі, чым з якімі-небудзь іншымі. XI стагоддзе ў гісторыі Полацкай зямлі — гэта фактычна фарміраванне першай дзяржавы, якая ў XII стагоддзі, распаўшыся на асобныя княствы, паўтарыла лёс сваёй папярэдніцы — Кіеўскай Русі. Не варта, вядома, называць Полацкую зямлю XI—XII стагоддзяў беларускай дзяржавай. І ўсе ж гэта было першае дзяржаўнае аб'яднанне на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Хоць яно існавала і нядоўга, але трымалася не толькі на адзінстве эканамічных, сацыяльных і палітычных умоў, але і на этнічнай еднасці насельніцтва.

Не дзіўна, што менавіта XI стагоддзе запатрабавала з'яўлення такой моцнай і каларытнай фігуры, як Усяслаў Чарадзей, які ўсё жыццё прысвяціў стварэнню сваёй дзяржавы і барацьбе за яе незалежнасць.

Хоць у «Слове...», у былінах Усяслаў падаецца як станоўчы князь, ён быў не пазбаўлены і адмоўных рыс: «немилостив на кровопролитие». Можна з упэўненасцю сказаць, што яго воіны рабавалі Ноўгарад, ваколіцы Пскова і Смаленска не менш жорстка, чым Менск — дружыннікі Уладзіміра Манамаха. Людзі, выведзеныя з гэтых гарадоў у палон, пакутавалі, як і жыхары Менска, палачане, выведзеныя Манамахам. Зняты ж з Ноўгарадскай Сафіі званы явілі прыклад святакрадства.

Не выключана, што быліны аб полацкім князе складаліся яшчэ пры яго жыцці. Яму прыпісвалі звышчалавечыя якасці — пераўтварэнне ў ваўка, тура, сокала. І разам з тым мы бачым дзеяча, які падтрымліваў старую рэлігію — паганства. Невыпадкова, што бесы — «навье» — з'яўляюцца не дзе-небудзь, а ў Полацку падчас княжання Усяслава (1092 г.) Можна з упэўненасцю сцвярджаць аб моцных перажытках язычніцтва на Полацкай зямлі. Не выключана, што ў Полацку мог існаваць пантэон не толькі славянскіх (крывіцкіх) паганскіх багоў, але і язычніцкіх багоў суседніх народаў. Але, з другога боку, полацкі князь — добры хрысціянін, пакутнік за новую рэлігію. Ён будуе Сафійскі сабор, сядзіць у порубе-турме. Ён удалы воін. Колькі разоў бярэ «на шчыт» гарады; ягонае войска не могуць дагнаць адборныя чарнігаўскія дружыны з паваднымі коньмі. І нават паражэнні Усяслава паварочваюцца ягонымі перамогамі. Не дзіва, што такі князь становіцца героем свайго часу, героем паэтычных твораў.

Мал. Уладзіміра ЛУКАШЫКА.

**АД РЭДАКЦЫІ**

**Нарыс Сяргея Тарасава — ужо другая публікацыя пад рубрыкай «Постаці». У рэдакцыйным партфелі ляжаць нарысы і эсэ пра Войшалка, Андрэя Полацкага, Міхайлу Глінскага, Ілью Капіевіча ды Казіміра Лышчынскага. Рэдакцыі дакляравалі напісаць таксама пра Міндоўга, Льва Сапегу ды Філона Кміту-Чарнабыльскага.**

**Складаючы план на наступны год, мы хочам ведаць, чый жыццёвы шлях цікавіць вас найбольш. Таму мы прапануем вам назваць дзесяць гістарычных асоб — палітычных і дзяржаўных дзеячаў, военачальнікаў, дзеячаў культуры,— пра якіх вы жадаеце прачытаць на старонках нашага часопіса. Называючы імёны гэтых асоб, вы павінны памятаць, што мы плануем пісаць пра тых, чыё жыццё і дзейнасць звязаны з гісторыяй Беларусі.**

ПРАМАЯ РАЗМОВА

# ЧАС — ГЭТА МЫ!

**Міхаіл СКУСАЎ,**
**сакратар камітэта камсамола Бялыніцкага СПТВ-217**

АДНАГО РАЗУ на ўроку матэматыкі выклікалі навучэнца да дошкі. Падышоў ён да стала выкладчыка і раптам засланіў твар рукамі. Маўчыць. «Што з табою? — спалохаўся выкладчык.— Табе кепска?» А ён адняў рукі і рагоча. «Я,— кажа,— за восем гадоў у школе ўсяго два разы быў ля дошкі. Як тут не засмяяцца?..»

Калі расказалі мне пра гэты анекдатычны выпадак, прызнацца, было не да смеху. З сорамам згадаў «прапрацоўку» такіх вось «арлоў» на пасяджэнні камітэта камсамола. Вырашылі мы пагаварыць як след з навучэнцамі, якія маюць двойкі за паўгоддзе. А ўся размова абмежавалася двума-трыма пытаннямі: «Чаму так безадказна ставішся да заняткаў? Ці ёсць у цябе камсамольскае сумленне? Як ты паглядзіш у вочы бацькам, калі мы напішам ім пра ўсё?..»

Мы шчыра верылі, што робім патрэбную і важную справу выхавання. Што будзім сумленне гэтых хлопцаў. А тое, што мы працягваем забіваць у іх душах апошнія, можа, жывыя парасткі, пра гэта неяк не думалася. Дакладней, не хацелася думаць. Не хацелася зазірнуць за тую сцяну, што аддзяляла такіх вось хлопцаў ад лепшых ці сярэдніх вучняў ледзь не з трэцяга ці чацвёртага класа ў школе. Над імі, бы праклён, віселі словы: «Не будзе з цябе толку! Пойдзеш у ПТВ». Вучылішча стала для іх злым лёсам. Наканаваннем, ад якога нікуды не дзенешся...





Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ.

Аднак вернемся да таго самага пасяджэння камітэта камсамола. Што ж мы пачулі ў адказ? Анічога. Стойкае маўчанне. Праўда, аднаго хлопца прарвала пасля нашых «пракурорскіх» пытанняў: «Ну, не ідзе ў мяне гэтая праклятая матэматыка! Разумееце, не ідзе! Яшчэ ў чацвёртым класе запусціў. Сяджу на ўроках пень пнём. Адскокваюць гэтыя лагарыфмы ад галавы — і ўсё тут. Нічога не магу з сабой зрабіць. А каб не рваць выкладчыку нервы, не хаджу на заняткі. Ва ўсім астатнім можаце смела на мяне пакласціся. Не падвяду».

Цікаўлюся, якія адзнакі ў яго па спецыяльнасці? Адны пяцёркі. «У мяне,— кажа,— у калгасе не пра лагарыфмы будуць пытацца, а як я тэхнікай валодаю. Які вырашчу ўраджай». Што ж, ёсць у гэтым логіка. Наўрад ці ёсць сэнс у тым, каб прымушаць чалавека вывучаць алгебру, геаметрыю і іншыя агульнаадукацыйныя прадметы, якія яму ўсё роўна як пакаранне. Каму ж тады гэта трэба? Ці ж не прасцей аб'яднаць такіх вось хлопцаў у асобную групу, дзе вывучаліся б толькі спецыяльныя прадметы? Яны ж апантаныя тэхнікай. Ім галоўнае — дай баранку ў рукі. А агульнаадукацыйныя дысцыпліны вялі б у такой групе як факультатыўныя заняткі. Колькі б адразу вырашылася нікому не патрэбных праблем! Бо ж пакутуюць усе: і навучэнцы (натуральна, не ўсе, пэўная іх частка; у тых, у каго з вучобай нармальна, няхай бы ўсё так і заставалася), і выкладчыкі, і майстры. У адных не вытрымліваюць нервы, другія кідаюць вучылішча, бо і тут трэба вывучаць тыя ж ненавісныя прадметы, што і ў школе. Куды ж, цікава, падацца гэтым хлопцам? Са школы іх гоняць, у вучылішчы ім на кожным рагу чытаюць натацыі: маўляў, калектыў ганьбіце двойкамі. А можа, уся гэтая неразумная важданіна забівае і знішчае выдатнага хлебароба? Класнага аратага?..

Урэшце, вучылішча рыхтуе не акадэмікаў, а машыністаў шырокага профілю. І, думаецца, менавіта за гэта павінен ён трымаць па-мужчынску адказ. Перш за ўсё. А не за тое, што ў яго па сачыненні двойка, ці што яму не даюцца лагарыфмы. Але... Ёсць праграма, ёсць парадак, ёсць сотні вялікіх і малых інструкцый, кожная з якіх да нечага абавязвае, чагосьці патрабуе. А калі было інакш, колькі непрыкаяных душ, якіх вучылішча палохае агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі, можна было б накіраваць на добрую сцяжыну...

Мае сябры нярэдка пытаюцца ў мяне: «Ну што цябе пацягнула ў вучылішча? Ды яшчэ на такую непрыглядную працу, як камсамол? І калі гэта, цікава, тут хоць пахла камсамолам?» Што тут скажаш у адказ? Што баліць у мяне сэрца за лёс гэтых хлопцаў — сам жа скончыў гэтае вучылішча. Не з чужых слоў ведаю, што тут і як... Што прывяло мяне сюды жаданне разварушыць гэтых затурканых хлопцаў. Адкрыць у іх ім самім жа тое, што, несумненна, ёсць у кожным. Толькі вось глушылася яно гадамі, груба тапталася. І яны самі паверылі ў сваю безнадзейнасць і нікчэмнасць. А гэта ж не так. Хіба сапраўдны хлебароб — гэта не талент? Пасля таго разбору на камітэце камсамола я зразумеў: калі хочаш чагосьці дамагчыся, не смей і думаць пра гэтыя прымітыўныя накачкі, заклікі да сумлення — імі яны накормленыя ўдосталь. Пагавары з імі шчыра. Як роўны з роўным. Раскажы, што і як было ў арміі — і нешта зрушыцца ў іх у лепшы бок. І нешта адтае...

У школе іх абыходзілі бокам, не давалі ім грамадскіх даручэнняў: які, маўляў, сэнс — усё роўна ж завалiць. І выхоўвалі патроху лайдакоў і спажыўцоў. Дарэшты выбілі з іх усялякую самастойнасць і ініцыятыву. Таму не дзіўна, што нават самыя лепшыя навучэнцы — члены камітэта камсамола — спярша сядзелі бы вады ў рот набраўшы. Прапануеш што-небудзь, спытаешся, што яны пра гэта думаюць, а яны: «Як скажаш, так і будзе». І ўвесь адказ. «Не, браткі мае дарагія,— кажу ім,— так у нас справа не пойдзе. Кожны адказвае за свой участак, і кожны ў меру сваіх сіл робіць справу. Сутыкнуўся з непераадольнымі цяжкасцямі — заўсёды прыйду на дапамогу. А бегаць да мяне з-за кожнай драбніцы няма чаго. Прашу гэта добра запомніць...»

Любой цаною дамагчыся ад актыву самастойнай дзейнасці, самастойнага мыслення, раскаваць іх энергію — вось першая задача, якую я паставіў перад сабою. Прайшоў час — і камень зрушыўся з месца. Сур'ёзна задумаліся над арганізацыяй баўлення вольнага часу навучэнцаў. Адно мерапрыемства, другое — і вось ужо пра нас па-добраму загаварылі ў горадзе. Далей — болей. Паўстала пытанне самакіравання. Калі не разбудзіць у заўтрашніх хлебаробаў пачуццё гаспадара, цяжка спадзявацца на поспех падраду, арэнды і іншых сучасных формаў вядзення сельскай гаспадаркі. Самакіраванне — гэта задача ўсіх задач. Рана пакуль яшчэ гаварыць пра нейкія істотныя зрухі. Іх няма. Але яны неадменна будуць. Бо так загадвае жыццё. Так дыктуе час. А час — гэта мы!

## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

— Завуць нас **ІВАН** і **ПЕТР**, нам 30 і 28 гадоў. Жывём у Гродзенскай вобласці, працуем мулярамі, захапляемся спортам. Вечары бавім дома, бо пайсці няма куды. Марым пазнаёміцца з добрымі дзяўчатамі.

— Дапамажыце знайсці сябра! Мяне зусім не цікавіць яго знешнасць, няхай толькі ён будзе чалавекам з цудоўнаю душою. Я пражыла няшмат, 16 гадоў, але і гэтага хапіла, каб страціць веру ў людзей. **МАРЫНА.**

— Мне 17 гадоў. Лічу сябе развітым усебакова, але асабліва цікаўлюся медыцынаю. Вельмі хацеў бы знайсці сяброў-аднадумцаў. **ЭДУАРД.**

Мы дзве сястры, абедзве **ТАЦЦЯНЫ**, нам па 19 гадоў. Вельмі любім музыку і спорт, адна з нас працуе ў атэлье, другая — студэнтка педінстытута. Марым пазнаёміцца з добрымі хлопцамі.

## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

— Мне 16 гадоў. Захапляюся спортам, сучаснай маладзёжнай музыкай. Хачу перапісвацца з равеснікамі з іншых гарадоў. Гэта ж выдатна, калі з'яўляюцца новыя сябры, з якімі ты можаш параіцца, паспрачацца, падзяліцца ўражаннямі пра што-небудзь. **МАКАРСКІ Сяргей**, 213827, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Перамогі, д. 155, кв. 14.

— Мне 17 гадоў, я захапляюся сучаснай музыкай. Усё гэта чыста анкетныя дадзеныя, а падрабязна пісаць пра сябе цяжка. Калі хто-небудзь захоча перапісвацца са мною, нашы лісты ўсё раскажуць за нас. **ЯКІМАВА Аксана**, 247500, Гомельская вобл., г. Рэчыца, вул. Навумава, д. 24, кв. 72.

— Мне 17 гадоў. Хачу пазнаёміцца з дзяўчынаю 16—17 гадоў, балельшчыцаю мінскага «Дынама». Пра сябе: люблю чытаць фантастыку, дэтэктывы, слухаць савецкую і замежную эстраду. **КЛЫШЭНКА Антон**, 231319, Гродзенская вобл., Лідскі р-н, п/а Крыніцы, в. Бярозна.

— Мне 16 гадоў. Люблю сучасную музыку (не металістка!), захапляюся маляваннем, спортам, хіміяй. Спадзяюся, што знайду новых сяброў. **НЕКРАШЭВІЧ Святлана**, 223610, Мінская вобл., г. Слуцк, вул. Сацыялістычная, д. 168, кв. 136.




Уладзіслаў АХРОМЕНКА

# «ЗАСТАЦЦА ЛЮДЗЬМІ...»

## Нататкі пра рок-гурт «ДДТ»

Скрозь асфальт і бетон сучасных мегаполісаў сёння жвава прабіваюцца парасткі новай духоўнай культуры, нейкай супольнасці людзей эпохі урбанізацыі. Я маю на ўвазе стваральнікаў сённяшняга гарадскога фальклору — самадзейныя рок-гурты. Фальклор ніколі не быў застылай, акасцянелай з'явао. Сотні гадоў мяняліся формы, інструментарый, сюжэты, манеры, але нязменнай заставалася ідэя — музычнае ўвасабленне духоўнае еднасці народа. Сённяшні песенны фальклор выконвае яшчэ адну ролю: ён робіцца сродкам пераадолення гарадской замкнёнасці і раз'яднанасці.

Наш госць — Юрый Шаўчук, лідэр ленінградскага гурта «ДДТ».

— Юра, што ствараюць самадзейныя рок-гурты — аматарскую эстраду ці нешта зусім іншае?

— У часы, якія папярэднічалі нашай тэхнакратычнай эпосе, народныя музычныя інструменты былі пераважна «натуральнага» паходжання. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя закранула фальклорны інструментарый: электрагітара стала інтэрнацыянальным народным музычным інструментам апошняй чвэрці нашага стагоддзя. «Нефілармнічныя» рок-гурты з лёгкай рукі некампетэнтных журналістаў залічваюцца ў эстраду. Прычым паводле ўсяго толькі вонкавых атрыбутаў. Але такая музыка можа пераўтварыцца ў эстраднае «развлекалово» — калі на ёй пачынаюць рабіць грошы і ў выніку робяць яе кан'юнктурнай. Па прыклады хадзіць далёка не трэба — згадай «Машыну часу». А пераводзіць у камерцыю можна ўсё, што хочаце — і народную музыку, і класічную спадчыну... Мы ж спрабуем адыграць сваю ролю ў стварэнні урбаністычнага фальклору.

— Дапусцім, «ДДТ» пачала рабіць на сваёй музыцы грошы...

— Мы ніколі не ставілі і не паставім сабе такой мэты!

— У вас, напэўна, ёсць свае «фанаты». Як складваюцца адносіны з імі?

— Наша музыка прызначана перш за ўсё для людзей, і калі людзі яе разумеюць, калі яна прымушае іх думаць, мы на правільным шляху.

Тут неабходна зрабіць маленькае адступленне. «Фанаты» — не зусім дакладнае вызначэнне аўдыторыі «ДДТ». Летась ва Уфе, горадзе, адкуль вядзе сваю біяграфію група, адбылася дэманстрацыя грамадскасці супраць экалагічна шкоднай вытворчасці. У час гэтай дэманстрацыі дзесяткі людзей рознага ўзросту і розных прафесій спявалі песню гурта «Время—вперед!». Хіба гэта не факт народнага прызнання? Дарэчы, гэта ж і яшчэ адзін важкі довад на карысць «фальклорнай» прыналежнасці нефілармнічнага року.

— Юра, кожная новая з'ява ў музыцы пачынаецца, як вядома, з асэнсавання папярэдніх. З чаго пачыналі вы?

— Як і ўсе, з «залатога фонду» року шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых: «Дорз», «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», рускай побытавай песеннай культуры канца мінулага — пачатку цяперашняга стагоддзя і Галіча, Высоцкага...

Слухаючы кампазіцыі групы, яшчэ раз пераконваешся ў думцы, што лепшае з айчыннай самадзейнай рок-культуры — не «касмапалітычнае антымастацтва», як нярэдка сцвярджаецца, а з'ява, звязаная з глыбіннымі пластамі культуры народа. І няхай вас не засмучае рок-н-рольная схема: гэта — традыцыйная форма, адпрацаваная дзесяцігоддзямі.

Безумоўна, ёсць у «ДДТ» і няўдалыя кампазіцыі, але не памыляецца, як вядома, толькі той, хто нічога не робіць.

— Як працуе гурт?

— Так: спярша з'яўляецца нейкі імпульс, агульная ідэя. Словы і музыка складаюцца разам, а не паасобку. За год, а менавіта такі тэрмін неабходна для пераўтварэння ідэі ў сцэнічны ці студыйны варыянт, мы дамагаемся гармоніі музыкі, слова і сцэнічнага вобраза.

Я гляджу на Шаўчука і думаю: «Ну чаму ён не скардзіцца, як многія, на нягоды жыцця ў «эпоху застою»? Яму ж ёсць што сказаць і пра «чыноўнікаў ад культуры», узброеных інструкцыямі, бланкамі і гербавымі пячаткамі, якія забаранялі ўсё недаступнае свайму прымітыўнаму разуменню, і пра ўфімскую міліцыю, і пра музычна непісьменных журналістаў... Яму, які спяваў «Мы все перестроим!» яшчэ ў 1984 годзе!»

— Юра, да нядаўняга часу рок знаходзіўся ў нашай краіне пад прэсам «грамадскага ганьбавання» — прыйшоў, маўляў, з «тлятворнага Захаду», значыцца, шкодны.

— Джаз, як вядома, таксама не ў Разані з'явіўся, а ў нас прыжыўся, і вельмі. А ўсходнеславянскі іканапіс, які мае візантыйскія карані? А опера, што з'явілася як жанр у Італіі? Ды калі б мы мыслілі абывацельскімі крытэрыямі «не нашае — значыцца, шкоднае!», дык проста б абдзялілі сябе духоўна.

— Мне нядаўна давялося пачуць: «ДДТ»? Дык яны ж прапагандуюць наркаманію і тэрарызм!» Аўтар выказвання меў на ўвазе песні «Хипаны» і «Я вам не враг!».

— Параўнальна нядаўна ўсе мы са здзіўленнем выявілі, што і ў нас у краіне ёсць і прастытуцыя, і наркаманія, і шмат што іншае. А да 1985 года на гэтых паняццях ляжала грамадскае табу. Зварот да падобных сюжэтаў зусім не азначае іх прапаганду. Мы спрабуем такім чынам выказаць нашы адносіны да жыцця, дый не толькі выказаць — ускрыць карані гэтых з'яў. Няўжо ў час канцэртаў павінна прысутнічаць нейкая «адміністрацыйная асоба», якая б перапыняла песні, выходзіла на сцэну і тлумачыла «адкрытым тэкстам», як і да чаго ставіцца «ДДТ»? Калі мы звяртаемся да падобных сюжэтаў, дык толькі таму, што жадаем людзям дабра. Тыя ж наркаманы калі хочаш — не самае страшнае зло для грамадства. Для мяне нашмат больш страшнейшыя чыноўнікі-функцыянеры. Яшчэ Леў Мікалаевіч Талстой казаў, што кожны закрываецца ад жыцця чым можа: віном, жанчынамі, кар'ерао... Бюракрат нашмат больш небяспечны за таго ж наркамана, хоць карані адны і тыя ж: адзін уцякае ад жыцця з дапамогаю «касяка», другі ап'яняе сябе ўладаю над людзьмі.

Я абсалютна ўпэўнены, што які-небудзь чалавек на пасадзе, які кіруецца ханжаскай добразычлівасцю, запратэстуе: «Ды гэта недапушчальна! Распуста! З моладдзю заігрываеце! Ды чаму такія песні навучаць нашае маладое пакаленне?» Ну і далей такое знаёмае «не пушчаць». Забаранялі. Знішчалі. І цяпер можна часта пачуць пра рок як пра «гэты праваднік чужой нам ідэалогіі» — так і згадваюцца сумна вядомыя пастановы 1947 года. «Люберы ад культуры» вельмі ж жыццяздольныя. Толькі прадыктавана гэта зусім не любоўю да маладога пакалення, а дрымучым невуцтвам, баязлівасцю, няўменнем думаць і нежаданнем бачыць, што адбываецца навокал.

Але вернемся да «ДДТ». Амаль усе песні гурта — не проста канстатацыя якойсьці сітуацыі, а вынік з'яў, якія адбываюцца ў нашым грамадстве. Як напрыклад, кампазіцыя «Мама, я «любера» люблю».

...Калі я ехаў да Шаўчука дадому, то чакаў убачыць гэткага «анархіста ад музыкі», руйнавальніка асноў. На шчасце, я памыліўся. Юрый зрабіў уражанне чалавека сціплага, вельмі зычлівага, нават сарамлівага. («Слухай, можа, не трэба пісаць пра «ДДТ»? Напішы лепш пра каго іншага».)

І гэта праўда: «ДДТ» не дэкларуе свае адносіны да людзей. Трэба толькі ўважліва ўслухацца ў музыку і тэксты.

**Мальчик слепой...**
**Задающий извечные детства вопросы**
**Бабушке, втиснутой в бежевый плащ...**
**Как мы едем!**
**Что мы видим!**
. . . . . . . . . . . .
**Что ждет тебя в этом грохочущем, забитом пространстве!**
**(«Мальчик слепой»)**

**Быть может, лишь только любовь**
**Сможет всем нам помочь**
**Остаться людьми!**
**Остаться людьми!**
**(« В новом районе...»)**

— Юра, хто і што замінае «ДДТ» працаваць?

— Ніхто. Як можна мастаку перашкодзіць стаць мастаком, паэту — паэтам, музыканту — музыкантам? А замінаем мы сабе самі — нашай неарганізаванасцю...

На развітанне я даў Шаўчуку касету з просьбаю запісаць лепшае з «ДДТ».

— З гэтым прыйдзецца пачакаць,— усміхнуўся Юрый.— Лепшых сваіх песень мы яшчэ не запісалі...



**Юрый ШАЎЧУК** — музыка, вакал, тэксты
**Андрэй ВАСІЛЬЕЎ** — лідэр-гітара
**Ігар ДАЦЭНКА** — ударныя
**Вадзім КУРЫЛЁЎ** — бас

**Уладзімір СІГАЛЁЎ** — клавішныя
**Генадзь ЗАЙЦАЎ** — адміністратар
**Яўген МАЧУЛАЎ, Уладзімір КУЗНЯЦОЎ, Урал ХАЗІЕЎ** — гукааператары







Ян СКАРАДЗІНСКІ

# The Beatles ЧАЦВЁРА, БЕЗ ЯКІХ...

**Пра «Бітлз» напісана шмат, вельмі шмат. У тым ліку і ў нас у краіне. Аднак паток публікацый і даследаванняў, прысвечаных гэтаму ансамблю, не перапыняецца. Як і цікавасць меламанаў да яго творчасці. У нататках Яна Скарадзінскага, якія мы з нязначнымі скарачэннямі перадрукоўваем з польскага часопіса «Барацьба маладых» («Walka mlodych»), чытачы, што захапляюцца папулярнай музыкай, знойдуць досыць падрабязны адказ на пытанне, хто быў кім у гэтым знакамітым ансамблі-легендзе.**

Былі ансамблі, якія гралі і спявалі лепш, больш вытанчана, чым яны. Але не было, аднак, такога, чый уклад у маладзёжную культуру быў бы больш важкі. Былі музыканты, якім рок дапамог зарабіць шмат грошай. Але такіх, якія, выконваючы яго, мелі б большую папулярнасць, мы не ведаем.

Джон Ленан, Пол Макартні, Джордж Харысан, Рынга Стар — чатыры музыканты, адзін ансамбль. Ансамбль, які здолеў, бадай, першым пераўтварыць рок у мастацтва і першым жа гэтак удала аб'яднаць функцыі аўтараў і выканаўцаў маладзёжнай музыкі, функцыі, якія дагэтуль раздзяляліся. Ансамбль, які дыктаваў моду, і не толькі музычную, які прынёс сваім прыхільнікам безліч задавальненняў і хваляванняў. Ансамбль, на музыцы якога вырастае чарговае пакаленне меламанаў, ансамбль, без якога нашае музычнае сёння было б іншае... Зусім іншае! Ансамбль, які значыцца ў гісторыі року пад нумарам адзін, уяўляе сабою унікальны феномен культуры XX стагоддзя.

Паспрабуем зірнуць на яго творчасць і кар'еру, звярнуўшыся да таго ўкладу, які ўнёс у агульную справу кожны з музыкантаў, якія яго стварылі.

## РЫНГА СТАР

Дзень, год і месяц яго нараджэння — 7 ліпеня 1940 года, Ліверпуль. Праўда, тады яго імя і прозвішча гучалі інакш: Рычард Старкі.

Які ён быў у часы «Бітлз»? Вясёлы, дасціпны, заўсёды бестурботны і сімпатычны. Выконваў ролю клоуна групы і меў мянушку «маленькі страшок». Ленан прызнаваўся: «Заўсёды, калі мяне адольвае фанабэрыстасць, я гляджу на Рынга Стара і ведаю дакладна: мы не супермены».

На прэс-канферэнцыях Рынга адчуваў сябе як рыба ў вадзе. («Як вы знаходзіце Амерыку?» — «Ведаем, што яна знаходзіцца злева ад Грэнландыі».) Яго сяброўка жыцця? Цырульніца Морын Кокс. Любімая страва? Эскалоп. Напой? Віскі. Хобі? Кіно (асабліва вестэрны), сон, ваджэнне аўтамабіля ўначы, нашэнне пярсцёнкаў (апошняму захапленню ён абавязаны сваім новым імем[1]). Выказванне пра «Бітлз»? «Ніхто з нас не задумваўся над тым, што адбываецца. Усё перакочвалася цераз нас нібыта гіганцкая марская хваля».



Што ён рабіў у групе? Пісаў няшмат, галоўным чынам іграў на ўдарных інструментах (і яшчэ трохі на клавішных і гітары), спяваў. Музыкантам быў сярэднім. Не вылучаўся ні тэмбрам голасу, ні здольнасцямі да інтэрпрэтацыі (хаця, бясспрэчна, уносіў разнастайнасць у запісы і канцэрты групы), ні нават ігрою на барабанах. Выпрацаваў, аднак, штосьці накшталт уласнай манеры выканання, заснаванай, зразумела, не на бліскучай тэхніцы, а толькі на зручных, эканомных і «цёплых» схемах (паслухайце, напрыклад, кампазіцыю «У маім жыцці» з альбома «Гумавая душа»). У нумары «Канец» «Эбі Роўд» атрымаў магчымасць выканаць нешта накшталт сола на барабанах. Кажуць, ён быў лепшым акцёрам з усёй чацвёркі. Сцвярджэнне гэтае выдае на праўду: сведчаннем таму бітлзаўскія фільмы — «Вечар цяжкага дня» і «На дапамогу!» перш за ўсё, «Чароўнае магічнае вандраванне» і «Няхай будзе так» таксама (фільмаграфію групы дапаўняе маляваная карціна «Жоўтая падводная лодка»). Рынга весяліў публіку, разраджаў спрэчкі паміж Ленанам і Макартні, нароўні з апошнім карыстаўся поспехам у дзяўчат.

Што ён напісаў і што спяваў? Стварыў няшмат. Разам з трыма астатнімі ўдзельнікамі ансамбля — інструментальную кампазіцыю «Палёт» («Чароўнае таямнічае падарожжа», 1967). Разам з Ленанам і Макартні — «Што працягваецца» («Гумавая душа»). Самастойна — выкананую ў манеры «кантры» «Не праходзь міма мяне» («Белы альбом») і забаўную «Сад васьмінога» («Эбі Роўд»). Спяваў не толькі з усімі (ягоны голас «прабіваецца», напрыклад, у «Нясі тую вагу» з альбома «Эбі Роўд»), але і меў свой нумар на кожным альбоме групы. З іменем Рынга звязаны падпісаныя Джонам і Полам кампазіцыі «Хлопцы» («Калі ласка, парадуй мяне»), «Жоўтая падводная лодка» («Рэвальвер»), «Маленькая дапамога маіх сяброў» («Аркестр клуба адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера»), а таксама «Хачу быць тваім» («Разам з «Бітлз»).

Сенсацыі? Адным з найбольш лютых праціўнікаў ігры Рынга на ўдарных быў... Пол Макартні. Аднаго разу нават загадаў яму як мага хутчэй пайсці з ансамбля. І ўзнагародзіў яго пры гэтым не толькі некалькімі выразнымі позіркамі, але і параю... кухталёў. Прабачэння Рынга чакаў больш як тыдзень.

[1] Адно са значэнняў англ. «ringed» — «з пярсцёнкам, у пярсцёнках».

## ДЖОН ЛЕНАН

Народжаны 9 кастрычніка 1940 года ў Ліверпулі, Ленан загінуў 8 снежня 1980 года ў Нью-Йорку.

Які ён быў? Інтэлігентны, уражлівы, валодаў якасцямі, уласцівымі лідэру. Не выносіў стэрэатыпаў. Любіў эксперыментаваць, бянтэжыць і правакаваць. Гэта ён заявіў, што «Бітлз» больш папулярныя, чым Ісус Хрыстос, а на прыёме для выбраных папрасіў прынесці яму хлеба з варэннем. На пытанне, ці сімвалізуе штонебудзь даўжыня яго валасоў, адказаў, што яны проста выраслі такія «з галавы». А калі ў яго спыталіся, як размяркоўваюцца вядучыя вакальныя партыі ў ансамблі, мовіў, што, збіраючыся разам, музыканты даручаюць спяваць таму, хто ведае больш слоў. Вядома, што ён захапляўся сюррэалізмам, маляваннем і літаратурнымі заняткамі (пацвярджэннем таму кніга «Напісана ім самім»). Велізарны ўплыў мела на яго Ёка Она. Дзякуючы ёй у Ленане — экстравагантнай рок-зорцы — прынамсі, у пэўныя моманты — рашуча праступалі рысы апантанага мысліцеля, занепакоенага станам спраў у грамадстве.




Яго сяброўкі жыцця? Да Ёка Она — Сінцыя Паўэл[1], мастачка. Любімы напой? Віскі. Хобі? Напісанне песень і паэм, дзяўчаты, маляванне, кіно.

Яго выказванне пра «Бітлз»? «Не, я не «Бітлз». Пол — гэта таксама не «Бітлз». І Браян Эпштэйн (менеджэр групы.— Заўвага аўтара) не быў «Бітлз»... Мы ўсе ў гэтым ансамблі маем ролю, якую мусім выконваць». Чым займаўся ў ансамблі ён сам? Быў стваральнікам значнай часткі рэпертуару, добра спяваў, іграў на рытм-гітары і некалькі іншых інструментах (фартэпіяна, гармоніка, сола-гітара). Прызнаваўся як ідэйны натхняльнік групы і на першым этапе яе кар'еры выступаў у ролі лідэра.

[1] Сын Джона і Сінцыі Джуліан таксама прысвяціў сябе рок-музыцы, запісаў некалькі альбомаў, цёпла сустрэтых крытыкай. [Заўвага перакладчыка.]



Што ён напісаў і што спяваў у «Бітлз»? Увесь час, пакуль існаваў ансамбль, падпісваў творы разам з Макартні. Спачатку яны і пісалі разам. Аўтар кнігі «Рок: ад Прэслі да Сантаны» Марэк Гажтэцкі адзначаў: «Эксперыментатарскія схільнасці Ленана ўносілі элемент неспакою ў меладычныя і прыемныя для слыху творы Макартні. У сваю чаргу традыцыяналізм Пола рабіў кампазіцыі Джона больш даступнымі». Немалую славу прынеслі «Бітлз» іх раннія, цудоўныя і немудрагелістыя песенькі, пераважна пра каханне. Такія, як, напрыклад, «Ганна» і «Бэбі, гэта ты» (альбом «Калі ласка, парадуй мяне», 1963[1]). Джон, уласна кажучы, і быў у іх вядучым вакалістам. Але ўжо і тады «Бітлз» выконвалі творы, у якіх апроч ягонага голасу дамінаваў і ленанаўскі погляд на свет і на музыку. У іх ліку — «Вечар цяжкага дня» і «Калі я пакахаю» («Вечар цяжкага дня», 1964), «Гэта ненадоўга» («Разам з «Бітлз», 1963), напісаная пад уплывам Дзілана кампазіцыя «Трэба ўтаіць сваё каханне» («На дапамогу!», 1965), «Дзяўчына» і «Нарвежскі лес» («Гумавая душа», 1965) і іншыя.

[1] Далей у дужках будуць давацца назвы альбомаў. Дыскаграфія групы будзе прыведзена ў канцы публікацыі.

Калі «Бітлз» наблізіўся да зеніту сваёй творчасці, калі іх прадукцыя стала гарманічна багацейшая, больш выразная і больш эфектна інструментаваная (тут нельга не згадаць прадзюсера групы Джорджа Марціна), калі ў ёй загучалі матывы сацыяльна-маральнага плана, тандэм Ленан — Макартні ўсё роўна як сам сабою распаўся. Хоць і потым былі творы, якія яны стварылі разам — напрыклад, «псіхадэлічны», складзены з двух своеасаблівых фрагментаў «Дзень жыцця» з этапнага альбома «Аркестр клуба адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера» (1967). Джон усё больш пісаў сам — сведчаннем таму засталіся яго кампазіцыі «Аб'яднаемся» і «Я хачу цябе», якія ўвайшлі, бадай, у лепшы альбом квартэта «Эбі Роўд» (1969), кампазіцыі «Заўтра ніколі не надыдзе» і «Я толькі сплю» («Рэвальвер», 1966), кампазіцыя з некалькіх частак «Шчасце — гэта цёплая зброя» з двайнога альбома «Бітлз» (1968), вядомага больш як «Белы альбом», іншыя яго работы.

Ленан быў у гэтых кампазіцыях і вядучым вакалістам. Пры ўсім пры тым ён — ах, гэтая яго любоў да рок-н-ролу! — актыўна ўключаўся і ў выкананне чужых, перапрацаваных для «Бітлз» нумароў. Згадаем хоць бы «Рок-н-рол» з пласцінкі «Бітлз» для распрадажы» (1964) ці «Круціся і крычы» («Калі ласка, парадуй мяне»).

Сенсацыйныя моманты ў ягоным жыцці? Джон «ваяваў» з каралеўскім сямействам. У час канцэрта, на якім прысутнічалі члены сямейства, сказаў, выконваючы адну з песень: «Тых, хто сядзіць на танных месцах, просім пляскаць. А астатнія няхай трасуць каштоўнасцямі». Праз некалькі гадоў, у знак пратэсту супраць падтрымкі Вялікабрытаніяй развязанай ЗША вайны ў В'етнаме, вярнуў Ордэн Брытанскай імперыі, якім быў нядаўна ўзнагароджаны.

Заканчэнне будзе

Пераклаў Ю. ЦЫБІН

Маці УНЬТ

# UNBEWUSSTE ÄNGSTE[1]

Той ранняй вясной мы сядзелі аднаго дня ўтраіх — акторка, дызайнер і я — у талінскай кавярні «Залаты кот», дзе, як вядома, звычайна збіралася творчая інтэлігенцыя.

Я якраз толькі што прыехаў з замежнага падарожжа, якім мяне ўзнагародзілі ў якасці прэміі. Я наведаў адну прыязную балканскую краіну, і ў мяне было цяпер шмат пра што распавесці: яблыні ў квецені ў той час, калі ў нас яшчэ не растаў снег, гатэль люкс са спрэс французскім абсталюнкам, дзесяткі букетаў руж на афіцыйных прыёмах, казытлівыя адчуванні ў фунікулёры, цыбаты музыкант, што граў у начным бары на арганах Хэманда.

Я гаварыў з запалам, сябры ўважліва слухалі. Мы ўжо паабедалі, паелі рыбы і цяпер запівалі вінам. Фактычна мы былі цалкам цвярозыя, калі ўсё гэта пачалося, можа, дызайнер і быў трохі пад градусам, але па ім зусім не было відаць. Але з чаго ж усё гэта, уласна кажучы, пачалося!

Пачалося з таго, што ў кавярні раптам настала нязвычная цішыня. Спачатку я не звярнуў на гэта ўвагі і расказваў далей, але хутка да нашага століка падскочыў кельнер з вельмі сур'ёзным і бледным тварам і сказаў, што мы павінны зараз жа пайсці адсюль. Чаму, здзівіліся мы, цяпер жа звычайны працоўны час ці, можа, нечакана пачынаецца перападлік! Ці прыехаў рэвізор! Зараз тут пачнецца лекцыя пра фрайдызм, сказаў шэптам кельнер, зірнуўшы скоса ў бок бара, лекцыя для керамістаў, якія нанялі сёння на вечар нашу кавярню, каб ім тут прачыталі лекцыю пра фрайдызм, а пасля ў іх, мабыць, будуць танцы. Мы агледзеліся наўкола. І праўда, публіка за гэты час непазнавальна змянілася. З прысутных мы не ведалі нікога. У запале гутаркі мы не заўважылі, як прыйшлі керамісты. «Каторая гадзіна!» — звярнуўся я да акторкі, і яна адказала, што трэцяя. Так рана лекцыя, а трэцяй гадзіне, керамістам, ды пра фрайдызм, не паверыў я. Ці ж вы не прачыталі аб'яву на дзвярах, спытаў кельнер. Я ніколі нічога не чытаю, адказаў дызайнер, я не веру таму, што пішуць. Кельнер паўтарыў патрабаванне, каб мы пайшлі. Усё ж гэта быў наш даволі добры знаёмец, мы часта сюды хадзілі і былі добрымі кліентамі, але сёння ён быў проста няўмольны: праўда, ідзіце, а не — дык у мяне будуць непрыемнасці. Дызайнер прамармытаў: я таксама хачу паслухаць лекцыю пра фрайдызм, я ж таксама мастак, што з таго, што прамысловы мастак, чаму ж мне нельга сёе-тое даведацца пра фрайдызм. Па сутнасці, ён цалкам меў рацыю, бо фрайдызм — рэч адкрытая, дазволеная, і ніхто не можа абвясціць на яго сваю манаполію. З гэтым згадзіўся і наш кельнер. Ён хвілінку павагаўся і ўрэшце вырашыў: ну добра, заставайцеся, толькі, прашу вас напраміль бог, сядзіце ціха. Так, згадзіўся дызайнер, але яшчэ плюс дзвесце грамаў каньяку. Кельнер глыбока ўздыхнуў і ўзняў вочы да неба. Я наступіў дызайнеру пад сталом на нагу. Добра, што хоць дазволілі застацца.

Дый лектар ужо стаяў сярод залы. Бармен выйшаў з-за стойкі і сказаў, што сёння гаворка будзе ісці пра фрайдызм. Фройд,— летуценна працягнуў дызайнер. І кельнер адразу — гоп! — да нашага століка. Яшчэ гучней за дызайнера ён сказаў, што мы тут няпрошаныя госці і наш абавязак — трымаць язык за зубамі. Бармен звярнуў увагу на кельнераву любоў да парадку, быццам так і было задумана. Лектар шчыра павітаўся з керамістамі і пакланіўся ім, ледзь не кожнаму століку асобна. Няўжо і сапраўды ён ведаў усіх керамістаў асабіста, у твар! Наўрад ці. І ўсё ж мне зрабілася ніякавата, калі ягоны цёплы, але пранізлівы позірк спыніўся на нашым століку. Ці ўбачыў ён, што я не кераміст, а аферыст, што рухі акторкі таксама не запэцканыя ў гліне, ці ўбачыў ён у дызайнеравых вачах зеленаватыя гандлярскі агеньчык! Не ведаю, не ведаю. Ва ўсялякім разе, перш чым ён пачаў лекцыю, ягоны позірк, блукаючы, яшчэ раз спыніўся на нашым століку. Мы стаілі дыханне, бо бармен і кельнеры ўважліва за намі сачылі. Лектар пачаў з пачатку. Ён расказаў пра супрацоўніцтва Фройда з Ёзэфам Броерам, вынікам чаго сталася выдадзеная ў 1895 г. праца «Studien über Hysterie»[1]. Лектар, ведама ж, не забыў нагадаць, што пазней Фройд стараўся не ўзгадваць ролю, якую адыграў Броер ля калыскі псіхааналізу. Лектар намякнуў таксама на моцны ўплыў, якому ў маладосці паддаўся Фройд у Парыжы, у клініцы Шарко. Пасля ён пазнаёміў слухачоў з гадамі самотнай Фройдавай маладосці (больш не было сяброў, яшчэ не было вучняў). На працягу гадоў Фройд, паводле лектара, прызнаваў толькі палавую цягу (а пазней яшчэ і цягу да смерці). Фройд, казаў лектар, прасіў сваіх вучняў Юнга і Адлера, каб яны, барані божа, не адмаўляліся ад ідэі сексуальнасці. Сексуальнасць была падставай ягонае тэорыі, без сексуальнасці яна развальвалася. Фройд лічыў, што псіхічная энергія незадаволеных біялагічных інстынктаў збіраецца ў падсвядомасці і імкнецца да выяўлення. Лектар ілюстраваў выступленне адпаведнымі жэстамі. Думкі, страсці і пачуцці, якія стрымліваюцца сучаснай цывілізацыяй, гэта значыць мараллю і грамадскай думкай, адцясняюцца ў падсвядомасць. Я шапнуў, што нам лепш пайсці: хто ведае, колькі яшчэ будзе цягнуцца гэтая лекцыя, дый замовіць больш нічога нельга, але акторка выказала думку, што ісці ўжо позна, трэба было ісці адразу, але цяпер, напэўна, трэба ўжо чакаць да канца, дый, бадай, больш за дзве гадзіны лекцыя не працягнецца, а што мы ўсё дзьмемся, усё роўна заўтра ўсе будуць казаць, што мы хацелі сарваць лекцыю. Дызайнер сказаў, што няма нічога лягчэйшага, як устаць і пайсці, што ён гатовы хоць зараз. Акторка засычэла на яго, і дызайнер сціх. А лектар усё гаварыў пра падсвядомае. Ён казаў, што інстынкты, імпульсы і жаданні выяўляюцца толькі ў падсвядомым. Інстынкты ніколі не могуць быць свядомыя, у свядомасці адбіткам іх ёсць думкі, уяўленні і страсці. Я агледзеўся навокал. Побач са мной былі яшчэ адны дзверы, і я цішком паказаў на іх сябрам, але дызайнер паведаміў, што гэтыя дзверы вядуць у тупік. Выйсця тут няма, толькі акенца пад столлю, але праз яго нават маленькае дзіця не пралезе.

Я страціў надзею і злёгку задрамаў. Нібы праз туман я чуў, як лектар сцвярджаў, што «Traumdeutung»[1] ёсць адзін з найцікавейшых Фройдавых твораў. Гэтак, на Фройдаву думку, было і з мастацтвам, казаў далей лектар. Я быў прапусціў частку лекцыі міма вушэй і не мог сцяміць, дзе і што было з мастацтвам. Паводле Фройда, мастацтва — гэта ў пэўным сэнсе замірэнне, бо ў сапраўднасці мастак можа рэалізаваць сябе толькі ў фантазіі. А ў капіталістычным грамадстве мастацтва з'яўляецца для мастака адзіным спосабам існавання!

Я паглядзеў у вочы дызайнеру, схапіў торбачку акторкі і пачаў паволі вылазіць з-за стала. Але дызайнер адразу рэзка падняўся. Цяпер акторцы не заставалася нічога іншага, як, дрыжучы, пайсці за намі.

[1] Неўсвядомленыя страхі (ням.).

[1] «Доследы па істэрыі» (ням.).

[1] «Тлумачэнне сноў» (ням.).




Лектар раптам спыніўся, убачыўшы, як мы цугам крочым у яго бок. Выхад быў якраз за спінай у лектара, і мы вымушаныя былі прайсці каля яго.

Усе керамісты разглядалі нас, і гэта было натуральна, бо мы паволі сунуліся на дыбачках, і таму стваралася ўражанне, што мы ўшчэнт п'яныя.

Я першы дабраўся да дзвярэй і пацягнуў за ручку. Пачуўся жахлівы скрыгат. Чым павольней я адчыняў дзверы, тым больш нясцерпна яны рыпелі. О, гэтыя секунды! І ўсё ж я адчыніў дзверы!

За мной выскачылі ў калідор акторка і дызайнер. Мы ўздыхнулі з палёгкай. Ратунак! Уф!

На вуліцы, за акном, сыпаў мокры вясновы снег, людзі неслі дадому вязанкі туалетнай паперы, набліжаўся вечар. Мы ўзялі нашыя паліто. І раптам з вуснаў акторкі вырваўся немы крык.

Мы з дызайнерам падскочылі да яе: што з табой! Божа, божа, я пакінула там сваю куртку! Яна зажурылася і села на лаву. Я баюся туды вяртацца, прашаптала яна.

Настала гнятлівая цішыня, толькі за дзвярыма па-ранейшаму гучаў голас лектара. Хлопцы, папрасіла акторка, хлопцы, прынясіце маю куртку. Мы з дызайнерам паглядзелі адзін на аднаго. Акторка была наша добрая прыяцелька, але цяпер яна патрабавала ад нас сапраўды зашмат. Яна паклала на шалі нашу мужнасць. Я ж не магу так пайсці дамоў, маліла нас бедная жанчына, паглядзіце, якое надвор'е! Мы згадзіліся. Мы ведалі пра людзей, якія ішлі на змаганне з драконам, пра святых юр'яў і ланселотаў. Але і акторка добра нас ведала. Яна ўздыхнула і сама ўвайшла праз бакавыя дзверы на кухню — можа, хто з кельнераў сходзіць! Яе не было тры хвіліны. Да нас даносіліся сказы і паасобныя словы лектара: neurotische Liebesbedürfnis... Angst[1]... інцэст... Акторка вярнулася сумная. Кельнерам было забаронена ўваходзіць у залу. Ім забаранілі замінаць лекцыі. Ці вы і праўда не можаце мне дапамагчы, спытала наша прыяцелька, няўжо аніяк не можаце! Мы страшэнна хацелі б дапамагчы, сказаў дызайнер, няўпэўнена падсоўваючыся да дзвярэй.

Раптам ува мне ўзнялося нешта першабытнае (archaisch[2]).

І дагэтуль я не магу сабе гэтага растлумачыць. А можа, і не трэба тлумачыць.

Назавём гэта проста зорнай часінай.

Я ўвайшоў проста ў кухню, дзе стаялі нізенькія кельнеры і млява палілі цыгарэты. Будзьце ж людзьмі, сказаў я сурова, прынясіце вы гэтай жанчыне куртку, што вы тут стаіцё! Прынясі сам, калі такі смелы, сказаў напышліва рыжавалосы кельнер. Дам пяцёрку, прынясі, не адступаўся я. Пяцёрку, спытаў кельнер, але спаважнеў і сказаў амаль па-сяброўску: не магу, я б прынёс, але не магу, бо мы рызыкуем сваім месцам працы: нас могуць звольніць, калі мы перашкодзім лекцыі. На першы раз даруюць, не здаваўся я. У мяне ўжо ёсць адзін грэх на душы, растлумачыў кельнер, аднаго разу я перашкодзіў лекцыі, тады... што ж было тады, звярнуўся ён да другога кельнера. Тады, дапамог другі, была лекцыя пра постманьерызм і ты зайшоў у залу з шампанам. Бачыш, тады я атрымаў заўвагу, а цяпер можа быць і вымова, скончыў размову кельнер.

У меня пацямнела ўваччу.

Я расчыніў дзверы, што вялі ў залу. Купка бледна-белых твараў павярнулася да мяне. Напэўна, я быў бледны і рашучы. Лектар змоўк. А можа, падумаў, што я хачу яго забіць!

Я баяўся спатыкнуцца, але ўпарта ішоў наперад. Калі прайшоў міма лектара, ён зразумеў, што я не настроены агрэсіўна, і тады стаў казаць далей: у нас няма ніякае падставы гаварыць пра Фройда як пра ірацыяналіста, гэта хутчэй чалавек, які верыў, але бачыў усё ж нейкае выйсце і ў ratio[1]. У сваёй кнізе «Das Unbehagen in der Kultur»[2] Фройд знаходзіць, што культура магчымая толькі тады, калі ўціскаюцца падсвядомыя імкненні. Гэткія рэпрэсіўныя акты ўскладняюць жыццё. Але, прамаўляў далей лектар, Фройд не бачыць асаблівае розніцы паміж цывілізацыяй і культурай. А ці не з'яўляюцца культура і «звыш-я» двума бакамі аднаго медаля! У гэты момант мая рука дакранулася да гладкай і мяккай скуры курткі. Я пайшоў назад, не зірнуўшы на ніводнага кераміста. Праходзячы зноў міма лектара, я зрабіў нешта накшталт паклону. Падсвядомыя імпульсы сублімуюцца ў аспекце эканоміі лібіда ў творчую фантазію, сказаў ён быццам мне ў адказ, і ягоны даклад здаўся мне вельмі непаслядоўным. Я выйшаў у кухню, некаторыя кельнеры паглядзелі на мяне іранічна, іншыя ж з пачцівасцю. Я прамінуў іх і выйшаў у калідор, дзе акторка радасна пацалавала мяне ў шчаку, а дызайнер, злёгку саромеючыся, разглядаў мыскі сваіх чаравікаў.

Я дапамог акторцы апрануць куртку, і мы выйшлі на вуліцу, пад зябкі мокры снег. Там мы яшчэ трошкі пастаялі, але непазбежна наблізілася хвіля расстання, якую мы марна спрабавалі адкласці. Фармальным узмахам рукі мы развіталіся з акторкай, і яна растала ў белай смузе. Паступова аднаўляўся нармальны ціск і пульс, паступова вяртаўся будзень, пачыналася рэальнасць.

Пераклаў з эстонскай Сяргей ШУПА

Мал. Сяргея ФІЛІПАВА.



[1] Неўратычная патрэба кахання... страх... (ням.)

[2] Першабытнае (ням.).

[1] Розум, здаровы сэнс, мысленне (лац.).

[2] «Няёмкае ў культуры» (ням.).

Максім КЛІМКОВІЧ

# ТРАЕЦКІ ПЕРНІК

Я іду Верхнім горадам, бадай што самым недагледжаным на сённяшні дзень раёнам сталіцы. Але ж і самым прывабным для мяне. Тут, на плошчы, пяць гадоў таму прыдатнай, па мерках большасці мінскіх архітэктараў, толькі для пабудовы палаца рэспубліканскага значэння, месцяцца гістарычныя і архітэктурныя помнікі, якія ўласна і складаюць тое цэлае, што засталося ад старога Мінска. Мне падабаецца растрэсканая тынкоўка і аблезлая да невызначальнасці колеру фарба фасадаў, парослы быльнягом брук і манументальныя контрфорсы ў трошкі большым ад кухні панельнага дома дворыку. Мне падабаецца ўсё гэта таму, што бачу за ім не толькі нядаўнюю абыякавасць грамадства да мінулага, а бачу само мінулае, адчуваю час. Перада мной сапраўдныя, не прыгладжаныя касметыкай абрысы майго горада, абрысы, кранутыя часам.

Я гляджу на муры і стараюся ўявіць, як выглядалі яны сто, дзвесце гадоў таму. Надбудоўваюцца паверхні, змяняюцца дэкоры. На якім спыніцца! Які павінен быць Верхні горад! Такі, які быў сто! дзвесце год таму! Тады чаму не трыста! А калі трыста, то чаму не дзвесце пяцьдзесят! На якой лічбе ні спыняюся, разумею, што губляю адпаведны ёй кавалак гісторыі. І таму пакідаю ўсё як ёсць, каб вярнуцца да гэтага занятку праз колькі дзён.

Больш за ўсё я люблю ў Верхнім горадзе падмурак Святадухаўскай царквы. Адзінага ў свеце праваслаўнага храма, пабудаванага ў стылі рэнесансу і распісанага па фасадзе. Царкву ўзарвалі на рубяжы дваццатых і трыццатых гадоў нашага стагоддзя. Мне падабаецца стаяць на керамічных плітах былой падлогі, а цяперашняй часткі ходніка і прыдумваць, якой можа стаць царква пасля адбудовы. Можна адбудаваць адзін толькі фасад з фрэскамі, а ўвесь астатні аб'ём паўтарыць са шкла і сталі, каб праз прывідныя сцены храма чытаўся сучасны горад. А можна выкласці на плошчы чорнай брукаванкай цень храма, а ўсё астатняе пакінуць на фантазію людзей. Колькі б храмаў яны збудавалі на месцы аднаго, страчанага шэсць дзесяткаў год таму! Але адразу ж успамінаецца праект рэстаўрацыі Верхняга горада, і ўжо ўздымаецца над Пляцам Волі дэкарацыя — чучала, напіханае жалезабетонам, пустацелай цэглай і пенаблокамі, звонку замаскаванае пад антыкварыят слоем касметычнай тынкоўкі і эмульсійнай фарбы. Хай сабе і зробленая з лепшым намерам, насуперак волі чыноўнікаў, спадкаемцаў тых, хто ў свой час узарваў помнік архітэктуры,— гэтая пабудова застаецца чучалам. Такая падробка пад старажытнасць знішчыць другі помнік — пусты падмурак. Адзіны ў маім горадзе сапраўдны і годны ўвагі помнік сталінскай эпохі ў культуры. Адбудаваць храм «як і было» — занадта танны мастацкі шлях, каб адкупіцца ім ад шасцідзесяці год неіснавання, задаволіцца адным толькі напамінам у прамове будучых экскурсаводаў: «Перад вамі будынак былой Святадухаўскай царквы. Храм быў узведзены ў канцы шаснаццатага стагоддзя, узарваны на пачатку і адноўлены ў канцы дваццатага стагоддзя». Гучыць як надпісы на многіх мемарыяльных дошках: «На гэтым месцы знаходзіўся дом, у якім...» Добра было б, канечне, аднавіць Святадухаўскую царкву, але толькі не за кошт знішчэння часткі яе ўласнай гісторыі.

Верхні горад не настолькі вялікі, каб змог замкнуць кола майго шпацыру. І таму я іду праз яго, іду туды, дзе магчыма пасядзець, пагутарыць, сустрэўшы знаёмых. Я іду ў Траецкае прадмесце, у невялікую кавярню. Іду піць каву.

Траецкае — так звычайна называюць яго ў Мінску: без удакладненняў. Але што Траецкае! Невядома. У ім ужо практычна скончана рэстаўрацыя. Гэта першы стары раён, рэканструяваны Мінскімі рэстаўрацыйнымі майстэрнямі. Своеасаблівы палігон для выпрацоўкі праектных і канструктыўных рашэнняў пад рэстаўрацыю Верхняга горада. Таму я пільна ўглядаюся ў каляровыя, як святочныя паштоўкі, дамкі на беразе Свіслачы. Такім неўзабаве павінен стаць і Верхні горад. Углядаюся, але ж няма той радасці, якую я адчуваў на пачатку васьмідзесятых, калі даведаўся, што Траецкае прадмесце будуць нарэшце рэстаўрыраваць. У той час ўяўленню маляваўся сапраўдны стары горад. А не дэкарацыя для лялечнага мультфільма, што бачыцца мне сёння.

Увесь час, калі ішла рэстаўрацыя, Траецкае жыло, кожны дзень была бачна перспектыва. Спалучэнне сучасных рыштаванняў, пад'ёмнікаў, жалезабетонных панеляў са старымі дамамі стварала па-сапраўднаму жыццядольны краявід, дзе адначасова існавала старое з сучасным, існавала, але не дамінавала ні адно, ні другое. Траецкае прачытвалася ў кантэксце сучаснага архітэктурнага аблямавання.

Колькі ні стараюся, не магу пераканаць сябе, што неабходна было ў адным месцы зносіць дом з мемарыяльнай дошкай, каб замяніць яго на памятны знак з пашыраным у Мінску надпісам: «На гэтым месцы стаяў будынак...», а за нейкія паўста метраў у глыбіні квартала будаваць другі дом ад нуля — з падмурка і да вільчка цэласную падробку, бо такога дома ніколі не існавала ні на гэтым, ні на іншым месцы. Больш лагічна, на мой погляд, было б першы дом пакінуць у спакоі, а на пустым месцы ўзвесці пабудову сучаснай архітэктуры, вядома, не на дваццаць паверхаў, а суадносную з памерам наваколля. Такі ход толькі падкрэсліў бы старасвецкасць суседніх муроў. Такім будынкам мог быць і геаметрычна стэрыльны аб'ём — куб, паралелепіпед з люстранога шкла, у якім адбіваліся б суседнія пабудовы. А ў цяперашнім выкананні Траецкае асацыіруецца ў мяне з драўляным тэлефонным апаратам у стылі барока кааператыўнай вытворчасці. Такі ж самы эстэтычна-утылітарны нябожчык ад нараджэння. Яно з першага ж дня заканчэння рэстаўрацыі не мае перспектыў развіцця, бо яны і не былі пачаткова закладзены ў праект. Траецкае сёння выглядае рэзервацыяй, не хапае толькі апранутых у нацыянальныя строі статыстаў. Даўніну нельга ствараць, яе трэба выяўляць і падкрэсліваць сучаснымі рашэннямі. Каб гледачы не хадзілі наўкола ўчора ўзведзенага дома і не казалі з захапленнем: «Аднак жа і ўмелі будаваць нашыя дзяды!» Калі па максімуму развіць ідэю адбудовы Траецкага, то на месцы страчаных будынкаў трэба было б будаваць маленькія Нотр-Дам дэ Пары ці Кёльнскія саборы, яны маюць да гэтага раёна такое самае дачыненне.

Ці не варта было б пакінуць у Траецкім хаця б адзін стары дом у сучасным выглядзе! Каб наша і наступныя пакаленні мінчан маглі на ўласныя вочы бачыць, у якім стане знаходзілася гістарычная забудова сталіцы да сярэдзіны васьмідзесятых гадоў. Мы ўжо зрабілі аднойчы падобную памылку, калі разабралі або аднавілі ў Мінску ўсе руіны, створаныя вайной Адзін такі квартал ці нават асобны дом былі б вартыя сёння цэлага музея.

З вышыні Верхняга горада Траецкае ў сваёй лубочнай каляровасці і залізанасці выдае вялізным тортам, усе дамкі — складзенымі з пернікаў. І прыпамінаецца казка пра тое, як пасярод лесу стаяла хатка з пернікаў. Дзеці, прываблены салодкім, заходзілі ў яе, а там іх ужо чакала Баба-яга. Так і сённяшнія мінчане лёгка з'ядаюць разам з цукровай паліўкай пад старажытнасць спрошчанае, а месцамі і скажонае ўяўленне пра мінулае ўласнага горада. І ўжо сапраўдная, непафарбаваная старажытнасць выдае ім занадта прэснай.

Я спускаюся вышчарбленымі сходамі з Верхняга горада да Траецкага і ў тахт крокам паўтараю: «Ніколі не адкладвай на заўтра тое, што можаш адкласці на паслязаўтра. Ніколі не...» Мо і варта прыслухацца да афарызму, успомніць, што акрамя словаў «рэканструкцыя» і «рэстаўрацыя» ёсць слова «кансервацыя»! Адкласці ўсе будаўнічыя справы ў Верхнім горадзе на паслязаўтра, на той час, калі ў нас будуць і архітэктары і вытворчая база, годныя Мінска, а не спяшацца адным хапком паправіць тое, што будавалася і нішчылася на працягу стагоддзяў.

Я іду ў Траецкае, іду проста піць каву, бо яна там сапраўды добрая. Адно добрую каву лепш піць без цукру, ад яго толькі губляецца водар. І ўжо ні ў якім разе добрую каву нельга закусваць пернікам, у тым ліку і Траецкім.





# ФЭЙСАМ АБ МУЗЫКУ

Алена КАПЫТОВА

— Я за нефармалаў... Даеш нефармалаў!

— Чуеш, дзівак, а навошта яны табе!

— Сам ты дзівак! Ты толькі паслухай: нефармальнае аб'яднанне аматараў «Акварыума»... Як гучыць, га!

— Звычайна гучыць. А ты што! Так моцна Грабеншчыкова любіш!

— Люблю!! Ды я проста фанацею, калі іх слухаю. У мяне яны вось тут — у самым сэрцы, разумееш ты гэта! Так бы і слухаў цэлымі суткамі адзін «Акварыум».

— Ну, брат, ты, значыцца, зусім абмежаваны: адзін «Акварыум»... Ты хоць акрамя яго яшчэ што-небудзь ведаеш, слухаеш!

— Натуральна... «Бітлз», напрыклад. Якія ў іх мелодыі! Якія мелодыі... Гэта ж класіка! Цяпер такіх няма. Макартні, праўда, нешта спрабуе рабіць, усё нібыта ў лепшых традыцыях, але не тое, зусім не тое... Ці «Сцяна» пінкфлойдаўская!! Клас! Я проста закідваюся, калі іх слухаю. Хіба ты са мной не згодны!

— Чуеш, Вадзім, ты мне сябра!

— Запісы патрэбныя! А мані-мані ёсць!

— Усё о'кэй.

— Тады згаворымся. Але ўлічы, што раблю я ўсё гэта толькі з-за любові да музыкі і асветы. Прыемна, разумееш, гаманіць з людзьмі ў курсе.

— Вадзімчык, і мне!

— Для цябе, золатца, усё што хочаш.

— Кузьміна натуральна! Яго апошнія запісы. Для мяне сучасная эстрада — гэта перш-наперш Кузьмін, потым ужо ўсе астатнія... О! Кузьмін — гэта файна! Я чатыры разы хадзіла на канцэрт. Вось гэта сапраўдны маладзёжны кумір! А ты чаму гэта ўсміхаешся!

— Ну-ну, заплач яшчэ... Ды на нашай сцэне ўвогуле няма годных... Ну хто! Што за музыка! Што за аранжыроўкі! Нікуды не вартыя. Калі ўжо і слухаць што-небудзь на рускай мове, дык гэта эмігрантаў ці Разэнбаўма.

— Ну ты загнуў. Цяпер наша музыка вельмі нават нічога. Мне, напрыклад, падабаюцца «Аліса», «Гукі Му», «Містэр Твістэр». Яны сучасныя, бо спяваюць пра тое, што хвалюе цяперашнюю моладзь, і не грэбуюць ніякімі тэмамі: ні добрымі, ні благімі... Не тое што гэтыя гарладзёры з канвеера. Тут я з табою цалкам згодны... Саш, а Саш... Ды адарвіся ты хоць на хвілінку ад ксёнжкі сваёй. Дарэчы, што чытаеш! «Майстар і Маргарыта»! Нармалёва, я чытаў... Дык ты чуеш! Скажы нам, светлая галава, як ты ставішся да сучаснай музыкі!

— Гэта як да якой.

— Ну, па-першае, якую ты лічыш сучаснай!

— Тую, якую праз гадоў дваццаць будуць называць музыкай 80-х.

— І як ты думаеш, якую!

— Ведаеш, я, напэўна, дрэнна стаўлюся да сучаснай музыкі, бо пры застаўцы «Музыка-80» будуць круціць які-небудзь «Модэрн Токінг».

— А твой любімы «Акварыум»!

— «Акварыум» будуць называць музыкай 80-х, калі перабудова не скончыцца. Вось.

— Я заўсёды казаў, што ў нашага Сашы галава дай божа любому... А я, калі шчыра, не ўспрымаю ўсіх гэтых куміраў-80. Я іх у прынцыпе і не ведаю... Мы былі, так сказаць, выхаваны на песнях «Машыны часу». Я іх і цяпер лічу лепшай савецкай групаю. Малайцы хлопцы! А яшчэ каго можна вылучыць, дык гэта Пугачову. Яна пастаянна мяняецца, нешта шукае — так званы хамелеон, у адваротным сэнсе слова — і гэта дапамагае ёй увесь час трымацца на вышыні...

— Хаця «метал», лічы, прапаў, але я хачу сказаць табе: «Не будет тот внимать волне, кто душу черту отдавал, в экстазе слушая «металл». Вось як, галубочкі... Хто тут супраць «металу» што-небудзь мае!

— Не, гэта не мая стыхія. Гэта музыка для больш маладых — у іх страўнікі добрыя, пераварваюць хутчэй.

— Ну, не скажы. Ёсць такія рэчы, якія падабаюцца не толькі металістам, а амаль што ўсім. «Акцэнт», напрыклад.

— Што хочаш, толькі не «Акцэнт».

— У мяне ёсць зборка іх лепшых кампазіцый з усіх альбомаў...

— Ведаеш, я слухаў усе канцэрты гэтай групы. І тое, што ў іх ёсць пара нармалёвых песень, яшчэ ні аб чым не гаворыць. У любой правінцыйнай піскалкі ёсць хоць адна песня, якую яна выконвае на біс.

— Карацей, хопіць. Даю дакладны і канкрэтны адказ. Сучасная музыка — гэта тая, якую выконваюць людзі не старэйшыя за вас больш як на 18—20 гадоў. Усіх відаў, жанраў, любога кшталту... Слухайце, адукоўвайцеся, і арганізуем нефармальныя аб'яднанні аматараў усёй сучаснай музыкі, згодныя! Ну тады я пабег слухаць «Акварыум». Прывітанне!

Фота Уладзіміра КАЦАПАВА.

КАРАНІ І КРОНЫ

# «ЖАНІЦЬБА КОМІНА»

Алесь ЛОЗКА

Сёлета ў вёсцы Дзяржынск Лельчыцкага раёна нам прыгадалі, што зімою «коміна жанілі». Абвязвалі комін ці пасвет стужкамі, запальвалі лучыну і потым вечарамі пралі кудзелю.

Як вядома, комін — гэта вялікая труба, сплеценая з лазы і вымазаная глінаю, якая прымацоўвалася да адтуліны ў столі хаты. Пад трубой вешалі пасвет (або лучнік) — патэльню ці квадрат металічнай рашоткі, на чым гарэла лучына, што асвятляла хату селяніна ў асеннія і зімовыя вечары.

З усяго дзесятка вядомых нам запісаў абраду лепшым і паўнейшым нам уяўляецца публікацыя П. В. Шэйна «Жаніцьба коміна», матэрыялы даслаў у 1883 годзе настаўнік Пінскага рэальнага вучылішча В. Л. Грудніцкі. Каб уявіць і зразумець старажытны абрад пакланення агню, мы друкуем фрагменты той публікацыі.

«У горадзе Пінску і яго навакольных вёсках здаўна існуе звычай штогод, 1 верасня, рабіць абрад пад назвай «Жаніцьба коміна»...

Прыгатаваўшы ўсё неабходнае для вячэры, гаспадыня абвязвае комін і лучнік новымі ручнікамі, а моладзь прыбірае іх кветкамі. Стол накрываецца новым абрусам і ставіцца пры самай печы ці пад лучнікам. Як толькі на дварэ сцямнее, у хату збіраецца ўся сям'я...

Гаспадар гаворыць вялікае пажаданне, накшталт наступнага:

«Паздароўтэ, дзедуся, бабусю, дзядька, дзеткі, чаляднічкі, прыяцеляў і дабрадзеяў!.. Зашчытыты худобку: коныкі, волыкі, кароўкі для дыток і ўсякую скацінку. Зарадыты хлебец, жыта, пшэныцю і ўсяку пашныцю. Зашчытыты пчолкі, вынесь іх на красну весну!.. Дайтэ чэлядачцы ахоту раненька ўставаты, пры світлі працоваты. Дайтэ, штоб нашаму роду не было пераводу...»

Калі ўся сям'я паспее закусіць, павесялее і ва ўсіх развяжуцца языкі, гаспадыня прыносіць у фартуху семкі (гарбузікі), сыпле іх на коміны, а на стол кладзе «ласошчы»: пернікі, бублікі, яблыкі, гнілушкі, каліну, журавіны. А гаспадар прыносіць міску мёду — свежых сотаў. Моладзь збірае рассыпаныя семачкі і бярэцца за салодкае. Тады гаспадыня прапаноўвае моладзі праспяваць жаніху, коміну, вясельную песню.

Ой, прышлі ж ночанькі доўгенькі,
Пасвіты ж нам, коміну біленькі.
Мы ж цябе квіткамі ўбіралы,
Бервяночкам, рутай аперазалы.
Праца наша — дзіўка гарненька,
Палюбыты коміна радзенька.
Мы ж цябе будзема жаніты.
Жаніты — квас, піва, мёд піты.
Светы ж, каміночку, ясненька,
Пабуджай чэлядачку раненька:
Шыты, прасты, ткаты маладым,
А падарачкі збіраты старым.
Каміночку, ты нам спагадай,
Кручу, верчу і буры праганяй.
Дым і сажу нясы варагам,
Світ, ахоту і радасць пашлы нам.
Гаспадыня наша, паглядай,
Піва, квасу, мёду падлівай.

Старэйшыя ў сям'і часта перарываюць спяванне блаславеннямі накшталт наступнага: «Каб так рана ўставалы і шчыра працавалы, як голасна співалы!..»

Варта заўважыць, што з невялікай колькасці запісаў абраду мінулага стагоддзя тэкст песні зафіксаваны толькі ў гэтым, пінскім. Запісы паказваюць, што «жанілі коміна» два разы на год: «на Сямёна» (1 верасня), у некаторых мясцінах крыху раней ці пазней, калі з надыходам восені пачынала цямнець, і вясною на «Фаміным тыдні» (тыдзень пасля вялікадня), калі дні станавіліся даўжэйшымі.

Пры гарэнні лучыны можна было не толькі рабіць, але і чытаць. Крапіўка (адзін з псеўданімаў Алаізы Пашкевіч) назвала дзіцячы часопіс «Лучынка», каб несці святло дзецям у шырокім значэнні гэтага слова. Яна пісала ў 1916 г.: «Праз многа стагоддзяў у нас на Беларусі свяціла лучынка. Яшчэ і цяпер дзе-нідзе ў вёсках збіраюцца на попрадкі з кудзелямі дзяўчаты, маладзіцы: песні спяваюць, казкі баюць. Старэйшая з кабет або нехта з дзяцей ахоўвае дзеда-лучніка: то вугаль абтрасе, то свежую лучынку пакладзе. Мігаюць іскры па хаце. Пры пламеньчыку складна родная песня плыве, казка баецца».

У Беларусі, у прыватнасці на Палессі, існуе асаблівая пашана агню. «Жаніцьба коміна» — гэта сляды культу духаў-продкаў, дзядоў, хатніка, які, паводле ўяўлення язычнікаў, звязваўся з агнём (Сварожычам) і жыў у сушні, на печы і пад ёй, у коміне. Гэта яму прыносіліся ахвяраванні — «ласошчы». Паэтычна ўспрымаецца цяпер абразок з песні «Вяселле коміна з працай». Абрад мог узнікнуць пры феадалізме, стаўшы цяпер архаічнасцю, на аснове даўнейшых традыцый пакланення агню. У нас вядомы і іншыя «жаніцьбы»: гульні «Жаніцьба Цярэшкі», «Жаніцьба бахара», святы «Жаніцьба свечкі» і інш.

Валерый
ЛАПІН

# ЗА РЫСАЮ ЖЫЦЦЯ

— Нармальны чалавек самагубствам не канчае!

Такія словы я (і, напэўна, вы таксама) чуў шмат разоў. Цяпер, калі досыць працяглы час аддадзены працы над гэтым артыкулам, магу і хачу ўдакладніць: часцей за іншых сябе забіваюць верныя і тыя, каму здрадзілі, нягоднікі і найсумленнейшыя людзі, таленавітыя і зацкаваныя, наркаманы і таксікаманы, ранімыя і непрыгожыя або вельмі прыгожыя з твару.

Ад размоў, што самазабойцы амаль скрозь «псіхі», вар'яты, асабіста мне цяпер горка-смешна і жудасна. Таму што грамадская думка ўведзена ў зман. Падманваць і падманвацца працягваюць.

Восемдзесят працэнтаў (80!) суіцыдаў[1] здзяйсняюць якраз здаровыя, псіхічна нармальныя дзеці, дзяўчыны і юнакі, жанчыны і мужчыны, старыя людзі.

І ўзрост ахвяр «смертаноснай гадзіны» усё маладзее. Чаму? Прычыны? Што ж, запрашаю да чыста журналісцкага (і зусім не спецыяльнага) даследавання сумнай з'явы. Пачнем — без гэтага нельга — з размежавання такіх паняццяў, як самазабойства, давядзенне да самазабойства і забойства з маскіроўкаю пад суіцыд.

[1] Так дактары і крыміналісты называюць самазабойствы (франц. і англ. suicide). Не страшнае, незнаёмае людзям слова.

Калі ўзнікае сумненне, што чалавек не па сваёй волі пайшоў з жыцця, аператыўна выклікаюцца крыміналісты, працуюць следчыя.

Калі ўстанаўліваецца факт давядзення нябожчыка да самазабойства, таксама пачынаецца расследаванне.

А калі чалавек сам ускрыў сабе вены ды яшчэ пакінуў запіску (што здараецца рэдка) пра сваё рашэнне развітацца са светам? Яго, як кажуць, воля... Але не заўсёды тут яго ная віна перад людзьмі. Да стрэлу ў сэрца, пятлі, кідка пад цягнік, вядома, даводзяць абставіны. А абставіны ствараюцца ў сям'і, на працы. Ствараюцца знаёмымі, любімымі, блізкімі. Як гэта бывае, мы можам здагадвацца. Аднак лепей — ведаць дакладна, разумець.

Чалавек сам, без чыёйсьці фізічнай «дапамогі» прымае рашэнне памерці. Паглядзім, што звычайна папярэднічае такому рашэнню. Інакш кажучы, мы зараз будзем браць найбольш тыповыя выпадкі. Прычым, паспрабуем абысціся без шматслоўя і без імёнаў[1]. Напачатку ўявім сабе жыццёвую сітуацыю: мужчына ці жанчына робяць шмат агідных, злачынных учынкаў. Іхнія памылкі, здрады, іхнія злачынствы падымаюцца над імі як гільяціна. Страшыць не смерць, а суд. І вось — выбар зроблены: смерць ад атруты, кулі. У час вайны афіцэры, што спалохаліся небяспекі, стралялі сабе ў скроню, цяпер людзі, што, крадучы і хлусячы, перайшлі ўсе магчымыя межы, «вялікія, патрэбныя людзі» мінулых гадоў, успамінаюць — здараецца — пра маленькія флакончыкі з «лекамі», выкідваюцца ў акно, з балкона. Радзей — націскаюць курок адмысловых «падарункавых» паляўнічых стрэльбаў.

Яшчэ сітуацыя. Дзікі, немагчымы, фатальны збег абставін. Хвароба, самое жыццё — пякуць. Невыносныя пакуты. І ёсць газавая пліта, ёсць парашок, ёсць пад рукою лязо. Выйсце?

— Я не сімпатызую самазабойцам. Не, гэта — не выйсце,— сказала мне адна з самых аўтарытэтных у рэспубліцы экспертаў-крыміналістаў. І я з ёю згодны. Але ж не кожны з нас Мікалай Астроўскі...

Будзем разглядваць далей «звычайныя» выпадкі суіцыда.

Вось на цябе абвальваецца шквал нягоды, асабісты свет запаланіла гора: смерць блізкага чалавека, пераднавальнічная атмасфера на працы, дзесяць анаімак, падазрэнне на рак страўніка... Цяжка. Хто дапаможа? Нож? Атрута? Газ?

А вось — што таксама не рэдкасць — становішча даволі здаровага, выдатнага мужа і бацькі, але — зацкаванага, незаслужана прыніжанага, абражанага, апляванага, адзінокага чалавека, які стаміўся змагацца з нягодамі. Прычым чалавека таленавітага, які ведае свае магчымасці.

Памерці — проста. Перамагчы — цяжка. А калі ўвогуле, здаецца, немагчыма? Навошта жыць, дзеля чаго, калі б'е токам кожная нервовая клетка, садзіцца ў ранішні трамвай і спяшацца, паспяваць, старацца ўсміхацца?

Меней за ўсё мне хочацца, каб пасля гэтых радкоў нехта сказаў:

[1] Паколькі гаворка ідзе не пра канкрэтных асоб судовага нарыса, не пра два ці дваццаць самазабойстваў, а пра з'яву — імёны тут называць патрэбы няма. Спадзяюся, гэта не выкліча ў вас пярэчання.

— Пра мяккацелых ідыётаў артыкул... Пра псіхаў.

Калі такія людзі, як Маякоўскі ці Арджанікідзе самахоць ідуць з жыцця — гэта яшчэ не значыць, што яны ідуць з жыцця толькі па ўласным жаданні, што яны, як людзі слабыя, з незагартаванай воляю, не вытрымалі выпрабаванняў. Прычыны іхняй гібелі рыхтуюць нядобрыя, страшныя людзі. І іх смерць — вынік іхніх злачынных намаганняў.

Я толькі што згадаў двух любімых мільёнамі талентаў рэвалюцыі і паэзіі, працаўнікоў трыццатых гадоў, а мог бы назваць імёны і іншых добрых і неверагодна няшчасных людзей. Усе яны не маглі і не хацелі хадзіць у брані па сваёй зямлі, сярод сваіх суграмадзян. Хадзіць, цяжка ступаючы, каб усцерагчыся ад подлага ўдару бруднай рукі, свінца ці сталі.

Цёплы цяпер вецер перамен. Мяняецца жыццё. У словах-абноўках газетныя калонкі, новенькія шыльды ў нованароджаных установах. А вось некаторыя неверагодныя па сваёй дакладнасці і па сваім цынізме словаспалучэнні, дагэтуль — устойлівыя:

— Гэтага з'елі, гэтаму пусцілі кроў, гэтага душаць, гэтага аплявалі і пабілі...

І не садысты ж нейкія так вобразна прывыклі пераказваць навіны... Наадварот, добрыя работнікі вытворчасці, людзі мастацтва, кіраўнікі і студэнты, хатнія гаспадыні і навучэнцы... Што адбываецца, да чаго мы прыцярпеліся?!

Як шмат вакол слоў пра любоў да дзяцей, пра клопат аб старых, як шчыра сказаў ацёр Ціханаў у папулярным шматсерыйным фільме сямідзесятых:

— ...Люблю старых і дзяцей...

Менавіта старыя людзі і амаль што дзеці нашмат часцей за прадстаўнікоў астатніх груп насельніцтва накладваюць на сябе рукі. Не хочуць жыць.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі здавалася непахіснаю формула: чым старэйшы ўзрост, тым больш суіцыдаў.

Юнацтву, маладосці, сталасці ўласціва жыва радавацца нават самым маленькім радасцям. Гэты вечны закон прыроды цяпер часта не спрацоўвае.

У мяне ў блакноце запісаны некаторыя, найбольш частыя матывы суіцыда. Гартаю гэты блакнот.

Вось дзяўчынку-падлетка бацькі пасылаюць па хлеб. Яна не хоча, скандал. Школьніца павесілася...

Ці то з-за дрэннай адзнакі, ці то з-за чагосьці не больш страшнага падлетак у адным з раёнаў Мінска раздзеўся, як перад пакараннем, дагала і... Бацькі, калі вярнуліся дамоў з працы, знайшлі яго мёртвага.

Наступная старонка блакнота. Дзяўчына лічыць сябе (і сяброўкі, хлопчыкі таксама) непрыгожай. Яна — кахае, яе — ніхто. У пятнаццаць гадоў гэта, вядома, уяўляецца пакараннем прыроды. Дзяўчынка п'е воцат. А з яе равесніцай — другое гора. Яна прыгожая, на яе сыплюцца «знакі ўвагі» аднакласнікаў, выпускнікоў, маладых і не вельмі маладых людзей ке двара. Пры брыдкіх абставінах школьніца становіцца жанчынаю. І праз дзень ускрывае сабе вены.

Падлетка б'юць у класе. Ён пакутуе праз тое, што маці «дастае» яму прыгожую вопратку, што ён выдатна вучыцца, што падабаецца дзяўчатам, што стометроўку прабягае хутчэй за іншых... Яго за гэта б'юць, ненавідзяць, зайздросцяць лютай зайздрасцю. І вось ён спецыяльна адказвае на «тры», псуе прычоску,







прыходзіць да фінішу на ўроку фізкультуры з самымі апошнімі. З яго перастаюць адкрыта здзекавацца, але жыць так ён больш не можа.

Каля двух тысяч выпадкаў суіцыда — столькі ж непадобных і падобных сумных гісторый. Смерцяў. За дзесяць-пятнаццаць месяцаў. Вядома, усе яны паддаюцца класіфікацыі, вывучэнню, могуць даць велізарны матэрыял для распрацоўкі пэўных прафілактычных мер, дапамогі патэнцыяльным ахвярам.

Хто-небудзь у рэспубліцы займаецца сур'ёзна праблемаю самазабойстваў, хто-небудзь аналізуе тэндэнцыю «амаладжвання» сярэднестатыстычнага суіцыда? Не! Работнікі міліцыі, пракуратуры, крыміналісты, судова-медыцынскія эксперты, спецыялісты псіхадыспансераў маюць толькі самыя фрагментарныя дадзеныя:

— Гэта, вядома, дрэнна. Так нельга далей,— кажуць яны.— Трэба не змрочна канстатаваць, а штосьці рабіць. Што? Ніхто цяпер, напэўна, не ведае.

Статыстыка самазабойстваў была ўведзена ў нашай краіне ў 1922 годзе. Да рэвалюцыі дадзеныя пра суіцыды, як пісаў у сваіх працах выдатны вучоны, прафесар Міхаіл Мікалаевіч Гернет, збіраліся паліцыяй для справаздач па губернях з указаннем толькі полу самазабойцаў. З 1903 года ў санітарных справаздачах аб стане народнага здароўя паведамлялісь таксама некаторыя дадзеныя пра выпадкі суіцыдаў. Аднак ужо тады распрацоўваліся і публікаваліся розныя табліцы, якія давалі, напрыклад, уяўленне пра самыя распаўсюджаныя спосабы пазбавіць сябе жыцця. На пачатку стагоддзя на першых месцах у табліцы «Спосабы самазабойстваў» ішлі: утапленне, павешанне, агнястрэльная зброя, чад. На апошніх — атручванне, выкіданне з вокнаў, смерць пад коламі цягніка.

Цяпер, заўважым, усё больш смерцяў ад пятлі, розных атрут, ускрыцця вен, падзенняў з вышынных будынкаў. Што ж, дамы сталі вышэйшыя, зброі у кватэрах — амаль няма, атрута — ёсць, надзейную вяроўку ці электрапровад знайсці не цяжка. Вось чаму, калі раней спосабы самазабойстваў мяняліся вельмі павольна і забяспечвалі аргументацыю закона аб сувязі «інстументаў» суіцыда з прафесіяй чалавека, то цяпер і рабочы, і інжынер, і студэнт, і манекеншчыца, і селянін, і вясковы інтэлігент выбіраюць для звядзення рахункаў са сваім лёсам амаль аднолькавыя сродкі.

Так, забіваюць сябе сёння зазвычай зусім інакш, чым гэта рабілі яшчэ дзяды. Але вось матывы, паводле якіх мозг дае каманду рукам узяць, напрыклад, лязо ці жменю таблетак, мала змяніліся. Пералічу толькі тыя, якія называў галоўнымі М. М. Гернет: каханне і рэўнасць, душэўныя і фізічныя хваробы, агіда да жыцця, сямейныя непрыемнасці, матэрыяльныя нягоды, страх пакарання, крыўда...

Цікава, што ў канцы дваццатых гадоў усе даследаванні пра суіцыдаў пачалі «згортвацца», сталі прызначацца толькі для вузкага кола кіраўнікоў. А ў шасцідзесятыя і сямідзесятыя гады спецыялісты, якія спрабавалі, кіруючыся ўласнымі прынцыпамі, весці пэўныя картатэкі, запісы, распрацоўкі, проста строга караліся. Быў такі загад... Ім забаранялася займацца праблемаю суіцыда. У нас такой праблемы «не можа быць», таму што ў нас няма беспрацоўя, наркаманіі, жабрацтва... А ёсць толькі ўпэўненасць, бадзёрасць, аптымізм, якія гэтак здзіўлялі іншаземцаў. У нас жылі і падрасталі — як трэба было разумець — стопрацэнтна шчаслівыя людзі. Дык хто ад шчасця — і ў пятлю? Немагчыма, ненатуральна.

Перад якой вогненнай рысаю, перад якой мяжою павінен апынуцца чалавек, каб біцца галавой аб сценку, рваць валасы і таропка, але холадна, абдумваць — як хутчэй прымусіць замаўчаць сваё сэрца?

Няма нічога дзіўнага ў тым, што моладзь майго пакалення — пакалення канца шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых гадоў — занадта часта забівала сябе з «рамантычных» і некаторых чыста маральных прычын: здрада ў каханні, усведамленне «ўсемагутнасці» карупцыі і блату, дэградацыя ідэалаў старэйшых.

Цяпер адбываецца нешта іншае. Падобнае на працэс, які меў месца амаль шэсцьдзесят гадоў таму. Тады аўтарытэтныя вучоныя гаварылі пра сувязь кольскасці маладых самазабойцаў і ўдзелу юнакоў і дзяўчат у бурным працэсе дзяржаўнага будаўніцтва, удзелу ў маштабных пераменах.

— Перажываючы радасці творчай працы, яны ж перажываюць і горыч няўдач,— да такой высновы прыйшлі спецыялісты.

Перажываць можна па-рознаму. Усё залежыць, зноў жа, ад акалічнасцей. Калі ёсць надзея, калі перакананы ў сваёй сіле, у тым, што праўда на тваім баку,— няма падстаў нават пры самым неспрыяльным паваpоце лёсу поўнасцю падаць духам. І чалавек (нават слабы) звычайна цвёрда стаіць на сваім, працягвае барацьбу.

Вось у чым даўно трэба разабрацца, вось пра што не адным псіхолагам добра было б зараз падумаць. Бо імкненне да смерці — палярнае імкненне тварыць, гадаваць дзяцей, берагчы Радзіму, адказваць за свае ўчынкі. Я перакананы: нам трэба зразумець, хто, як, чаму, з чыёй «дапамогаю», у якім узросце, якім спосабам, пасля якіх канфліктаў пазбаўляе сябе цяпер жыцця.

Мы не гаварылі пра ўсё гэта надта доўга.

Праўда, пэўныя лічбавыя «выкладкі» па суіцыдах у некаторых установах усё ж такі меліся. Яны былі патрэбныя. Вялікую працу праводзіў, як я даведаўся, інстытут псіхіятрыі СССР. Але — ён меў інфармацыю «цалкам па краіне». А «па асобна ўзятых рэспубліках»? На жаль, зноў мушу сказаць: няма, не атрымлівалі і цяпер не атрымліваюць такой інфармацыі ў Мінску.

Статыстыку і сёння больш цікавіць агульная колькасць смерцяў. Прычыны — не цікавяць. Зрэшты, звесткі (нават калі

Мал. Сяргея ФІЛІПАВА.

яны стануць агульнавядомымі) па колькасці і спосабах, па поле і ўзросце самазабойцаў цалкам па Саюзе мала чым могуць дапамагчы ў рабоце канкрэтным мясцовым спецыялістам, кіраўнікам. Ну, хоць бы таму, што ў Беларусі і, напрыклад, Туркменіі заўсёды розныя былі адносіны да суіцыдаў. Успомнім гісторыю народаў, іхнюю рэлігію, казкі: Біблія і Каран, русалкі і няшчасныя, што прагнуць укусу скарпіёна ці змяі. Самі традыцыйныя спосабы самазабойстваў таксама непадобныя: утапленне, павешанне — і самаспальванне.

Заўсёды быў высокі і застаецца высокім працэнт самазабойстваў людзей разумовай працы і «вольных прафесій» з-за жабрацтва, нервовай расхістанасці, бязлітаснай эксплуатацыі свайго мозгу. Але ў пустыні Каракумы інстытутаў няма, а толькі ў Мінску — дзесяткі. Жанчына, чыя бабуля яшчэ насіла паранджу і для якой не было экзатычным слова «гарэм», інакш ставіцца да здрады мужа, чым работніца ВА «Інтэграл». Я не хачу «кантрастаў» (а яны натуральныя), толькі мушу падкрэсліць: трэба ведаць рэальную сітуацыю (у тым ліку і з суіцыдамі) у кожным рэгіёне.

У час дзейнасці прафесара Гернета максімум выпадкаў пазбаўлення сябе жыцця прыходзіўся на панядзелак. А цяпер? Не ведаем. Мы не ведаем росту колькасці суіцыдаў з нераскрытымі (ці ж толькі з-за нашай ляноты і абыякавасці?) матывамі. Нам невядомая дакладная карціна размеркавання самазабойстваў па ўзроставых катэгорыях. У горадзе ці ў вёсцы часцей абрываецца жыццё маладых па іх уласным жаданні? Назіранні дактароў і спецыялістаў іншых ведамстваў сцвярджаюць: у горадзе. Але назіранні — не аналіз, не «сухія» лічбы, не бясспрэчная высюва. А прычыны суіцыдаў з 1982 года да цяперашняга як змяніліся? А колькі жанчын і мужчын, дзяўчат і юнакоў, з якіх абласцей, з якіх прадпрыемстваў спяшаюцца цяпер, сёння развітацца з гэтым светам?

Ці існуе залежнасць паміж велічынёю даходаў і велічынёю колькасці суіцыдаў? Колькасцю ананімак, вымоў, адміністрацыйных пакаранняў і колькасцю смерцяў ад пятлі? Дзе — у бараках ці ў мікраараёнах з дамамі палепшанай планіроўкі — часцей плачуць над маленькімі акуратнымі трунамі, над целамі старых, якія вырашылі «не замінаць маладым»? Хто — мінчанка ці парыжанка? — больш надзейна «застрахавана» ад дачаснага пахавання?

Шмат не марных, горкіх пытанняў. Ці час адказваць на іх? Час!

Мы не ведаем, колькі маладых салдатаў у арміі не выносяць «дзедаўшчыны», здзекаў і рашаюцца на стрэл у сябе. Мы не ведаем, як часта з месцаў зняволення прыходзяць родным асуджаных страшныя паведамленні. Нам гэта ўсё роўна? Не думаю.

Некалькі гадоў назад я звярнуў увагу на больш чым цікавы, вельмі красамоўны факт, які шмат што тлумачыў: у апавяданнях і аповесцях нашых пісьменнікаў пачатку стагоддзя вельмі часта сустракаліся дыяметральна процілеглыя «канцоўкі». Альбо героі «жылі доўга і шчасліва», альбо — што здаралася часцей — пілі атруту, падносілі халодны ствол рэвальвера да скроні, кідаліся з абрыву... У літаратуры трыццатых гадоў дзейныя асобы гінулі вельмі ўжо рэдка. Хіба што ад кулацкае пулі ці шаблі падманутага белым афіцэрствам казака. Яшчэ пазней — ужо ў пасляваенных часопісах і кнігах — жыццё герояў абрывалі інфаркт, аўтамабільная катастрофа, абвал у гарах. Потым прыйшла чарга ракавых пухлін, авіяцыйных і навукова-даследчых надзвычайных здарэнняў. Сёння, напэўна, ужо ствараюцца вострасюжэтныя вялікія і малыя аповяды, дзе ў фінале перад чытачом замільгае абрэвіятура СНІД.

Пра тое, як цэлымі сем'ямі спецперасяленцы першых пяцігодак па чужой волі, але сваімі рукамі пазбаўляліся жыцця, мы пачынаем даведвацца толькі цяпер. Чаму салдаты Вялікай Айчыннай, якія вярнуліся з акопаў, не дачакаліся рака ці інкфартаў, а дакурвалі апошнюю самакрутку, выціралі апошнюю слязу і адыходзілі назаўсёды — мы яшчэ толькі паспрабуем даведацца. Як сумленныя людзі чакалі арышту і — не выцярпеўшы — разбівалі свой могз куляю — мы павінны ведаць і памятаць.

Аднак мы абавязаны ведаць і другое: сёння таксама прафсаюзныя арганізацыі не заўсёды спяшаюцца набываць з нагоды пахавання вянкі з традыцыйна чорнымі стужкамі і традыцыйна правільнымі залацістымі словамі на гэтых стужках.

— Трэба ўзгадніць... Усё ж такі сам пакончыў з сабою. А здавалася ж, добры чалавек!

Каб ні на каліва не пакрывіць супраць праўды, трэба падкрэсліць: так, бывае, што, перад тым як пайсці з жыцця, чалавек забівае жонку і дзяцей, выходзіць са стрэльбаю на балкон і пачынае страляць па прахожых. Ён гатовы памерці і нічога ўжо не баіцца. А ён жа мог апынуцца і за штурвалам самалёта, у кабіне цеплавоза, на АЭС, на міліцэйскім пасту, у танку... Ды ці мала дзе жорсткі і няшчасны або раззлаваны злачынца, якому няма ўжо чаго губляць, здольны «прыхапіць з сабою» дзесяткі бязвінных жыццяў? Таксама не праблема? Іншая справа, што ў нашым грамадстве практычна няма такіх жахлівых прэцэдэнтаў. Але яны даўно вядомыя не толькі ў капіталістычных краінах. Дачакацца іх з'яўлення ў сябе (дарэчы, сімптомы ўжо ёсць) — нельга.

Наш нарыс быў бы няскончаны і няпоўны без хоць бы кароткага абазначэння тэндэнцыі «падманных суіцыдаў».

Агідна, калі юнак спадзяецца вярнуць дзяўчыну пагрозаю пакончыць з сабою. Агідна паводзіць сябе жонка, калі з бутэлькаю воцату ля сваіх вуснаў «выхоўвае» мужа. Колькі іх, тых, што спрабавалі нібыта назаўсёды пайсці з жыцця, сёння ходзяць па дактарах, ляжаць у бальніцах, атрымліваюць пенсіі. Я зусім не хачу сказаць, што было б лепей, калі б яны давodзілі да канца выкананне сваіх пагроз. Не, вядома! Але калі цяжарная маладая жонка глытае атруту «назло» мужу, які не купіў білеты ў кіно, а значыцца, «не кахае ўжо больш» яе?! Але калі студэнт, страціўшы права на стыпендыю, ладзіць «цырк з пятлёю» ў душавой інтэрната?! Калі жаніх, якога заспелі на месцы здрады сваёй будучай жонцы, кідаецца ў дэцыбелах вульгарных слоў з другога паверха і ламае, вядома, свае ногі, але толькі не прынцыпы — што, разам з нявестаю, якая раптам убачыла яго ў новым святле, насіць яму ў палату апельсіны?

Думаю, магу напісаць, што я ўпэўнены: большая частка «падманных суіцыдаў» так і не рэгіструецца: «Самазабойцаў-акцёраў» ратуюць зазвычай — не без супраціўлення «вымушаных памерці» — бацькі і каханыя, сябры і суседзі.

Потым, перад дактарамі, «самазабойцы» працягваюць разыгрываць «спектакль». Толькі ўжо прынцыпова іншы.

Калі кідаўся з балкона:

— Упаў знячэўку!

Калі піў воцат:

— Пераблытаў у халадзільніку бутэлькі!

Калі страляў:

— Неакуратна захоўваў стрэльбу!

І гэтак далей, і гэтак далей...

Бо «дурасць» прайшла, трэба глядзець у вочы людзям і агенту Дзяржстраха.

Яшчэ я абавязаны не ўтаіць ад чытача, што меры па барацьбе з алкагалізмам на працягу нейкага часу прыкметна знешылі колькасць суіцыдаў і, як сказаў мне галоўны эксперт Міністэрства аховы здароўя БССР Сяргей Сяргеевіч Максімаў, трупаў увогуле.

А што цяпер? Мёртвых, што забілі сябе гарэлкаю,— меней. А тых, што забілі сябе «хіміяй», наркотыкамі,— усё больш. За два гады людзі, якія ніколі не рабілі і не ўмелі рабіць брагу, самагонку, гэтаму навучыліся. Людзі, што пілі танны адэкалон, сталі атручваць сябе гуталінам і дыхлафосам. Колькасць заўчасных нябожчыкаў для нашай дзесяцімільённай рэспублікі грандыёзна вялікая. Калі ўлічваць тое, што ў нас адно з першых месцаў у СССР па колькасці доўгажыхароў.

Ва ўсім гэтым кароткім аглядзе сённяшняй сітуацыі з суіцыдамі на Беларусі я яшчэ ні разу не сказаў пра тое, як можна і трэба дапамагчы, на маю думку, людзям, якіх ахоплівае адчай і роспач.

Тэлефон даверу — першае, што цяпер згадваецца. Так, ён у нас ёсць. Але! Працуе ён дрэнна. Цяпер на «другім канцы проваду» выключна — псіхолагі, а не дактары-псіхолагі. Калі чалавек, які звоніць, ужо захворвае — яму не дапамогуць. На адзін для паўтарамільённага Мінска «тэлефон даверу» (каб ён працаваў круглясутачна) трэба 5 спецыялістаў. Спецыялістаў няма, а тры апараты можна было б уключыць хоць зараз. Спецыялістаў няма з простай прычыны: іх у Мінску не рыхтуюць і не прапісваюць. Галоўны доктар сталічнага гарпсіхдыспансера Сяргей Аляксандравіч Язерскі выказваў мне сваё недаўменне:

— Запрашаю класных спецыялістаў з Сібіры. Гатовыя прыехаць. Аднак... Вось уявіце. Іх хоць бы прапісаць, аказваецца, нельга. Пра гэта даведваюцца ў Пскове. Там адразу ж знаходзяцца магчымасці не толькі прапісаць — даць кватэры. А тым часам у нас «тэлефон даверу» становіцца тэлефонам для «асобных» людзей. Бо з кожным з тых, хто пазваніў, трэба пагаварыць хвілін трыццаць. Абсалютная большасць людзей, якая хацела б набраць вядомы нумар на тэлефонным дыску, асуджана быць не пачутаю...

І гэта з-за немагчымасці прапісацца ў сталіцы Беларусі тым спецыялістам, якія нам вельмі і вельмі патрэбныя.

Вядома, «тэлефон даверу» — толькі адна з не самых эфектыўных мер па прафілактыцы выпадкаў суіцыду. Але мы і яе фактычна адхіляем!

А цяпер уявіце, што каля дзвюх тысяч нашых земляк оў апынуліся на крызе або ў палоне пустыні. Грамадства кінулася б ратаваць, дапамагаць, словам, рабіць усё магчымае. Чаму ж мы ва ўпор не бачым чалавечых бед побач з сабою, чаму ж мы працягваем глядзець на іх скрозь акуляры са сплаву пяску абыякавасці і салодкай солі няведання?..

ПОГЛЯД

# О, ШЧАСЛІЎЧЫК!..

«Цяпер я маю магчымасць займацца любімай справай і з поўным правам магу лічыць сябе шчаслівым»,— сказаў А. Каваленка. Якая хлусня! І я пішу гэта. Пішу, хаця ўжо ў першую хвіліну нашага знаёмства, калі ў расчыненых насцеж дзвярах хімічнай лабараторыі раптам з'явіўся малады чалавек гадоў 26 і імклівым крокам пранёсся міма мяне, я зразумела, што гэта не той выпадак, калі ён «з поўным правам можа лічыць сябе шчаслівым».

Нешта было ў ягоным твары такое, што насцярожвала. Пачырванелыя вочы, якія ліхаманкава блішчалі, вялізныя акуляры ў цёмнай масіўнай аправе; насцярожвалі мітуслівыя рухі, што бываюць звычайна ў людзей, якія ў нечым разупэўніліся і падсвядома хаваюць за гэтай знешняй мітуснёю ўнутраную разгубленасць.

— А, дык гэта вы мяне чакаеце! А я думаў — жарт. Вы карэспандэнт! Вельмі шкада, вельмі шкада...— малады чалавек, якога я пільна суправаджала сваім поглядам, спыніўся, нарэшце, побач.

Шчырае маё здзіўленне прымусіла яго растлумачыць свае словы:

— Вельмі шкада, таму што дарэмна вы сюды прыйшлі.

— Гэта як жа!

— А вельмі проста: нічым дапамагчы вам не магу.

— Ды я, уласна, і не прашу ў вас дапамогі. Адзінае, што прывяло мяне сюды,— гэта некалькі пытанняў. Думаю, адказы на іх не будуць для вас вельмі цяжкія...

— Любая дзяўчына, мае адказы не толькі вас не задаволяць, а нават наадварот: усё вам сапсуюць. Таму давайце пакінем мяне ў спакоі.

— Прабачце, толькі вось гэтага якраз і не атрымаецца. Пакінуць вас у спакоі я ніяк не магу. Проста не маю права. У мяне матэрыял «гарыць».

Выгляд у мяне, відаць, быў даволі разгублены, таму што субяседнік прыкметна неяк памягчэў і працягваў ужо больш зычліва:

— Ды вы не хвалюйцеся! Вы ж ведалі раней, што будзеце пра мяне пісаць! Дык вось і пішыце!

«Пішыце-пішыце... Ну і напішу!» — са злосцю падумала я і зноў падабралася.

— Ну, дапусцім, я напішу, але ж вы спачатку адкажаце на мае пытанні!

— Ну, дапусцім, адкажу...

— Ці вучыліся вы ў Яраслаўскім хіміка-тэхналагічным інстытуце!

— Дапусцім, вучыўся...

— Потым кінулі яго і паступілі ва універсітэт...

— Ну, паступіў...

— На хімічны факультэт!

— На хімічны факультэт.

— І якіх вынікаў вы гэтым дасягнулі!

— Аніякіх.

— Дык ці варта было марнаваць два гады, каб зноў пачынаць спачатку!

— Варта — не варта: ці не ўсё роўна вам! І ўвогуле,— тут небарака выбухнуў,— больш я вам нічога не скажу!

— Божа мой, ды чаму вы так агрэсіўна настроены!

— Я настроены зусім не агрэсіўна. І наогул... Хто вас да мяне падаслаў!!

— Ну і ну! Ды ніхто мяне не падсылаў. Проста выпадкова даведалася, што вы вучыліся спачатку ў адной, потым у другой...

«Навучальнай установе»,— працавала думка далей, але язык ужо не паварочваўся яе падхопліваць. «Ну вось...— падумалася раптам сумна.— І перспектыва «ўвайсці ў газетныя аналы» яго не натхняе. І пляваць яму на маю «ўстаноўку» пад прэтэнцыёзным загалоўкам «Калі «прымерка» няўдалая». Ён, відаць, ужо на ўласным вопыце ўпэўніўся ў тым, што ў жыцці «хэпі-энд» сустракаецца не так часта, як у газетных артыкулах.

— Ды пра што гэта вы!.. Цяпер жа што ні газета — то чарговае развянчанне ці выкрыццё. Які ўжо тут «хэпі-энд»...

(Гэта, зразумела, голас дасведчанага чытача, які пільна сочыць за перыёдыкай.)

А я скажу вам, дасведчаны чытач, што інцыдэнт, які я цяпер апісваю, адбываўся ў самы разгар так званай «эпохі застою».

— Трэба знайсці шчаслівага студэнта, які знайшоў бы сябе на новым полі дзейнасці,— сказалі мне, памятаю, у рэдакцыі і ў якасці аргумента працытавалі з гэтай нагоды: «Хаця ВНУ і не касцюм, які можна выбіраць з дапамогаю прымерак, але права на любімую справу, годнае месца ў жыцці забяспечваецца ў нас задоўга да атрымання грамадзянінам ягонай працоўнай кніжкі,— у тым ліку і на студэнцкай лаўцы». Так што рэалізуй,— падвялі вынік. І адрас далі: «Хімфак. А. Каваленка». Спачатку паступіў «не ў тую ВНУ», а потым выправіў памылку. Цяпер, трэба думаць, шчаслівы.

Дык што ж гэта вы, А. Каваленка, упіраецеся, не хочаце быць «жывым станоўчым прыкладам»! Вам жа дзяржава дала магчымасць «вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца»... Грошы на вас траціліся — і немалыя... Адна ВНУ не падышла, цяпер вось другая... Чаго вам не хапае! Чаго кідаецеся на карэспандэнтаў, нібы яны ва ўсім вашым бязладдзі вінаватыя...

...Дома, прамучыўшыся гадзіну ў надзеі ўціснуць факт са «шчасліўцам», які знайшоў сваё прызванне, у матэрыял так, каб той стаў яшчэ больш выразны і пераканаўчы, я раптам згадала ўспацелыя акуляры Каваленкі, яго вочы, што глядзелі на мяне з сумам...

Наталля ІВАНОВА

# ТРЭЦЯЯ СПРОБА

## ЛЕТНЯЯ РАЗМОВА ПРА ЗІМОВЫ ХАКЕЙ

Алег КАЗАВОЙ,
майстар спорту СССР

Да захопленых воклічаў «Нарэшце!», як і да заяў скептыкаў «Каму гэта трэба?!» было яшчэ далёка. Хакейная каманда «Дынама» (Мінск) зрабіла перапынак у напружанай гонцы да вышэйшай лігі і апынулася ў чэшскім горадзе Сокалаве. Тут чакалі трэніровачныя гульні са старымі сябрамі і супернікамі з клуба «Банік». Старшы трэнер Уладзімір Крыкуноў прывёз каманду не на адпачынак, дарэшты «нагрузіўшы» хлопцаў, не пакінуўшы нават часу на прагулкі па вельмі маляўнічым наваколлі. З раніцы жыхары горнага гарадка назіралі, як пацеюць хакеісты на бясконцых кросах... Пасля аднаго матча чэхаславацкія трэнеры спыталіся ва Уладзіміра:

— Наступным разам мы сустрэнемся з камандай вышэйшай лігі?

Крыкуноў аджартаваўся:

— Не будзем гадаць...

Гульцы «Дынама», начальнік каманды Анатоль Бяляеў, трэнеры Іван Крываносаў, Анатоль Варывончык (усе яго былыя сябры па выступленнях у вялікім спорце) ведалі: Крыкуноў думае пра адно... Пра тое самае, пра што думаў кожны з іх,— пра вышэйшую лігу. Думкі гэтыя мелі некалькі адценняў...

Неяк раніцай выйшлі прагуляцца.

— Праз некалькі дзён дамоў. Апошні рывок,— задуменна сказаў Крыкуноў і ўважліва паглядзеў на мяне.

Знаёмыя мы не першы дзень. Працуючы ў «Дынама», я пастаянна звязаны з камандаю. Разам з хлопцамі быў у многіх паездках, перажываў няўдачы, правалы...

Пасля вяртання з Чэхаславакіі літаральна назаўтра павінны былі працягвацца гульні пераходнага турніра за выхад у вышэйшую лігу. Многія казалі нам, маўляў, малайцы вы, што выйшлі ў пераходны турнір, не дарэмна працавалі... Але вось пераходзіць не спяшайцеся. Вельмі ўжо рызыкоўна... Усё-такі вышэйшая ліга... Былі ж у «Дынама» ў мінулым дзве спробы. І абедзве праваліліся. Каманду тады асвіствалі, ліхія заўзятары асуджалі і вусна і на старонках газет... Мянялі трэнераў... А так, «на ціхай хвалі», можна гуляць доўга. Да таго ж, Мінск ніколі не быў дый наўрад ці стане ўжо хакейным горадам... Так, ёсць школа, ёсць добрыя хлопцы, што выраслі як тыя грыбы пасля цёплага, шчодрага дажджу, але гэтага так мала...

...Сонца яшчэ вісела за гарамі.

Мы моўчкі ішлі нейкі час па вузенькай, соннай вулачцы.

Крыкуноў сказаў:

— Заўважыў, як хлопцы стараюцца?.. Ведаюць: там, дома, чакае самае цяжкае ў іх хакейным жыцці...

Рашэнне было прынята: будзем выходзіць у вышэйшую лігу! Аддамо ўсе сілы... Будзем выходзіць, нягледзячы на сумненні скептыкаў. Я ведаў Крыкунова. Ён чалавек рашучы, не любіць кампрамісаў з уласным сумленнем. Адступіць зараз — не даруе сабе ніколі.

— Не страшна? — спытаўся я.

— Калі пачалі гуляць, трэба гуляць далей,— сказаў ён.— А там будзе відаць. Галоўнае, што хлопцы рвуцца ў бой... Гэта самае важнае...

Увечары на сваім традыцыйным месцы ён уважліва вёў гульню, не расслабляючыся ні на секунду.

— І чаго хвалюецца?! — дзівіліся чэхаславацкія сябры.

* * *

Гэта старая ісціна: не заўсёды добры спартсмен можа стаць класным трэнерам. І наадварот. Іншы раз непрыкметны футбаліст ці хакеіст нечакана для ўсіх станавіўся сапраўдным асам у трэнерскай справе... Я магу з упэўненасцю сказаць, што Уладзімір Крыкуноў быў сапраўдным майстрам хакея, і гэта пацвердзяць людзі, якія бачылі яго на хакейнай пляцоўцы. Ён быў адным з лепшых у рыжскім «Дынама», пасля стаў лідэрам у мінчан. Падкупала ягоная гатоўнасць аддаць усе сілы гульні — нягледзячы на траўмы, стому. На хакейнай пляцоўцы ён заўсёды быў тонкі тактык (што ў далейшым, несумненна, спатрэбілася яму). Калі Крыкуноў стаў трэнерам, ніхто са старых таварышаў па хакейных баталіях не здзівіўся. Валодзя ведаў псіхалогію гульцоў і, што вельмі важна, заўсёды, у самых цяжкіх сітуацыях заставаўся прыстойным чалавекам... Гэта не радкі з характарыстыкі... Гэта неаддзельныя рысы спартсмена і тым больш трэнера Крыкунова. Побач з ім (у тыя самыя лепшыя для мінскага «Дынама» хвіліны) апынуліся людзі, якіх ён добра ведаў. Начальнікам каманды стаў Анатоль Бяляеў, у нядаўнім мінулым наш гулец, вонкава мяккі, усмешлівы, але ў складаныя хвіліны прынцыповы, бескампрамісны чалавек. Ведалі мінскія заўзятары і Івана Крываносава, які шмат сезонаў абараняў гонар роднага клуба. Нядаўна стаў трэнерам і яшчэ адзін ветэран «Дынама» — Анатоль Варывончык. У цяжкія хвіліны, калі часам агортвае адчай (а ў трэнераў гэта бывае), яны гатовыя падставіць плячо адзін аднаму, замяніць таго, хто стаміўся, падтрымаць. Уладзімір Крыкуноў любіць гаварыць:

— У мяне дзве каманды... Гульцоў і трэнераў...

Вялікі сэнс у гэтых словах...

* * *

Звычайна, калі прыходзіць поспех, любяць пагаварыць аб прычынах ранейшых няўдач. І сапраўды, можна доўга высвятляць, чаму хакей у спартыўным, з выдатнымі традыцыямі Мінску доўгі час вісеў паміж небам і зямлёю... І гэтак ужо павіс, што пра яго існаванне практычна ведала жменька заўсёднікаў, якія збіраюцца пад дахам мікраскапічнага крытага катка ў парку імя Горкага. Пра гэта можна было б доўга гаварыць, ды не сёння. Скажу толькі, што прычын маса. Адны з іх падобныя на аналагічныя праблемы ў іншых так званых нехакейных гарадах. Гэта перш за ўсё адсутнасць сапраўднай спартыўнай базы, без якой немагчыма сёння ўявіць трэніровачны працэс, адсутнасць уласнай хакейнай школы (у такіх выпадках каманды «падкармліваюцца» толькі за кошт варагаў, а з імі, вядома, далёка не пойдзеш...). Сваім жа таленавітым хлопцам хутка выпісвалі «камандзіроўку» ў Маскву. Але вось з'явіліся і школа, і выдатная база, а каманду па-ранейшаму бы ў ліхаманцы трэсла — поспехі змяняліся прыкрымі, часам невытлумачальнымі зрывамі... Пра дасягненне стабільных высокіх вынікаў гаварыць не даводзілася. І вось з'явіўся ў мінскім «Дынама» цяперашні трэнерскі ансамбль — дружны, мабільны, накіраваны на пошук. Трэнеры паверылі ў сваіх выхаванцаў, гульцы — у трэнераў. Разам і вырашылі зрабіць рывок, які сёння здзейснены. Вельмі важна і тое, што балельшчыкі паверылі ў каманду... Паступова Мінск пачаў выглядаць хакейным горадам: гарачыя спрэчкі ля катка ў парку імя Горкага, гарачая падтрымка ў час гульні... А каманду (да самых апошніх, рашаючых, рэдкіх па драматызме гульняў) па-ранейшаму не пускалі ў Палац спорту, па-ранейшаму за права знаходзіцца сярод мацнейшых яна білася на задворках...

І не толькі ў гэтым праблема... Камандзе патрэбная «падкормка» са школы алімпійскага рэзерву «Юнацтва». Школа гэтая мае лёд у тым самым парку імя Горкага. Каманда «Дынама» забірае ў дзень па шэсць-сем гадзін трэніровачнага часу на лёдзе... А юнакам, тым, хто павінен заўтра прыйсці ў каманду, месца ў зале няма... І атрымліваецца, што яны пасынкі ў горадзе, дзе ёсць выдатны Палац спорту... Сёння ў Крыкунова пытаюцца: «Ці дадуць вам нарэшце гуляць у Палацы спорту?» Ён паціскае плячыма...

Але хлопцы гулялі не дзеля прэмій (якіх практычна няма), не дзеля нейкіх амбіцый... Яны аддавалі ўсе сілы яго вялікасці Хакею, якому прысвяцілі не толькі сваю маладосць, а, па сутнасці, усё жыццё...

Значыць, без указання зверху каманда сама пайшла на рызыку... Былі самыя сапраўдныя, амаль крывавыя паядынкі... Дастаткова згадаць хоць бы некалькі гульняў. Адна з іх — у Саратаве з «Крысталам». Вырашалася галоўнае пытанне — аб выхадзе ў запаветную чацвёрку. Я ніколі не бачыў Крыкунова такога ўсхваляванага. Перад апошнім перыядам ён быў бледны... Камандзе сказаў некалькі лаканічных, але дакладных слоў:

— Прашу вас, хлопцы, збярыцеся...

У неверагодна цяжкім паядынку каманда атрымала перамогу з лікам 2 : 1. Запомніўся гульцам і заўзятарам матч са спартыўным клубам імя Урыцкага з Казані, адзін з самых рашаючых у пераходным турніры. Гэта была гульня нерваў... Суперні ні на што не прэтэндаваў, але ў сярэдзіне сезона ў казанцаў змяніўся трэнер. Новы прыглядваўся да каманды... Гульцы рабілі ўсё, каб захаваць месца ў складзе каманды ў наступным сезоне... Мы выйгралі і практычна ў той дзень вырашалася ўсё. Засталося апошняе турнэ. Пасля першых дзвюх гульняў стала ясна: «Дынама» — у вышэйшай лізе.

І тут упершыню ў жыцці Уладзімір Крыкуноў адчуў увагу да сваёй уласнай персоны і да калектыву (не футбол жа...). Я чуў, як, адказваючы на пытанне, каго ён можа вылучыць з гульцоў, Крыкуноў падкрэсліў: «Заслуга ўсёй каманды...»

І ўсё-такі лепшых назваць не грэх... Шмат сезонаў надзейна абараняе вароты каманды Уладзімір Сямёнаў. Гэта самаахвярны чалавек, уладальнік велізарнай калекцыі сур'ёзных траўмаў... Хакейныя варатары ўвогуле мужныя людзі. Сямёнаў у «Дынама» больш за дзесяць гадоў. Не падвёў ён разам з Аляксандрам Шумідубам і ў гэтым, самым адказным сезоне. Больш за ўсё каманду ў гэтым сезоне турбавала нестабільная гульня абароны. І тое, што ёй у выніку ўдалося сабраць усю волю ў кулак, заслуга капітана каманды Дзмітрыя Ярастава, абаронцаў Эдуарда Дзяканава, Юрыя Крывахіжа, Аляксея Гіро, Ігара Філіна, Аляксандра Юдзіна, Андрэя Таболіна. Сярод нападаючых вылучаліся гульцы тройкі Ігара Бубеншчыкава — Сяргей Тукмачоў і Андрэй Дзмітрыеў. Ім дапамагалі гульцы другой тройкі, выхаванцы «Юнацтва» — Андрэй Кавалёў, Сяргей Хаткевіч, Вячаслаў Чарчэс. Трэцяя тройка была трохі слабейшая, але хлопцы з яе ўсё больш упэўнена набіраюць майстэрства. Гэта Васіль Панкоў, Віктар Карачун, Міхаіл Захараў. Вялікія надзеі ўскладаюць трэнеры на самых маладых — Уладзіміра Цыплакова, Эдуарда Занкаўца і Андрэя Расольку. Усім ім няма яшчэ і дваццаці гадоў...

Вось так атрымалася: хацеў назваць лепшых, а назваў амаль усю каманду. На самай справе, у поспеху ёсць доля кожнага з іх...

Адразу ж пасля заканчэння сезона перад трэнерамі паўстала багата пытанняў. І галоўнае з іх — як утрымацца ў вышэйшай лізе, як не выглядаць перад слыннымі супернікамі слабакамі... Кароткі быў адпачынак — з ліпеня каманда прыступіла да трэніровак. Так што наша летняя размова пра зімовы хакей не заўчасная... Было ясна, што каманду варта ўмацаваць вопытнымі гульцамі, асабліва ў лініі абароны... Але ўжо ў канцы мая дынамаўцаў чакаў сюрпрыз. Ім не дазволілі запрашаць гульцоў з іншых каманд... Тлумачэнне было лаканічнае і цьмяна зразумелае: «У Мінску свая хакейная школа...» З-за гэтай дыскрымінацыі перад камандаю паўстала багата складаных праблем... Але не пра іх сёння гаворка. І трэнеры і гульцы настроены на сур'ёзную барацьбу ў вышэйшай лізе. Ім так неабходная наша падтрымка...



СЯМЕЙНЫ КАЎЧЭГ

Уладзімір ЛОБАЧ

# БЫЦЬ АЛЬБО НЕ БЫЦЬ ?..

Сёння востра стаіць пытанне, як захаваць сям'ю. Гэта ўжо не жарты, калі штогод на 2,7 мільёна шлюбаў па краіне прыходзіцца каля 930 тысяч разводаў, а ў нас у рэспубліцы на 100 тысяч — 30 тысяч. Практычна трэцяя частка. Маладая сям'я мае сёння патрэбу ў экалагічнай абароне ад разбурэння.

Імпульс да напісання гэтага матэрыялу дала мне II Усесаюзная канферэнцыя сямейных клубаў і бацькоўскіх аб'яднанняў, якую арганізаваў Наваполацкі гарком камсамола сумесна з сямейным клубам «Каўчэг».

Паспрабую расказаць пра найбольш цікавыя моманты канферэнцыі. У Наваполацк прыехалі энтузіясты руху сямейных клубаў з 20 гарадоў нашай краіны. Напрыклад, члены ленінградскага «Парастка», трыццаць сем'яў якога вырашылі перасяліцца ў адзін дом, каб жыць разам і будаваць камуну — праобраз камуністычнага грамадства, і члены «ГРАЧа» (абрэвіятура слоў «Гарманічнае Развіццё Чалавека»), у якім дзеці выхоўваюцца па методыцы загартоўкі П. К. Іванова. Скажу толькі пра адно правіла гэтай сістэмы загартоўкі: дзяцей з самых пялёнак купаюць у халоднай, 10—12°С, вадзе. Уся сям'я пасля такіх працэдур адчувае сябе выдатна: холад зблíжае і загартоўвае. З Масквы прыбылі «ветэраны» сямейных клубаў «Радзіма», якія наладзілі сувязі з аналагічнымі аб'яднаннямі сем'яў у Злучаных Штатах. Было шмат «новенькіх» — аднагодкаў з Гомеля, Свярдлоўска, Віцебска, Новасібірска.

Што аб'яднала ўсіх гэтых людзей, вымусіла сабрацца разам? Той клубок праблем, з якім сутыкаецца кожная маладая сям'я.

**Інфармацыя да «завастрэння» ўвагі**

Каля мільёна дзяцей у краіне жывуць і выхоўваюцца ў дзіцячых дамах.

У рэспубліцы 60 працэнтаў дзяцей-сірот пры жывых бацьках.

Каля 800 дарослых штогод пазбаўляюцца бацькоўскіх правоў.

Для забеспячэння кватэрамі маладых сем'яў трэба 40 мільёнаў квадратных метраў жылля.

Для нармальнага фізічнага развіцця дзіця ва ўзросце да 5 гадоў павінна рабіць 25—30 тысяч крокаў — у дзіцячым садочку нагульваюць толькі каля 5 тысяч.

На выхаванне аднаго дзіцяці маці траціць у дзень энергіі ў два разы болей, чым прыбіраючы кватэру. У дзіцячых садочках на дваццаць дзяцей прыходзіцца адна выхавацелька, якая за «вартавую» працу атрымлівае не больш як 100 рублёў.

Пералік такіх праблем можна працягваць, але сутнасць у тым, каб не проста ставіць пытанні, а вырашаць іх. (Згадаем словы К. Маркса: «Філосафы ўсяго толькі па-рознаму тлумачылі свет, але справа ў тым, каб змяніць яго».) Менавіта так спрабавалі весці размову на канферэнцыі.

Запомнілася выступленне Б. П. Нікіціна, пра чыю методыку выхавання ведае ўся краіна. Дарэчы, Барысу Паўлавічу 73 гады, ён падцягваецца 10 разоў, уранку «забаўляецца» з 24-кілаграмовай гіраю. У сям'і чацвёра дзяцей, якія атрымалі «спартанскае» выхаванне, бегалі летам і зімою голенькія, купаліся ў снезе. Цяпер гэта робяць ужо яго ўнукі. І нічога, нармальна і нават выдатна, ніхто не хварэе ні на ВРЗ, ні на іншыя прастудныя хваробы. Нікіцінская методыка аздараўлення ў многім адрозніваецца ад рэкамендацый вучоных, апублікаваных у «Бібліятэчцы маладой сям'і». Як кажа Барыс Паўлавіч, калі хочаце зрабіць з дзіцяці «цяплічную расліну», якая пачынае пускаць соплі і бурбалкі пры маленькім скразнячку, то прытрымлівайцеся парад медыкаў. Многія хваробы ад таго, што спрыяльнымі хатнімі ўмовамі значна зніжаны імунітэт арганізма.

На жаль, не вывучаецца і застаецца па-за ўвагаю сістэма выхавання «хатняга» педагога. Дзеці Нікіціных навучыліся чытаць у 2,3—3 гады, па фізічным, інтэлектуальным развіцці на дзве галавы апярэджвалі сваіх равеснікаў, пачатковую школу «праскоквалі» за 1,5—2 гады. Гэта не «генетычны» феномен Нікіціных, а ўменне развіць творчыя здольнасці спецыяльнай методыкай, у аснове якой ляжыць багаты народны вопыт. «Кожны — талент, толькі частка пра гэта не ведае. Кожны — вялікі, калі толькі сябе развівае». Барыс Паўлавіч знайшоў гэтыя сродкі. Ён напісаў пра свой вопыт у кнігах «Мы і нашы дзеці» і «Гульні для развіцця», якія рыхтуюцца да выпуску ў беларускім выдавецтве «Народная асвета».

З нікіцінскіх рэкамендацый хачу прывесці толькі дзве. Першая — гэта яго настойлівая парада маладым маці не ўжываць ніякіх прэпаратаў і антыбіётыкаў для супакаення і абязбольвання, якія наносяць больш шкоды, чым алкаголь. Трэба трохі пацярпець дзеля здароўя дзіцяці. Як толькі яно нарадзілася, неабходна адразу ж даць яму матчыны грудзі, каб супакоіліся абое. У першыя гадзіны жыцця новага чалавечка яшчэ працягвае існаваць нейкая біялагічная сувязь, разрыў якой можа зрабіць адмоўны ўплыў на ўзаемаадносіны маці і дзіцяці. Другая рэкамендацыя: «Калі вы збіраецеся пакараць дзіця, падумайце спярша пра тое, што такое пакаранне ёсць расплата нявіннага дзіцяці за памылкі сваіх неруплівых бацькоў». Звычайна выхоўваюць ці пакараннем ці заахвочваннем. Але ёсць яшчэ трэці шлях — выхаванне супрацоўніцтвам праз чалавечыя адносіны дарослых і дзяцей як роўных.

Цікавая была сустрэча з І. Б. Чаркоўскім, аўтарам тэорыі ранняга плавання і родаў у вадзе. Дэманстраваўся відэафільм. Я глядзеў, як з'яўляецца НОВАЕ ЖЫЦЦЁ, якому наканавана прадоўжыць род чалавечы. Цяжка перадаць, што адчуваеш, калі бачыш, што ў родах удзельнічае... бацька будучага дзіцяці. Спачатку гэта было для мяне ненармальным. Але потым я зразумеў, што мужчына не проста трымае жонку за рукі ў час родаў, але і дапамагае, перажываючы разам з ёю яе пакуты, спрабуе раздзяліць іх з ёю. У сем'ях, дзе дзіця было народжана «сумесна», практычна не бывае разводаў, усталёўваецца моцная еднасць. Не дзівіцеся. Тут няма ніякае містыкі, проста выконваюцца мудрыя законы Прыроды.

Чаму я пішу пра такія «інтымныя» і нават не зусім зразумелыя рэчы ў маладзёжным часопісе? Таму што хацелася б больш прыадкрыць таямніцу вашых будучых сямейных адносін. Многія беды і праблемы ў выхаванні дзяцей, разладаў у сем'ях — у няведанні і неадчуванні законаў, звязаных з паняццем ДУХОЎНАСЦІ. Але не ў рэлігійным сэнсе ад «духа святога», а ад духа чалавечага. Бо тайны ўзаемаадносін хлопца і дзяўчыны, мужа і жонкі не зводзяцца толькі да полавай задаволенасці і матэрыяльнай забяспечанасці сям'і. У іх павінна быць яшчэ і духоўнасць. І мне, скажу шчыра, жудасна робіцца, калі чую ці чытаю на старонках маладзёжных часопісаў выказванні пра тое, што неабходна ажыццявіць сексуальную рэвалюцыю. Прапаноўваецца адкрыць стрыптыз-бары, парнакінатэатры, публічныя дамы. «Чалавецтва ўступае ў Эру Рэвалюцыйнага Праміскуітэту і адзінай агульначалавечай палігамнай Сям'і. Усе людзі — Браты і Сёстры! Манагамная сям'я — гэта ханжаства, патрыярхальшчына, сталінскія хімеры, папоўшчына і цемрашальства... Маладзёжны караван моўчкі ідзе сваёй Дарогаю. Дарогаю рэвалюцыйнага Року і Групавога Сексу!» Гэта фраза з ліста Святаслава Драздова, студэнта, якому семнаццаць гадоў.

Ігнаруючы маральнасць, такія хлопцы і дзяўчаты даводзяць, што разам з сексуальнымі асветаю і выхаваннем парнаіндустрыя можа прынесці велізарны прыбытак дзяржаве. Спрабуюць вярнуцца да тэорыі сексуальнай раскаванасці Фройда. Сцвярджаюць, што сацыялізм павінен злучыць у сабе законы эканамічнага вызвалення паводле Маркса і сексуальнага вызвалення паводле Фройда, каб у такім грамадстве развівалася і ўдасканальвалася гарманічная асоба. Святаслаў нават прапануе лозунг: «Секс і Рок — рухаючыя сілы Перабудовы».

Сябры, няўжо свабода чалавека, развіццё і самаўдасканальванне асобы — у адкрыцці публічных дамоў? Не, ведама ж, не. І не пра гэта павінны гаварыць і спрачацца, а ў першую чаргу пра духоўнае і культурнае выхаванне ў сям'і, школе, грамадстве. І менавіта гэтай праблеме было прысвечана выступленне пісьменніка-сацыёлага, аўтара кніг «Тры імкненні», «Права на шчасце» Ю. Б. Рурыкава і кіраўніка клуба «Сям'я свету» Н. Б. Зыкава. «Акіян духоўнага жыцця вакол планеты Зямля» — так гучала тэма круглага стала на канферэнцыі. Удумайцеся: «Акіян духоўнага жыцця»...

Мікалай Барысавіч Зыкаў кіруе клубам «Вясёлка» ўжо дваццаць гадоў. Шмат зрабіў іхні клуб для выхавання дзяцей і бацькоў. Пачыналі з праблем фізічнага выхавання, потым сталі займацца праблемамі маральнага выхавання і вучобы ў школе, а цяпер прыйшлі да высновы, што галоўным з'яўляецца духоўнае развіццё чалавека. І аснова гэтага новага ўзроўню свядомасці закладваецца ў сям'і, сямейных клубах.

Складана зразумець, што такое «духоўнасць». Яна, хутчэй за ўсё, павінна адчувацца кожным праз яго добрыя справы, праз яго любоў да Прыроды, усяго жывога. Духоўнасць з'яўляецца тады, калі чалавек навучыцца любіць другога чалавека безумоўнай любоўю, гэта значыць без усялякіх умоў, калі ён, суперажываючы незнаёмаму ў горы, працягвае руку дапамогі. Разуменне катэгорыі «духоўнасць» звязана з усведамленнем таго, што сёння інтарэсы ўсяго чалавецтва — адзіныя для ўсіх народаў і нацый.

І не «секс і рок — рухавікі перабудовы», а духоўнасць чалавека, яго культура вызначаюць поспех развіцця краіны. Культура і духоўнасць нашага народа вялікія і маюць глыбокія гістарычныя карані. На жаль, забыліся мы пра гэта ў пошуках новых формаў баўлення вольнага часу.

Не было б у нас і трэці разводаў ад усіх шлюбных саюзаў, амаль палавіны ці то ўдалых, ці то няўдалых сем'яў, каля сарака мільёнаў адзінокіх, калі б людзі былі дабрэйшыя і цяплей ставіліся адно да аднаго. Вядома, апроч дабрыні патрэбныя эканамічныя змены, на якіх грунтуюцца грамадства і чалавечыя адносіны. Такі закон развіцця. Аднак стварыць шчаслівую сям'ю, аб'яднацца ў групу сем'яў, якія дапамагаюць адна адной пераадольваць цяжкасці жыцця, па сілах амаль што кожнай маладой пары. Бо такія аб'яднанні могуць стаць патэнцыяльнымі кааператывамі, як гэта зрабілі ленінградскі «Парастак» і маскоўская «Вясёлка», могуць наладзіць выпуск дзіцячых цацак, заняцца калектыўным выхаваннем дзяцей, арганізаваць матэрыяльную ўзаемадапамогу.

Ствараць ці не ствараць клубы маладой сям'і? Рашаць вам самім, маладыя таты і мамы.

ФОТАВЕРНІСАЖ







Ігар Саўчанка вельмі хоча
стаць прафесійным фатографам,
але пакуль што ён працуе інжынерам.
На пытанне —
чаму фатаграфуеш! —
Ігар адказаў:
«Проста выказваю свае ўражанні».
З «ураЖаннямі» Ігара Саўчанкі
мы і вырашылі пазнаёміць
чытачоў «Крыніцы».

1. Шэсце
2. Партрэт
3. У прыцемках



Святлана БАРТОХАВА

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАХАННЕ

**Матэрыялы рубрыкі «Некалькі інтэрв'ю на вечную тэму» нечакана для мяне «справакавалі» нашых чытачоў на эмацыянальную шчырасць, непрадказальныя адкрыцці і нават... на катэгарычныя лозунгі з мноствам клічнікаў. Мне дасылалі ілюстрацыі да рубрыкі: малюнкі і фотаздымкі на «вечную» тэму. Былі ў пошце і «самавольныя інтэрв'ю», гэта значыць вершаваныя адказы на пытанні з часопіса. На жаль, у літаратурных адносінах вершы не вытрымліваюць крытыкі, таму цытаваць іх я не адважуся.**

**Большасць лістоў прыйшло ад прадстаўнікоў моцнага полу, гэтаму я і падзівілася, і ўзрадавалася. Лічыцца, што размовы аб пачуццях цікавяць мужчын значна менш, напрыклад, чым спрэчкі аб футболе, але самі чытачы актыўна абвяргаюць традыцыйнае меркаванне псіхолагаў...**

«Дзякуй за інтэрв'ю! Шкада, што ў час майго дваццацігоддзя не было на свеце «Крыніцы». Можа, я інакш ставіўся б да жаночага полу і лёс мой склаўся б па-іншаму... Так атрымалася, што ў юнацтве мне даводзілася сябраваць з хлопцамі, якія цынічна адносіліся да дзяўчат, бачылі ў іх толькі прадмет для забавы. Ніхто ні да каго ніколі не заляцаўся, проста «хапаў» сваё ды яшчэ выхваляўся перад сябрамі. Добра, што вы даяце моладзі магчымасць параўнаць свае адносіны да кахання з тым, што кажуць пра яго разумныя людзі, якія дзеляцца ўласным вопытам, а не выкладаюць навуковыя ісціны па «вечным» пытанні. І дзякуй усім, хто быў такі шчыры на старонках часопіса. Уявіў сябе на іх месцы і нават скурчыўся: я б так не змог...» (Аляксандр КЛЫПАЎ, 28 год, г. Салігорск).

«Чытала інтэрв'ю і думала: а мае аднакласнікі ніколі не будуць так прыгожа гаварыць пра пачуцці. Па-мойму, яны дзяўчат і за людзей не лічаць...» (Марына А., 16 год, Магілёўская вобл.).

«Стан грамадства вызначаецца яшчэ і тым, як у гэтым грамадстве ставяцца да жанчыны. У нас усё не так ужо і добра, таму што жанчына перастала быць аб'ектам для захаплення, да яе ставяцца як да ламавіка... «Інтэрв'ю на вечную тэму» пасяляюць хоць якуюсьці надзею на тое, што не перавядуцца ўсё-такі мужчыны, здольныя кахаць і паважаць у слабым поле жаноцкасць і чысціню...» (Цімафей КУПРЭЙЧЫК, г. Растоў-на-Доне).

«Няхай псіхолагі, сексолагі і іншыя «...лагі» навучаць нас, як трэба абыходзіцца з дзяўчынамі, каб ні мы, ні яны не адчувалі сябе дзікунамі...» (Нікіта КАЛУНОЎ, 20 год, г. Валкавыск).

«Так хочацца адчуваць сябе прыгожай і каханай, каб хтосьці ахоўваў, дарыў кветкі, насіў на руках... На жаль, часы рыцараў прайшлі, абагаўляць дзяўчыну не прынята — засмяюць...» (Крысціна А., 18 год, г. Львоў).

«Асабіста я, напрыклад, пагарджаю жаночым полам. Сярод маіх знаёмых няма ніводнай, якая магла б выклікаць хаця б крышачку павагі, не кажу ўжо пра каханне і абагаўленне. Усе яны кураць, п'юць, брыдкасловяць, лёгка ідуць на «сувязь». Уяўляю, якую рэакцыю выклікалі б у іх класічныя заляцанні альбо падораныя кветкі... Як можна быць рыцарам побач з такімі? Мабыць, тым, хто даваў інтэрв'ю, проста пашанцавала ў жыцці на прыстойных жанчын. Ведаць бы, дзе іх шукаць, прыстойных...» (Сяргей ЛІСКО, 22 гады, г. Віцебск).

«Кампліменты, кветкі, каханне і ўсялякая іншая лухта даўно не ў модзе, і няма чаго агітаваць народ распускаць ружовыя сліні перад бабамі!.. Прэч агідныя ўздыхі! Няхай жыве здаровы секс! Няхай жыве сексуальная свабода!..» (Аляксандр МАРОЗАЎ, 24 гады, Гомельская вобл.).

«Хачу падзяліцца думкамі, сугучнымі закранутай вамі «вечнай» тэме... Цяпер я ведаю, што на свеце ёсць дзяўчына з цудоўнымі рысамі твару, прыемным голасам і багатым унутраным светам. Усведамленне гэтага напаўняе маё жыццё сэнсам і святлом... Я кахаю — і свет цудоўны! Цяпер я думаю, што каханне пачынаецца з замілавання ад велічы жаночай прыгажосці, увасобленай у адзіным вобразе, які выклікае ненатольную прагу абагаўлення...» (Сяргей БЕЛЫ, Магілёўская вобл.).

**Дзякуй усім, хто напісаў мне. Здаецца, тэму кахання на старонках «Крыніцы» закрываць не прыйдзецца — цікавасць да яе тэрміна даўнасці не мае. Таму прапаноўваю вам безтэрміновую анкету. Хацелася б, каб вы вярталіся да яе безліч разоў, незалежна ад таго, колькі тыдняў, месяцаў і нават гадоў пройдзе з моманту публікацыі.**

**Неабавязкова адказваць па ўсіх пунктах адразу, можна аддаць перавагу аднаму альбо некалькім з іх — на свой погляд. Пры неабходнасці вашыя лісты пракаментуюць спецыялісты, самыя цікавыя мы надрукуем.**

**Ну вось:**

**1. «Вечнае» пытанне: што такое каханне!**

**2. Каму з дзеячоў літаратуры і мастацтва вы хацелі б задаць «вечнае» пытанне!**

**3. Вашы «інтымныя» пытанні да псіхолага!**

**4. Вашы «інтымныя» пытанні да сексолага!**

**5. Падзяліцеся асабістым— шчаслівым альбо не вельмі — вопытам у каханні.**

**6. Прапануйце тэму для чытацкай дыскусіі.**

**І яшчэ: магчыма, у кагосьці назбіралася мноства іншых пытанняў, адказы на якія цяжка шукаць у адзіноце. А таму «Крыніца» аб'яўляе**

**КОНКУРС АНКЕТ НА «ВЕЧНУЮ» ТЭМУ.**

**Свае варыянты вы можаце дасылаць да канца 1988 года. Вынікі конкурсу будуць надрукаваны, паспрабуем усе разам адказаць на пытанні, якія з'явяцца.**

**ПІШЫЦЕ!**

Барыс ПЯТРОВІЧ

# УСПАМІН. ЯБЛЫКІ.

АПАВЯДАННЕ

Гэта было так даўно, што той час можна назваць дзяцінствам. Альбо юнацтвам, бо я ўжо любіў кагосьці яшчэ акрамя мамы. Кахаў моцна, гэтаксама моцна спадзеючыся на ўзаемнасць. Яна, здаецца, была маёй аднакласніцай... А мо і не. Але не гэта галоўнае; галоўнае, што я кахаў. І яна ведала пра тое гэтаксама, як вы ведаеце зараз.

Так, але я не хацеў пісаць пра каханне. Я думаў распавесці пра тое, што было так даўно і схавалася ўжо за чарадой іншых успамінаў — больш блізкіх і таму больш ясных. Вы заўважалі, пэўна, як некалькі светлых шкельцаў, складваючыся разам, пакрываюцца смугой. І чым больш празрыстых шкельцаў, тым за большым туманам бачыцца тое, што мы хочам праз іх разгледзець. Так і з маёй памяццю...

Зусім заблытаўся...

Я хачу напісаць зусім не пра гэта. Я хачу напісаць пра дзяцінства. Пра тое, маё. Якое гэтак востра тады адчувалася мной і знаходзілася ўва мне. Пра час, калі здавалася, што ўсё забараняюць і табе кроку нельга ступіць без дазволу. Але толькі зараз стала зразумела, што менавіта тады і былі ў цябе гады сапраўднае волі...

І зноў не пра тое.

Я хачу напісаць не пра дзяцінства наогул, а пра некалькі выпадкаў. Яны гэтаксама дакладна і бясспрэчна былі, як і тое, што нейкую хвілю назад у вас з'явілася жаданне кінуць чытаць гэтае апавяданне, бо вам нецікава.

Так, і гэтае і тое было. Гэтае — нядаўна, тое — даўно. Аднак усё ўжо ў мінулым, і таму стала роўным між сабою...

### 1.

Сонны сад рыпеў на ветры дрэвамі. Такімі старымі, што нат пры лёгкім дотыку ад сгвалоў адломліваліся кавалачкі кары, агаляючы сухое цела яблынь, і яно плямамі бялела ў цемры.

У гэты незнаёмы сад нас прынадзіў пругкі стук яблык-падалак аб зямлю. Вецер даносіў іх салодкі пах, і рот напаўняўся слінай. Мы не вытрымалі. Гнілая, пазелянелая ад старасці і вільгаці дошка ў плоце зламалася без трэску. Яна нібы ціхенька ўздыхнула ад болю і мякка перагнулася напалам.

Першыя яблыкі гучна храбусцелі і прымушалі нас сцінацца ад страху, што нехта пачуе. А потым мы асмялелі... Калі нашыя пазухі сталі нагадваць жываты цяжарных жанчын, мы сабраліся сыходзіць. І тут я ўбачыў успышку агню, якая вылецела з цемры. Стрэл пачуўся амаль адначасна. «Гэта вартаўнік!..» — падумаў я і закрычаў ад болю...

Вярнуўшыся з цемры свядомасці ў цемрыва ночы, я ўбачыў, што сябры мае ўцяклі, адзін я застаўся ляжаць. Ногі здаваліся мне чужымі, хоць я і востра іх адчуваў. Яны, нібы хворая частка другога чалавека, ляжалі побач.

— Папаўся, галубчык!..— былі першыя словы, якія я хацеў пачуць, ведаў, што пачую, і пачуў, калі наблізіўся вартаўнік. Нада мной з радасным дыханнем схіліўся твар. Мне захацелася ўкусіць яго. Але я ляжаў ціха, без стогнаў, быццам мёртвы, і баяўся толькі, каб дзед не заўважыў слёзы ля вачэй. І дамогся свайго. Вартаўнік адхіснуўся ад мяне. Ён спалохаўся. Стрэльба ўпала побач са мной. У паветры папоўз востры пах тытуню — дзед стаў шнырыць у кішэнях, шукаць запалкі. Іх не было. Напалову лысая, прапахлая потам галава ўпала мне на грудзі, туды, дзе павінна быць сэрца. Я целам адчуў, як калючая скура яго твару зморшчылася, сабралася ва ўсмешку.

— Вады, хіба, прынесці і лінуць на яго, каб ажыў,— сказаў сам сабе вартаўнік. Устаў і пайшоў, доўга падцягваючы адну нагу і хутка ступаючы другой. «Відаць, кульгавы...» — падумаў я.

Да гэтага часу боль пакінуў усё цела і застаўся толькі маленькай гарачай плямінкай у правым калене. Вартаўнік не бачыў у цемры мой твар, а значыць, і не мог запомніць мяне! І зараз трэба было ўцякаць, пакуль яго няма. Хапаючыся за глыбокія расколінкі-зморшчыны ў кары дрэва, я ўстаў і прытуліўся да яго, па-буслінаму стоячы на адной назе. Але ўстаць было самым лёгкім. Калі я працягнуў правую нагу наперад і паспрабаваў абаперціся на яе, розум мой памутнеў ад болю, які штыком пранізаў увесь бок і ўдарыў у галаву. Я зноў закрычаў. І як падкошаны ўпаў тварам проста на прыклад стрэльбы. Аднак болю ад разбітага носа я не адчуў. Я адчуў толькі цеплыню і брыдкую макрэчу салёнае крыві, камякаватую слізкасць у роце.

Ад усяго гэтага можна было страціць прытомнасць. Не ведаю, чаму так не здарылася. Мажліва, таму, што ў галаве пульсавала-працавала адна думка: «Уцякаць!..» Стрэльба была дарэчы. Абапіраючыся на яе спачатку проста як на палку, я ўстаў, а потым абапёрся, як на мыліцу, і пайшоў. Ля самай дзіркі ў агароджы я пачуў ззаду крокі вартаўніка, падобныя на кропкі-працяжнікі азбукі Морзе. З-за плота я стаў назіраць за дзедам. А той падышоў да месца, дзе я раней ляжаў, спыніўся і ўвесь скалануўся; разгублена бразнуўшы дужкай, вядро стала на зямлю.

— У-у-у, гад, уцёк,— голасам, у якім адчувалася здароўе і было нешта воўчае, загуў-завыў дзед і стаў хутка хадзіць вакол: пэўна, усё ж спадзяваўся знайсці мяне. Крокі ягоныя ператварыліся ў суцэльны густы шоргат лісця, і мне падумалася, што яно сухое, калі можна гэтак шамацець.

Уздыхі шкадавання і гневу, якія ішлі з саду, мне абрыдлі. Я ўжо ведаў, што рабіць. Я падняў стрэльбу і накіраваў яе ў цемру сада. Але стрэльба была аднаствольная...

Дзед да таго часу супакоіўся і, расчаравана ступаючы, пайшоў у глыбіню саду. Забыўся нават на вядро. У вадзе ціха адбіваліся (я бачыў!) дзірачкі зорак. Да мяне падбеглі тыя, з кім я раней не вытрымаў паху яблык і палез у сад.

— Што з табой? — з непатрэбным мне спачуваннем спытаў адзін з іх.

— Нага...— я не трымаў на іх зла і таму гаварыў спакойна.

Яны зразумелі ўсё. Асцярожна, як нешта крохкае, узялі мяне пад рукі, павялі дахаты...

Я не буду апісваць, што было з маці, калі яна мяне ўбачыла. Такія сцэны вы ўжо шмат разоў чыталі. І не хачу пісаць пра доўгія і нудныя месяцы, праведзеныя ў шпіталі, дзе нейкай разнастайнасцю вылучаліся хіба што дні аперацый. А іх, аперацый, было шмат. Безпаспяховыя, марныя, непатрэбныя... Скажу толькі, што там я пачаў пісаць для вас. Нічога не скажу я і пра суд над дзедам-вартаўніком, на якім яго апраўдалі, бо прызналі вар'ятам. Усё ў гэтым жыцці тлумачыцца проста...

З таго часу прайшло шмат гадоў. Я пісаў ужо, што было гэта ў далёкім, даўнім дзяцінстве, якое скончылася для мяне разам з тым стрэлам. Цяпер хаджу гэтаксама, як і той дзед. Правая нага не згінаецца ў калене, і я паўколам доўга цягну яе па зямлі...

І яшчэ: я забыў напісаць, што цяпер я працую вартаўніком у калгасным садзе. У мяне ёсць стрэльба...



Барыс Пятровіч — журналіст. Жыве і працуе ў Гомелі. Лёс склаўся так, што школу Барыс скончыў толькі ў дваццаць гадоў. Але ён выявіў упарты характар. Апавяданне «Успамін. Яблыкі» — дэбют Барыса Пятровіча ў рэспубліканскім друку.

### 2.

Дзверы хляўчука бязгучна пагойдваліся ўлева-ўправа пад лёгкім летнім ветрыкам. Вечаровая цішыня прагна ўслухоўвалася ў сябе. Мае крокі аддаваліся ў ёй незвычайна чутна і гулка. Быццам недзе пада мной была пустата.

Адно не выключала другога. Падумаўшы гэтак, я ўзяў заступ, што прытоена стаяў ля сцяны.

Зямля лёгка паддавалася рыдлёўцы, хоць сцяжына і была добра ўтаптаная. Першыя паўметра я выкапаў неўпрыкметку. Далей стала цяжэй, на лбе выступіў казытлівы пот, галава стала цяжкой ад напружання. Яшчэ праз паўметра, калі немагчыма было, седзячы наверсе, выцягваць рыдлёўку з жоўтым, бы пафарбаваным, пяском, я падняўся з каленяў.

Нейкай пэўнай думкі не было. Проста стала цяжка. Я выпраставўся — да хрусту ў касцях — і агледзеўся. За рэдкім плотам пад яблыняй пластом ляжалі падалкі, далей чырванелі на лівах тлустыя памідоры, яшчэ далей, ля небасхілу, сінеў лес.

Я крыху пастаяў і стомлена пасунуўся з двара на вуліцу. На адной з лавак сядзелі двое. Перашэптваліся,— і яна ціхенька смяялася.

— Паслухай, Алесь, давай да цябе па яблыкі злазім,— крыкнуў хлопец. Па голасе я пазнаў суседа Кольку. «Злазім да цябе па яблыкі...» — было нашым даўнім жартам.

— Пачакайце. Я вынесу...

У прыпол сарочкі я хутка назбіраў белага наліву і накіраваўся на вуліцу. Дзверы хлеўчука раптам пранізліва зарыпелі. Я азірнуўся на поўнай хадзе і... з усяго маху ўляцеў у яміну з рыдлёўкай.

Калі я ачуўся, яблыкі яшчэ раскочваліся. Але рыдлёўка валялася ўжо далёка наперадзе. Тугі боль сцяў-скаваў цела. Я выпаўз з яміны, трохі паляжаў. Першыя буйныя зоркі віселі нізка-нізка і працягвалі да мяне свае вострыя праменьчыкі. Адна слязінка забралася ў вуха і казытала там.

Я ўстаў і пайшоў на вуліцу.

— А дзе ж хвалёныя яблыкі? — тузануў мяне за плячо Колька, калі я падсеў побач.

— Там...

— Мо збегаць самому?

— Давай... Вечар сёння ў мяне нейкі няўдалы, тлумны,— сказаў я дзяўчыне пасля таго, як Колька пайшоў.— Яміну не выкапаў, яблыкі рассыпаў... І хляўчук не зачыніў... Забыўся. Ты прабач, пакіну цябе. Пайду, зачыню дзверы.

### 3.

Папярочкі ападалі, асыпаліся адна за адной. А потым упала і ўся лесвіца. Аднак на самай вяршаліне дрэва застаўся вісець чалавек. Ён трымаўся за галіну адной рукой, а другой усё яшчэ стараўся дацягнуцца да яблыка і нібы не заўважаў, што драбіны развaліліся. Галіна ад яго важкага цела згіналася і патрэсквала, але перш чым яна адламалася, чалавек паспеў нагамі абхапіць дрэва. Цяпер яблык быў блізка. Чалавек падабраў галіну, рэзка падцягнуў яе і сарваў яблык.

Можна было святкаваць перамогу. Чалавек усміхнуўся некаму ўверсе, можа, сонцу, ласкава абцёр яблык, павярнуўся да мяне і цяпер нарэшце я добра разгледзеў яго: невыразны, смуглаваты, круглы твар, тонкі нос, чорныя, жывыя, нават вяртлявыя вочы, маленькія пульхныя губы — чалавек нібы пазіраваў мне, і я адчуў сябе фатографам. Вяршаліна яблыні амаль не засланяла твар, але сонца падала звысоку, і таму пад носам плямаю лёг чорны цень. Я, калі б быў фатографам, крыху прыўзняў бы яму галаву і папрасіў бы адламаць ад яблыні яшчэ адну галіну. Каб не замінала...

Чалавек трохі ссунуўся па дрэве ўніз, добра ўладкаваўся на тоўстай галіне, потым зашпіліў гузікі на кашулі, сцёр са штаноў шматкі кары, яшчэ раз абцёр яблык і смачна адкусіў яго...

Муляж гэтага яблыка цяпер захоўваецца ў музеі. Той чалавек вырас і стаў героем. Пра яго напісана шмат успамінаў. І найпершыя — мае. Яго смяротны подзвіг гісторыкі часта параўноўваюць з тым, што здзейсніў ён у дзяцінстве, дастаючы яблык, калі пад ім, адбіраючы дарогу назад, развaліліся драбіны.

А я шкадую, што не змог яго ў той дзень сфатаграфаваць.







Мал. Сяргея ФІЛІПАВА.

Леанід **КАЗЛОЎСКІ**

# ТОЛЬКІ МОДА?



Склалася думка, што папулярны сёння сярод моладзі атлетызм — гэта чарговая мода на заходні «культурызм». Шкада, што незаслужана забываецца такая багатая гісторыя нашай айчыннай атлетыкі. Здаўна славілася наша зямля асілкамі — і не толькі ў былінах і песнях. Ад Перасвета да матроса Кошкі захавала народная памяць імёны волатаў.

Павышаная цікавасць да атлетызму ў Расіі з'явілася на пачатку нашага стагоддзя. Вядучых атлетаў тады ведалі ўсе. Іх фатаграфіі друкавалі газеты, часопісы, у вітрынах крам выстаўляліся партрэты. Сенсацыйным поспехам карысталіся атлетычныя нумары ў цырках — падняцце гір і штанг, конкурсы на лепшую фігуру. Папулярныя былі часопісы «Стадион» і «Геркулес». Дэвізам часопіса «Геркулес» служылі цудоўныя словы: «Кожны чалавек можа і павінен быць дужы». Не магу ўтрымацца ў сувязі з гэтым, каб не заўважыць, што пры сучасным прагрэсе айчыннага спорту ў краіне не выдаецца ніводнага часопіса па атлетызме...

Ля вытокаў айчыннай атлетыкі стаяў пецярбургскі доктар Уладзіслаў Францавіч Краеўскі. Аб'яднаўшы прыхільнікаў «жалезнай гульні», доктар Краеўскі стварыў у 1885 годзе першы ў Расіі гурток аматараў атлетыкі. З гэтага гуртка выйшлі вядомыя атлеты І. Лебедзеў («Дзядзька Ваня»), С. Елісееў, Г. Гакеншміт, Г. Меер... Неўзабаве былі створаны гурткі аматараў атлетыкі ў іншых гарадах.

Нядоўга заставалася «атлетычнай ускраінай» і Беларусь. Калі У. Ф. Краеўскага заслужана называюць «бацькам рускай атлетыкі», дык на Беларусі такую ж ганаровую годнасць можа мець Уладзіслаў Сямёнавіч Сакалдынскі, які выступаў у цырках пад псеўданімам Гары. Ён удзельнічаў у чэмпіянатах па французскай барацьбе, дэманстраваў сілавыя нумары, удзельнічаў у конкурсах на лепшую фігуру. На адным са спаборніцтваў у Мінску Уладзіслаў устанавіў рэкорд для атлетаў лёгкай вагавай катэгорыі — жым дзвюма рукамі штангі вагою 214 фунтаў.

Грымела слава і гродзенца — Якуба Чахоўскага. Гэты цыркавы атлет меў надзвычайную сілу, а ягоная фігура і цяпер з'яўляецца прыкладам для атлетаў. Пры росце 180 см вага ў яго была 125 кг, аб'ём грудзей — 138 см, шыі — 52 см, біцэпса — 50 см.

З беларускай атлетыкай звязана таксама імя Аркадзя Александровіча. Ураджэнец Мінска, ён вярнуўся на радзіму ў 1913 годзе з мэтаю адкрыць філіял пецярбургскага спартыўнага таварыства «Санітас». Разам з Сакалдынскім ім быў адкрыты атлетычны клуб па вуліцы Петрапаўлаўскай (цяпер Энгельса). Той год і стаў годам нараджэння беларускай атлетыкі, так што цяпер мы можам адзначаць 75-годдзе гэтага віду спорту.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ветэраны «Санітаса» сталі спартыўнымі інструктарамі Усенавуча. Многія старажылы Мінска яшчэ памятаюць спартыўныя святы з удзелам атлетаў са Усенавуча ў былым Губернатарскім садзе (цяпер парк імя Горкага).

З першых гадоў Савецкай улады развіццё атлетызму пайшло па шляху цяжкай атлетыкі, барацьбы, гіравага спорту. Элементы атлетызму трывала ўвайшлі ў праграму падрыхтоўкі спартсменаў многіх відаў спорту.

У 60-х гадах энтузіязм аматараў «жалезнай гульні» ў Мінску прывёў да спробы адрадзіць турніры атлетаў. Былі праведзены спаборніцтвы па сілавым трохбор'і: жым штангі лежачы, прысяданне са штангаю на плячах і станавая цяга. Праграма вольных практыкаванняў ацэньвала прапарцыянальнасць развіцця цела, яго прыгажосць. Аднак знайшліся людзі, якія зрабілі ўсё, каб падсекчы крылы гэтаму віду спорту — спатрэбілася амаль дзесяцігоддзе для яго адраджэння. І зноў мы павінны падзякаваць энтузіястам.

Другі раз атлетыка заявіла пра сябе на ўсесаюзнай арэне ў 70-х гадах. Першы рэспубліканскі турнір прайшоў у 1979 годзе па праграме вольных практыкаванняў і сілавым трохбор'і. У 1967 годзе была створана Усесаюзная федэрацыя атлетызму на чале са славутым спартсменам, алімпійскім чэмпіёнам Юрыем Уласавым. У студзені 1988 года створана рэспубліканская федэрацыя атлетызму на чале з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР А. В. Сцепаненкам.

Беларускія атлеты надзейна ўтрымліваюць вядучыя пазіцыі ва ўсесаюзным атлетызме. Сённяшні поспех стаў магчымы дзякуючы вялікаму энтузіязму і асабістаму ўкладу актывістаў беларускай атлетыкі В. Святлова, У. Александровіча, В. Багдановіча, А. Каташынскага, В. Драздова...

**Фота Уладзіміра КАЦАПАВА.**

ГІМНАСТЫКА ДЛЯ ВАС

Таццяна **ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Будзьце прыгожыя

**У юнацтве ўсім нам уласцівае асабліва вострае ўспрыняцце навакольнага свету. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра асаблівасці складу цела, якія ў вачах іх уладальнікаў набываюць характар катастрофы. Напэўна таму так шмат у рэдакцыйнай пошце лістоў ад зусім юных нашых чытачоў: «Як пахудзець, папаўнець, стаць вышэйшай, ніжэйшай, танейшай, паўнейшай!» На жаль, чалавечае цела не паддаецца трансфармацыі настолькі, каб можна было дапамагчы ўсім жадаючым. Несумненна, што з часам вы станеце ставіцца да гэтага нашмат больш спакойна, магчыма, з доляй гумару, надаючы большае значэнне іншым каштоўнасцям — здароўю (фізічнаму і духоўнаму), свайму ўнутранаму зместу, уменню жыць побач з іншымі людзьмі...**

**Зрэшты, карэкцыя і паляпшэнне магчымыя! З дапамогаю гімнастыкі, рацыянальнага харчавання, работы па фарміраванню паставы, паляпшэння паходкі. У гэтым нумары мы друкуем практыкаванні для тых, хто лічыць, што ў яго паўнаватая талія. Мы ўзялі іх з папулярнай кнігі польскай журналісткі С. Вяндроўскай «100 хвілін для прыгажосці і здароўя».**

1. **ЛОКАЦЬ — КАЛЕНА.** Устань, ногі на шырыні плячэй, ступні паралельныя, рукі на патыліцы, локці як мага далей адвядзі назад. З гэтай паставы на «раз» нахіліся нізка ўперад, моцна павярнуўшы тулава ўбок і, дакрануўшыся локцем да правага калена,— выдых. Калені ўвесь час выпрастаныя. На «два» выпрастайся, моцна адвёўшы локці назад,— удых. На «тры» нахіліся, дакрануўшыся левым локцем да правага калена. На «чатыры» выпрастайся. Паўтары практыкаванне 10—20 разоў.

2. **БАКАВЫЯ НАХІЛЕННІ.** Стань левым бокам да крэсла (канапы) на адлегласці кроку. Левай нагою, выпрастанай у калене, абапрыся (ступнёю) на крэсла. На «раз» нахіліся ўніз, дакранаючыся пальцамі рукі да правай, апорнай, нагі. На «два» выпрастайся. На «тры» нахіліся ўніз — улева, дакранаючыся пальцамі рукі да левай ступні, якая абапіраецца на крэсла. На «чатыры» выпрастайся. Практыкаванне паўтары 5—10 разоў. Змяні зыходную паставу, абапрыся правай нагою і выканай практыкаванне ў другі бок столькі ж разоў.

3. **ПЕРАНОС НАГІ.** Ляж на спіну, рукі сагні ў локцях, далонямі ўніз. Сагні правую нагу ў калене, перанясі яе ўлева, моцна павярнуўшы сцягно, дакраніся каленам падлогі. Левую нагу выпрастай. Пасля вярніся ў зыходную паставу, павольна выпростваючы калена. Тое ж зрабі левай нагою, управа. Практыкаванне паўтары 10—15 разоў кожнай нагою.

4. **КРУГАВЫЯ РУХІ ТУЛАВАМ.** Устань, ногі на шырыні плячэй, ступні паралельныя, рукі на сцёгнах. Цяпер зрабі тулавам кругавыя рухі: уперад, управа, назад, улева. Потым зрабі практыкаванне ў адваротны бок. Паўтары па 10—15 разоў у кожны бок.

5. **ПАВОЛЬНЫЯ ПАВАРОТЫ ТУЛАВА.** Сядзь на падлогу, ногі развядзі ў бакі, рукі выцягні ўперад на ўзроўні плячэй. Павольна павярні тулава ўлева наколькі зможаш, потым гэтаксама ж павольна павярні тулава ўправа. Зрабі 6 такіх паваротаў і ляж на спіну, цалкам расслабіўшы мышцы. Паўтары серыю практыкаванняў 3—4 разы. Памятай пра мернасць дыхання.

6. **З ПАСТАВЫ ЛЕЖАЧЫ НА БАКУ.** Гэтае практыкаванне досыць цяжкае, але, выконваючы яго, ты адразу «забіваеш двух зайцоў»: яно спрыяе пахудзенню ў таліі і ў сцёгнах.

Ляж на левы бок, нагу трохі сагні ў калене, высунуўшы яго крышачку ўперад, правую, выпрастаную, нагу пакладзі на левую шчыкалатку. Рукамі, сагнутымі ў локцях, упрыся ў падлогу, далонь на далоні, лоб пакладзі на рукі. З гэтай паставы на «раз» сядзь, адначасова падымаючы левую, сагнутую, руку над галавою, а правай рукою вазьміся за шчыкалатку левай нагі. Правую нагу пакінь выпрастанай. Калі ты адразу не зможаш дастаць да шчыкалаткі, не засмучайся. Праз некалькі дзён табе гэта неадменна ўдасца. На «два» ляж на бок, пакладзі галаву на далоні. Памятай пра мернасць дыхання. Зрабі спачатку практыкаванне 3 разы, потым павяліч колькасць паўтарэнняў да 10. Затым перавярніся на другі бок і памучся яшчэ 3—10 разоў.

Практыкаванне не толькі змяншае аб'ём таліі і сцёгнаў, але і развівае гнуткасць. Раю ўключыць яго ў ранішнюю гімнастыку. Аднак запомні: добрыя вынікі не прыйдуць самі па сабе. Трэба набрацца цярпення...

ГУМАР

Андрэй
ХАДЗІКАЎ

## ВОПЫТ МАРАЛІЗАЦЫІ

Георгій Пасконны, жуір і наш мікрараённы першацвет, лагодным ліпеньскім ранкам змяніў амплуа.

Ледзь толькі зязюлькі ў імпартных ходзіках адкукавалі золак, як, бухнуўшы дзвярыма пад'езда, Жора выбег на сярэдзіну нашага незаплямленага першым выгулам меншых братоў двара.

У трусах з прыпухлай палоскаю і ў майцы, якая на паях з густой расліннасцю цэнзурна прыкрывала збольшага негліжыраваны вобраз першай любові Пасконнага, ён выглядаў досыць спартыўна. Ансамбль завяршаў снарад у выглядзе стальнога шара на тросе з ручкаю, што толькі з-за нейкага непаразумення лічыцца ў рэестры спартыўных прыстасаванняў як молат.

— Алімпіяда не толькі для алімпійцаў! — гучна прадэкламаваў Георгій і тапачкамі сорак чацвёртага памеру пачаў утрамбоўваць пляцоўку для кідання молата.

У вокнах усіх кватэр, што выходзілі на двор, выкрышталізаваліся лідэры сем'яў абодвух полаў, занепакоеныя дэмакратызмам тэорыі верагоднасцей і высокай спартыўнай формай Пасконнага.

Тым часам наш спартсмен акрэсліў вялікім пальцам нагі шырокі круг і, папляваўшы на далоні, пачаў раскручваць снарад.

На дзевятым абароце ў апошнім акне зніклі сумненні, што молат прашые не толькі першае шкло, а пасля і другое, але і зможа зрабіць пару рыкашэтаў па імпартнай фанероўцы і хрустальных горках.

На трыццаць восьмым абароце дзверы трох пад'ездаў сінхронна расчыніліся і да Жоры далучыліся трое прадстаўнічых мужчын у самавітых піжамах. Нядоўгія перамовы, якія суправаджаліся кампліментарным цоканнем языкоў і паляпваннем па біцэпсах і трыцэпсах Пасконнага, закончыліся ўручэннем візітовак старшыні мясцовага прафсаюза работнікаў разумовае працы, дырэктара рэгіянальнага інтурбюро і начальніка раённага таварыства дружбы...

Праз два месяцы авіярэйсам Жора быў дастаўлены на зімовыя Алімпійскія гульні па льготнай пуцёўцы і нядблага прабавіў час.

Увогуле, удзел Пасконнага ў Гульнях, няхай і ў якасці турыста, уяўляецца мне досыць заканамерным.

Мараль: лозунг моцны актуальнасцю.





## У аб'ектыве

## ЗІМБАБВЕ

ЗІМБАБВЕ • ЗІМБАБВЕ

Фотарэпартаж
Юрыя СОМАВА





